• выдаецца са жніўня1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

3 лютага 1996 г.
субота, №№ 32-33
(22835-22836)




# ЗВЯЗДА

## ПРЭЗІДЭНТ ВЫСОКА АЦАНІЎ «АЛМАЗ»

**2 лютага Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з падраздзяленнем спецыяльнага прызначэння Міністэрства ўнутраных спраў «Алмаз».**

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Аляксандр Лукашэнка даў высокую ацэнку гатоўнасці спецпадраздзялення ў выкананні яго галоўнай функцыі — забеспячэння стабільнасці і грамадскага парадку ў Беларусі. Прэзідэнт рэспублікі даў распараджэнні аб неабходнасці аснашчэння падраздзялення МУС «Алмаз» неабходным спецабсталяваннем еўрапейскага стандарту і адпаведным матэрыяльным забеспячэннем.

Эксперты, якія прысутнічалі на сустрэчы, высока ацанілі прафесіянальныя навыкі падрыхтоўкі супрацоўнікаў элітарнага спецпадраздзялення МУС, гатовых да дзеянняў у самых крайніх, непрадбачаных сітуацыях.

**БЕЛТА.**

## С.ШАРЭЦКІ АДПРАЎЛЯЕЦЦА Ў ШВЕЙЦАРЫЮ

**Як паведаміла прэс-служба беларускага парламента, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі ўзначаліў афіцыйную дзяржаўную дэлегацыю, якая прымае гэтымі днямі ўдзел у міжнародным эканамічным форуме ў Давосе (Швейцарыя).**

Прадугледжваецца, што адбудуцца рабочыя сустрэчы кіраўніка вышэйшага заканадаўчага органа нашай рэспублікі з кіраўніцтвам Еўрапарламента, прэзідэнтамі Польшчы, Балгарыі і іншых краін.

**БЕЛТА.**

## «МІНІРАВАЛІ» БУДЫНКІ, УЗЯЛІСЯ ЗА САМАЛЁТЫ

**31 студзеня, каля поўначы, у дзяжурную часць упраўлення ўнутраных спраў на транспарце «Белавія» паступіў трывожны сігнал.**

Невядомы паведаміў па тэлефоне аб замініраванні самалёта, які 1 лютага павінен быў вылецець у Расію.

На шчасце, трывога аказалася дарэмнай. Работнікі міліцыі неўзабаве затрымалі «жартаўніка». Ім аказаўся непаўналетні С. Абставіны інцыдэнта расследуюцца. А бацькам давядзецца расплачвацца за «гумар» сына штрафам у некалькі мільёнаў.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## НЕАПРАЎДАНАЕ ЗВЕРСТВА

**У панядзелак у Лідскую раённую бальніцу з пасляродавай траўмай змешчана 20-гадовая работніца аднаго з мясцовых саўгасаў.**

У суботу яна нарадзіла дома дзяўчынку. Але ўласная маці хворай, пенсіянерка, вынесла нованароджаную ў хлеў. Трупік дзіцяці быў знойдзены толькі ў панядзелак раніцай. Вядзецца разбор. Але не думаю, што падобнае зверства будзе апраўдана.

**Аляксандр ГЕРАСІМАЎ, прэс-цэнтр МУС.**



**Камарын. Зіма.**
**Асаблівы народ, якому ніколі не бывае холадна і сумна, — хлапчукі.**
**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

## КАЛЕКТЫВУ ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»

Сардэчна віншую калектыў выдавецтва «Беларусь» з 75-годдзем з дня заснавання. Гэта знамянальная падзея ў беларускай культуры. Ваша выдавецтва стала першым беларускім дзяржаўным прадпрыемствам па выпуску нацыянальнай кнігі, у якой адлюстравана гісторыя нашай Бацькаўшчыны, яе культурныя і мастацкія набыткі. Першымі кнігамі выдавецтва былі творы Я.Купалы, Я.Коласа, К.Крапівы, М.Лынькова, З.Бядулі, К.Чорнага, Ц.Гартнага, а таксама шматлікія падручнікі для беларускіх школьнікаў. За час сваёй дзейнасці ваша выдавецтва стала крыніцай нацыянальнай асветы, падрыхтавала для масавага чытача папулярныя серыі «Культура і тэхніка», «Бібліятэка работніцы і сялянкі», «Для ўмелых рук» і іншыя.

У пасляваенныя гады былі надрукаваны грунтоўныя працы пра неўміручы подзвіг беларускага народа ў барацьбе за вызваленне Радзімы ад фашысцкай акупацыі. Набылі шырокую вядомасць франтавыя і партызанскія ўспаміны, мемуарныя творы многіх выдатных людзей Беларусі.

Шаноўныя выдаўцы, вас па праву можна назваць асветнікамі. Сваёй штодзённай працай вы ўзбагачаеце духоўнае жыццё грамадзян нашай дзяржавы, лепшымі выданнямі прадстаўляеце Рэспубліку Беларусь за яе межамі.

Спадзяюся, што дзякуючы вам і ў далейшым знойдуць свайго чытача творы, у якіх праўдзіва і поўна будуць адлюстраваны факты гісторыі і сучаснага жыцця краіны, што, безумоўна, паспрыяе ўмацаванню нашай дзяржаўнасці.

Віншуючы вас з юбілеем, з асаблівай павагай і цеплынёй выказваю ўдзячнасць ветэранам выдавецтва, усім, хто сваім багатым вопытам дапамагае ствараць добрую кнігу.

Шчыра жадаю вам, дарагія супрацоўнікі выдавецтва «Беларусь», моцнага здароўя, цудоўнага настрою, творчага натхнення, дабрабыту і, вядома, новых цікавых і карысных для грамадства кніг.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

31 студзеня 1996 г.
г.Мінск.

*РЭХА ПАДЗЕЙ*

## ДЛЯ БЫЛЫХ БАНКІРАЎ — ЦЯЖКІ ЧАС

**На мінулым тыдні падведзена рыса пад першым месяцам 1996 года. Тыдзень адзначаны некалькімі істотнымі падзеямі ў палітычным жыцці краіны, галоўныя з якіх, на нашу думку — візіт у Мінск новага міністра замежных спраў Расіі Яўгена Прымакова, а таксама новы этап у даўнім канфлікце паміж Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам і былым старшынёй праўлення Нацыянальнага банка Станіславам Багданкевічам.**

Сваім турнэ па сталіцах краін СНД новы кіраўнік расійскага знешнепалітычнага ведамства дэманструе прынцыповае адрозненне ад папярэдніка, які, як вядома, аддаваў прыярытэт іншым, больш далёкім сталіцам. Візіт Яўгена Прымакова ў Мінск — азнаямляльны, у пэўным сэнсе візіт ветлівасці. Як вопытны палітык і дыпламат, Прымакоў сваімі асцярожнымі выказваннямі ў Мінску не даў журналістам ніякай падставы для шырокіх каментарыяў. Пацвердзіў імкненне Расіі да інтэграцыі з Беларуссю, патлумачыў, што вяртанне да СССР і страты незалежнасці быць не можа... Новыя аспекты ў расійска-беларускіх адносінах з'явяцца, верагодна, пасля маючага адбыцца ў сакавіку візіту ў Маскву Аляксандра Лукашэнкі. Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў Барыс Ельцын вельмі зацікаўлены ў іміджы «інтэгратара» і ў рэальных поспехах на гэтай ніве (асабліва на фоне правалу чачэнскай кампаніі). Зусім магчыма, што з'явіцца чарговая ініцыятыва якога-небудзь яшчэ больш шчыльнага аб'яднання, чым мытны саюз. У рэальнасці, аднак, інтэграцыйныя памкненні застануцца толькі лозунгамі да таго часу, пакуль беларуская эканоміка адстае ў рэфарміраванні ад расійскай.

На мінулым тыдні ўсе дзяржаўныя газеты апублікавалі «Пятнаццаць абвінавачванняў Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў адрас экс-старшыні Нацбанка Станіслава Багданкевіча».Для дасведчанай публікі і довады кіраўніка дзяржавы, і аргументы былога банкіра — не навіна. Дыскусія, якая адбылася ў студзені ў сценах Вярхоўнага Савета, не стала сакрэтам для сродкаў масавай інфармацыі. (Хоць пасяджэнне, дзе Прэзідэнт выступаў з прамовай супраць Багданкевіча, і было закрытым.)

У гэтым сэнсе кампанія супраць Багданкевіча цікавая той рэакцыяй, якую яна выкліча ў шырокіх слаях насельніцтва. Многае будзе залежаць ад таго, ці атрымае эксбанкір магчымасць даць публічны адказ на абвінавачванні. Нават калі і не атрымае (а такая верагоднасць найбольш магчымая), то не варта чакаць, што прэзідэнцкія абвінавачванні выклічуць у масах шырокі энтузіязм і абурэнне Багданкевічам. Былы банкір яўна «не цягне» на віноўніка ўсіх эканамічных бедаў у краіне. Да таго ж цяперашняя дэмакратычная апазіцыя ў парламенце, якую ён узначальвае, куды больш памяркоўная, стрыманая, гнуткая, чым папярэдняя. І цалкам здольная павярнуць распачатую кампанію на сваю карысць.

Абвінавачванні Прэзідэнта, апублікаваныя на мінулым тыдні, яўна закранаюць і прэм'ера Міхаіла Чыгіра. «Агульная карціна з махінацыямі і крадзяжамі ў «Аграпрамбанку», як паведаміў Аляксандр Лукашэнка, «аналагічная сітуацыі ў Нацбанку». А «Аграпрамбанкам» яшчэ паўтара года таму кіраваў цяперашні кіраўнік Кабінета Міністраў...

**Валянцін ЖДАНКО.**

## РЭЙТЫНГ. АКЦЭНТЫ. ВЕРСІІ

### ЧАРГОВАЯ ПАМЫЛКА ДЭМАКРАТАЎ?

**Сыход дэпутата Віктара Кучынскага з парламенцкіх шэрагаў сацыял-дэмакратаў звёў на нішто жаданне ПНЗ, БСДГ і ПУАЗ мець уласную дэпутацкую фракцыю.**

Праўда, трагізм сітуацыі заключаецца, вядома ж, не ў самім учынку Віктара Кучынскага. І пасля гэтай страты фракцыі дэпутаты ад перадвыбарнага блока Сацыял-дэмакратычнага саюза яшчэ могуць даказаць, што беларускія дэмакратычныя сілы не зусім безнадзейна хворыя. Калі, зразумела, выкарыстаюць шанц на аб'яднанне з фракцыяй «Грамадзянскае дзеянне». Сённяшняе становішча павінна было б (па логіцы здаровага сэнсу) звесці разам і лібералаў, і сацыял-дэмакратаў, і нават нацыянал-дэмакратаў, калі б хоць адзін з іх меўся ў нашым парламенце.

Аб'яднанне «Згоды» (а зараз яе як законнай фракцыі фактычна не існуе) з «Грамадзянскім дзеяннем» мае відавочныя плюсы. Па-першае, узмацняецца фракцыя, з якой вымушаны будуць лічыцца нават у крытычных сітуацыях. Па-другое, павелічэнне саставу фракцыі дасць ёй магчымасць, згодна з Часовым рэгламентам, быць прадстаўленай у Прэзідыуме Вярхоўнага Савета.

Ведаючы шырыню беларускай дэмакратычнай душы і азіраючыся на ўсе этапы і туры папярэдніх выбараў, можна быць упэўненым, што аб'яднання не адбудзецца.

Тут, відавочна, сваё слова ў чарговы раз скажуць амбіцыі. Найперш — амбіцыі сапраўды сацыял-дэмакратычнага крыла ў «Згодзе».



### «ПАКІНЬМА НАПУСТА НА ЛЁС СВОЙ НАРАКАЦЬ...»

**Кнігай тыдня па праву можна лічыць першы том Поўнага збору твораў Янкі Купалы, які яшчэ пахне друкарняй (хаця і пазначана навінка 1995 годам). Але ж доўгачаканы том толькі што трапіў і да саміх выдаўцоў, рэдактараў. У кнігарнях вы нават яшчэ і не знойдзеце Купалу ў новай паліграфічнай вопратцы.**

Першынец дзевяцітомніка выдадзены тыражом усяго ў 5000 экземпляраў. Беларусы ніколі не вызначаліся любоўю да кнігі на роднай мове. Хаця, калі меркаваць па выданню Збору твораў Я. Купалы ў сямі тамах («Навука і тэхніка», 1972—1976), цікавасць была крышачку большай. Тады тыраж (у прыватнасці, першага тома) склаў 14.100. І гэта ў «халодныя» 70-я гады, пры адсутнасці і ценю беларускага Адраджэння. Можна доўга абвінавачваць у нелюбові дзяржаву да нацыянальнай літаратуры і да класікі — найперш. Можна адназначна пагразіць кулаком непаслухмянай эканоміцы. І ўсё ж ёсць на ўсё яшчэ і надзвычай аб'ектыўная прычына — уласна нацыянальная абыякавасць, усебеларуская «агульная млявасць». Як быццам тры жыцці нам дадзена. У першым абыдземся Чэйзам і Анжэлікай. У другім адкрыем сабе невядомага Пушкіна. А надарыцца трэці раз чалавекам чытаючым на свет нарадзіцца — пойдзем у бібліятэку (калі да таго часу іх не зачыняць з-за адсутнасці грошай у бюджэце) Купалу шукаць. Ці не позна тады будзе?!

Багацце паэтычнае, мастацкае — вось яно, побач — у першым томе ўпершыню, дарэчы, выдаваемага Поўнага збору твораў народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

### НЕЎМІРУЧАСЦЬ ДАСВЕДЧАНАСЦІ І ПРАФЕСІЯНАЛІЗМУ?



**Імя генерал-палкоўніка Анатоля Кастэнкі (нагадаем: высокае воінскае званне Анатоль Іванавіч атрымаў у савецкія часы) амаль заўсёды на слыху.**

Прычына такой увагі — высокія пасады, якія займаў военачальнік. У жыццяпісе спадара Кастэнкі апошніх гадоў ёсць адна істотная акалічнасць: ніколі Анатоль Іванавіч не заставаўся без сур'ёзнай справы, нават будучы ў адстаўцы. Так здарылася і на гэты раз. Былы міністр абароны адправіўся ў Брусель у якасці афіцыйнага прадстаўніка Беларусі пры штаб-кватэры НАТО.

### «НЕСЧАСТЬЕ» «ЗВЯЗДЫ»?

Артыкул Сяргея Дубаўца «Война и мир» у «Свабодзе» (пачынаючы з назвы і далей — падаём усё ў арыгінале): ... «допустим, вы человек принципиальный, чужого вам не надо, но и своим не поступитесь. Вы чувствуете, как вас ежечасно вытесняют из общественной жизни, загоняют в угол. Вы включаете белорусское радио — там, как всегда, вместо новостей читают «Поднятую целину» или идет трансляция из московского ресторана. Вы открываете «Звязду» — единственную ежедневную «белорусскую газету» — и обязательно наткнетесь взглядом на «русскую» рекламу. (В последнее время такое заискивание перед рекламодателем стало для наших журналистов чуть ли не правилом.)». Прызнацца, мы ў некаторай разгубленасці: не ведаем, ці варта і нагадваць прафесіянальнаму, цікаваму, між іншым, літаратурнаму крытыку Сяргею Дубаўцу, што «Звязда» як «справа сур'ёзная» робіцца пабеларуску. У адрозненне ад беларускага літаратара Сяргея Дубаўца, які свой артыкул у беларускамоўнай «Свабодзе» напісаў па-руску. Хоць, шчыра кажучы, вялікай праблемы ў гэтым мы не бачым.

А што датычыць рэкламы, то яе мы, і гэта ўсім вядома, даём не толькі на беларускай, але і на англійскай, нямецкай, італьянскай — любой, на якой пажадае рэкламадаўца. Дарэчы, так робіцца ва ўсім свеце.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 45*

### Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці, рэалізацыі, захоўвання алкагольных і тытунёвых вырабаў

У мэтах узмацнення дзяржаўнага рэгулявання вытворчасці, рэалізацыі, захоўвання алкагольных і тытунёвых вырабаў, абароны правоў грамадзян, эканамічных інтарэсаў дзяржавы **пастанаўляю:**

1. Устанавіць што:

1.1. Вытворчасць і рэалізацыя, а таксама захоўванне (як від гаспадарчай (прадпрымальніцкай) дзейнасці) алкагольных і тытунёвых вырабаў ажыццяўляюцца юрыдычнымі і фізічнымі асобамі на падставе спецыяльных дазволаў (ліцэнзій), выдаваемых у парадку, вызначаемым Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь;

суб'екты гаспадарання, якім выдадзены такія ліцэнзіі, падлягаюць унясенню ў спецыяльны Дзяржаўны рэестр, вядзенне якога ўскладаецца на Галоўную дзяржаўную падатковую інспекцыю пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь;

вытворчасць, рэалізацыя, захоўванне алкагольных і тытунёвых вырабаў ажыццяўляюцца ў межах квот, установленых у парадку, вызначаемым Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

1.2. Ліцэнзіі на ажыццяўленне вытворчасці, рэалізацыі, захоўвання алкагольных і тытунёвых вырабаў, выдадзеныя да ўступлення ў сілу гэтага Указа, страчваюць сілу з 1 сакавіка 1996 года;

1.3. Рэалізацыя алкагольных вырабаў ажыццяўляецца толькі ў памяшканнях, абсталяваных у адпаведнасці з патрабаваннямі, установленымі Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

1.4. У выпадку парушэння суб'ектамі гаспадарання заканадаўства і іншых нарматыўных актаў аб вытворчасці, рэалізацыі, захоўванні алкагольных і тытунёвых вырабаў, у тым ліку парадку ліцэнзавання, кватавання, а таксама дэкларавання цэн на гэтыя вырабы: адпаведныя ліцэнзіі падлягаюць канфіскацыі і ануляванню па рашэнню органаў, якія выдалі такія ліцэнзіі;

алкагольныя і тытунёвыя вырабы падлягаюць арышту па рашэнню дзяржаўных падатковых інспекцый, раённых і гарадскіх выканаўчых камітэтаў, органаў унутраных спраў і Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і канфіскацыі па рашэнню суда (гаспадарчага суда);

на кіраўнікоў і іншых службовых асоб адпаведных суб'ектаў гаспадарання ці на грамадзян, якія ажыццяўляюць такую дзейнасць ад свайго імя, накладаецца штраф у памеры да ста мінімальных заработных плат. Рашэнні аб накладанні штрафу маюць права выносіць дзяржаўныя падатковыя інспекцыі, раённыя і гарадскія выканаўчыя камітэты, органы ўнутраных спраў і Службы кантролю Прэзідэнта.

2. Увесці ў парадку і ў межах квот, устаноўленых Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь, маркіроўку, якая пацвярджае легальнасць вытворчасці ў Рэспубліцы Беларусь алкагольных і тытунёвых вырабаў.

3. Ускласці кантроль за вытворчасцю, рэалізацыяй, захоўваннем алкагольных і тытунёвых вырабаў на Службу кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Галоўную дзяржаўную падатковую інспекцыю пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, Міністэрства гандлю, Міністэрства ўнутраных спраў, мясцовыя выканаўчыя камітэты, органы санітарна-эпідэміялагічнага нагляду Міністэрства аховы здароўя, цэнтры стандартызацыі і метралогіі Камітэта па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі Міністэрства адукацыі і навукі.

4. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

4.1. Да 15 лютага 1996 г.:

прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь на ўзгадненне Палажэнне аб парадку выдачы спецыяльных дазволаў (ліцэнзій) на вытворчасць, рэалізацыю, захоўванне алкагольных і тытунёвых вырабаў;

устанавіць патрабаванні да памяшканняў і месцаў рэалізацыі алкагольных вырабаў;

увесці абавязковую сертыфікацыю ўсіх відаў алкагольных і тытунёвых вырабаў;

вызначыць парадак вядзення Дзяржаўнага рэестра суб'ектаў гаспадарання, якім выдадзены спецыяльныя дазволы (ліцэнзіі) на вытворчасць, рэалізацыю, захоўванне алкагольных і тытунёвых вырабаў;

разгледзець пытанні аб арганізацыі цэнтралізаваных дзяржаўных закупак сыравіны для вытворчасці спірту;

вызначыць парадак увядзення маркіроўкі алкагольных і тытунёвых вырабаў;

4.2. Забяспечыць у лютым 1996 г.:

выдачу ва ўстаноўленым парадку новых ліцэнзій на вытворчасць, рэалізацыю, захоўванне алкагольных і тытунёвых вырабаў;

увядзенне маркіроўкі алкагольных і тытунёвых вырабаў;

вызначэнне парадку ўстанаўлення квот на вытворчасць і рэалізацыю алкагольных і тытунёвых вырабаў;

4.3. У месячны тэрмін:

прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у сувязі з прыняццем гэтага Указа;

вызначыць парадак кантролю за якасцю алкагольных, тытунёвых вырабаў і дзяржаўны орган, адказны за яго ажыццяўленне;

прывесці рашэнні ўрада Рэспублікі Беларусь і падведамасных яму дзяржаўных органаў у адпаведнасць з гэтым Указам.

5. Міністэрству эканомікі сумесна з Міністэрствам фінансаў з 10 лютага 1996 г. устанаўліваць дэклараваемыя цэны на алкагольныя вырабы, рэалізуемыя на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

6. Міністэрству ўнутраных спраў, Дзяржаўнаму мытнаму камітэту, Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняць меры па спыненню незаконных вытворчасці, рэалізацыі, захоўвання алкагольных і тытутнёвых вырабаў, парушэння парадку кватавання, ліцэнзавання, а таксама дэкларавання цэн на гэтыя вырабы.

7. Міністэрству статыстыкі і аналізу па ўзгадненню з зацікаўленымі міністэрствамі, іншымі цэнтральнымі органамі кіравання зацвердзіць Палажэнне аб парадку і тэрмінах прадстаўлення суб'ектамі гаспадарання статыстычнай справаздачнасці аб вытворчасці алкагольных і тытутневых вырабаў, а таксама аб іх імпарце, экспарце і рэалізацыі на ўнутраным рынку.

8. Кантроль за выкананнем гэтага Указа ўскласці на Службу кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

9. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання, за выключэннем падпунктаў 1.1, 1.3 пункта 1 і пункта 2 гэтага Указа, якія ўводзяцца ў дзеянне з дня апублікавання адпаведных нарматыўных актаў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Да ўвядзення ў дзеянне новага парадку ліцэнзавання вытворчасці, рэалізацыі, захоўвання алкагольных і тытунёвых вырабаў захоўваецца ранейшы прадак ліцэнзавання ўказаных відаў дзейнасці.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

*2 лютага 1996г., г. Мінск.*

## *ПРАМАЯ ЛІНІЯ*

### Вам адкажа Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён ШАРЭЦКІ

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Г. Шарэцкі згадзіўся прыняць удзел у «прамой лініі» з чытачамі «Звязды». **Яна адбудзецца 5 лютага з 14 гадзін.** У гэты дзень Сямён Георгіевіч адкажа Вам па тэлефонах: 68-29-21, 32-38-21.

## «ТЭЛЕФОН ДАВЕРУ»: ЁСЦЬ ПЕРШАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

**«Звязда» паведамляла ўжо сваім чытачам, што ў КДБ рэспублікі ўстаноўлены «тэлефон даверу».**

У беларускай прэсе гэты факт выклікаў неадназначную рэакцыю: некаторыя журналісты вырашылі, што «надыходзяць часы «стукацтва». У сувязі з гэтым прэс-служба КДБ распаўсюдзіла паведамленне, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «...у нас любое добрае пачынанне спрабуюць убачыць у непрыглядным выглядзе. У Швецыі, напрыклад, падобны тэлефон дапамог у расследаванні забойства Улафа Пальме, у Францыі — папярэдзіць многія тэрарыстычныя акты...»

Як паведамілі карэспандэнту нашай газеты ў прэс-службе КДБ, хоць пасля з'яўлення «тэлефона даверу» прайшло не так і шмат часу, але ўжо ёсць першая істотная інфармацыя для расследавання, праверкай якой зараз займаюцца кампетэнтныя органы. У тым выпадку, калі факты пацвердзяцца, наша газета паведаміць аб іх дадаткова.

**Ігар РЫГОРАЎ.**

## КАМАРОЎКА «КУСАЕЦЦА» ЦЭНАМІ

Рознічныя цэны на харчовыя тавары на Камароўскім рынку г. Мінска на 02.02.96 г. (тыс. рублёў):

***Мяса, птушка (1 кг):***
свініна 28—65
цяляціна — 28—55
ялавічына - 18—50
бараніна 28—60
куры, гусі 19—31.
Сала (1 кг):
свежае 25—35
салёнае 30—55.

***Малочныя прадукты:***
малако (л) 4—9
тварог (1 кг) 18—30
смятана (1 кг) 22—24
масла (1 кг) 40—45.
***Яйкі (дзес.)*** 15—18.
***Мёд (1 кг)*** 60—70.
***Алей (1 л)*** 17—18.

***Крупы (1 кг):***
рыс 5,8—11
грэчка 7—12.

Цукар (1 кг) 6,8—10.
Фасоля (1 кг) 12—20.
Гарох (1 кг) 6—12.

***Агародніна (1 кг):***
бульба 4—6
капуста 8—13
морква 6—15
цыбуля рэпчатая 5—8
цыбуля зялёная 60—100
часнок свежы 15—40
часнок марынаваны 30—50
буракі 4—6.

***Садавіна (1 кг):***
яблыкі 10—35
бананы 15—20
апельсіны 13—16
мандарыны 16—30.
Кветкі (шт.):
гваздзікі 6—8
ружы 8—25.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## *АФІША ВЫХАДНЫХ*

Тыя, хто не імкнуўся трапіць у пятніцу ў **Дом афіцэраў** на канцэрт Аляксея Глызіна, маюць магчымасць у выхадныя паслухаць зусім іншую музыку. У суботу канцэртная зала філармоніі будзе захоплена цудоўным калектывам — Камерным аркестрам РБ, якім кіруе нямецкі дырыжор Інга Эрнст Райль. Разам з аркестрам у гэты вечар выступяць навучэнцы ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі — будучыя знакамітасці нашай зямлі. А ў нядзелю ў тую ж залу паспяшаюцца прыхільнікі народнага аркестра імя Жыновіча, дырыжыраваць якім будзе прафесар Міхаіл Казінец, саліст — Міхаіл Мунцяну, народны артыст СССР.

**У оперным тэатры** ў суботу чароўная «Тоска», а ў нядзелю вы можаце стаць чаканым госцем на яскравым «Вяселлі Фігаро». Прыхільнікі балета, не праспіце 4 лютага: раніцай тут «Бахчысарайскі фантан».

Калі ж раптам з'явіцца жаданне прыгадаць лірычныя мелодыі любімых аперэт, спяшайцеся ў **тэатр музкамедыі,** дзе ў суботу прызначыла сустрэчу «Сільва», а ў нядзелю — «Лятучая мыш». Ну а дзецям вельмі спадабаецца музычны спектакль «Залатое кураня» ў нядзелю раніцай.

Калі вас напаткалі лёсавызначальныя думкі, ідзіце ў **Рускі драматычны тэатр.** 3 лютага тут спектакль «Благаславі нас, Госпадзі», 4 лютага — «Хрыстос і Антыхрыст» паводле Мяражкоўскага. У нядзелю **Альтэрнатыўны тэатр** прапануе нетрадыцыйнае прачытанне «Гора ад розуму».

## ТВАРОГ ЕСЦІ МОЖНА. КАЛІ ЗНОЙДЗЕЦЕ

Як ужо паведамляла «Звязда», у канцы мінулага года ў Мінску на працягу некалькіх дзён адзначаўся рост у паўтара раза захворвання на вострыя кішэчныя інфекцыі ў параўнанні са звычайным узроўнем. Нагадаем: тады пацярпела каля 500 чалавек, у тым ліку больш як 100 дзяцей. Верагодным фактарам перадачы інфекцыі санітарныя службы палічылі тварожныя сыркі адной з партый гармалзавода № 1. Ці пацвердзіліся першапачатковыя прагнозы і ці не звязаны яны нейкім чынам са знікненнем у апошні час з прылаўкаў магазінаў тварагу? Па адказы на гэтыя пытанні карэспандэнт газеты звярнуўся ў аддзел гігіены харчавання Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Па словах медыкаў, з дапамогай бактэрыялагічнай экспертызы не ўдалося даказаць, што фактарам перадачы інфекцыі была прадукцыя гармалзавода № 1. Сем хворых работнікаў прадпрыемства на сённяшні дзень здаровыя, увесь персанал тройчы праходзіў медыцынскія абследаванні, усё абсталяванне было прадэзінфіцыравана. Забарона на працу завода была знята ўжо праз тыдзень пасля здарэння. А прычына таго, што з паліц магазінаў апошнім часам знік тварог і некаторыя іншыя малочныя прадукты, як мяркуюць медыкі, самая што ні ёсць простая на сённяшні дзень — адсутнасць сыравіны, г. зн. малака.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## НЕ ПАЙДУ Ў КАСМАНАЎТЫ, А ПАЙДУ Ў ФАЛЬШЫВАМАНЕТЧЫКІ

**Начальнік Гродзенскага абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў Анатоль Белашэўскі прыгадаў на прэс-канферэнцыі факт з 1979 года. Тады ў Прынёманскім краі выявілі адну фальшывую банкноту — здаецца, рубель. Гэта было надзвычайнае здарэнне, інфармацыя аб якім трапіла ў самыя высокія інстанцыі, а можа, нават у ЦК КПСС.**

Ну а цяпер... Летась на Гродзеншчыне зафіксаваны 234 факты збыту фальшывых грошай — на 110 больш у параўнанні з 1994 годам. У адной злачыннай групы канфіскавалі 675 купюр вартасцю 50 тысяч расійскіх рублёў, якія не мелі ніякага дачынення да Дзяржбанка Расіі.

У выніку сумесных дзеянняў гродзенскай міліцыі і паліцыі Польшчы на тэрыторыі суседняй дзяржавы было канфіскавана 4,3 тоны спецыяльнай грашовай паперы. Выязджалі гродзенцы і ў Ніжні Тагіл — там спынена работа падпольнай друкарні па вырабу фальшывак. Але злачынны бізнес не здаецца. Днямі «засвяціліся» два пагранічнікі-кантрактнікі. У іх мелася каля 400 усё тых жа 50-тысячных расійскіх купюр. Гэтай справай зоймецца ваенная пракуратура.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## ПЕРАХОД НА НАТУРАЛЬНУЮ ГАСПАДАРКУ ЗАВЯРШАЕЦЦА

**У вёсках і пасёлках Добрушскага раёна людзі паступова пераходзяць на хатнюю выпечку хлеба. Справа не ў перабоях з пастаўкамі хлеба ў магазіны, а ў яго цане і абмежаванасці фінансавых магчымасцей насельніцтва.**

Бохан чорнага хлеба каштуе ўсяго 2.600 рублёў. Аднак выплаты пенсій мясцовым пенсіянерам прыходзіцца чакаць у сярэднім два тыдні. Працаздольнае насельніцтва ж знаходзіцца пераважна ў перманентным водпуску па прычыне адсутнасці работы. Выйсце, між іншым, знойдзена: 2-3 сям'і купляюць мяшок мукі і пякуць хлеб дома. Як паказвае практыка, гэта больш выгадна, чым купляць хлеб у магазіне. Па логіцы, застаецца навучыцца выраблядь цукар, алей, крупы, запалкі і г. д. І пераход на натуральную гаспадарку можна будзе лічыць завершаным.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## *ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

У Паўднёвай Каліфорніі суд прыгаварыў дзяўчыну, якая крала ва універмагах, на працягу месяца жыць прыкаванай да маці.

15-гадовая Тоні і яе 38-гадовая матуля ўсюды ходзяць разам, а маці прыходзіцца праводзіць дачку ў школу, разам з ёй хадзіць у туалет і нават спаць на адным ложку. Суд прыгразіў маці: калі Тоні хоць раз убачаць адну — яе самую на месяц пасадзяць за краты.

**ЭКСТРА-ПРЭС**

Ці можа прынцэса Дзіяна, нягледзячы на чакаемы развод з прынцам Чарльзам, стаць каралевай Брытаніі? Можа, як лічыць прэзідэнт японскай кінакампаніі «Дайэй» Ясуісі Такума. Праўда, не ў жыцці, а ў кіно. Ён мае намер прапанаваць Дзіяне выканаць ролю каралевы Вікторыі, якая кіравала Вялікабрытаніяй у сярэдзіне мінулага стагоддзя, у фільме «Вялікая опіумная вайна». Пакуль толькі невядома, як лічыць сама Дзіяна.

**ІТАР-ТАСС**

Пакуль маці не было дома, ажаніўся 9-гадовы ўфімец Жэня. Калі маці паехала ў Чэлябінск, ён прыняў адказнае рашэнне. Нявеста ў яго ўжо была — 12-гадовая Ірына з іншага раёна горада. Як і трэба, жаніх з'ездзіў за яе. Потым сабраліся сябры. Пілі віно, ліманад. Нагул, святкавалі вяселле. Мядовы месяц у маладажонаў працягваўся чатыры дні. На пятым прыехалі родныя Ірыны і забралі яе дадому. А маці Жэні так і не даведалася, што яе сын быў жанаты.

**ЕАН**

**МЕСЯЦ**
**Поўня 4 лютага.**
**ІМЯНІНЫ**
**Пр. Максіма, Яўгенія, Валерыяна, Акілы, Агніі, Анастасіі**
**К. Блажэя, Оскара**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па паўднёва-заходняй палавіне снег. Тэмпература паветра ў Гродне і Брэсце — 2—4, Гомелі — 3—5, Магілёве і Мінску — 4—6, Віцебску — 5—7 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак: 4-га чакаецца снег, тэмпература на працягу сутак 5—10, па поўначы да 15 градусаў марозу; 5-га выпадзенне ападкаў спыніцца, але тэмпература пры гэтым панізіцца: уначы — 12—17, па поўначы — да 22, удзень — 8—13 градусаў ніжэй нуля.

### Медыцынскі прагноз надвор'я на 3 лютага

Надвор'е будзе вызначацца ўначы полем павышанага атмасфернага ціску, удзень — праходжаннем франтальнага раздзелу, што прывядзе да ваганняў асноўных метэаэлементаў і ўтрымання кіслароду ў паветры. 3 лютага — неспрыяльны дзень па геафізічных фактарах. У такіх умовах павышаецца верагоднасць пагаршэння самаадчування ў метэазалежных хворых з захворваннямі сардэчна-сасудзістай сістэмы.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца пазбягаць фізічных і псіхаэмацыянальных нагрузак, прытрымлівацца дыеты, рэгулярна прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

Згубленае пасведчанне ліквідатара наступстваў аварыі на ЧАЭС № 345527 серыі А, выдадзенае на імя ДАШЧЫНСКАГА Уладзіміра Аляксеевіча, лічыць НЕСАПРАЎДНЫМ.

Згубленае пасведчанне ліквідатара наступстваў аварыі на ЧАЭС № 786207 серыі А, выдадзенае на імя ДУЛУБ Васіля Прохаравіча, лічыць НЕСАПРАЎДНЫМ.

# Жыццёвы рынг дэпутата Гразновай

**Людміла Мікалаеўна Гразнова — адна з дзевяці (!) жанчын, дэпутатаў новага саставу Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Кандыдат эканамічных навук, дацэнт Белдзяржуніверсітэта.**

**Яна сама зрабіла жыццёвы выбар, асэнсаваўшы , чаго хоча дасягнуць, таму ставіць перад сабой задачы і вырашае іх. Дакладны разлік і «нежаночая» логіка суседнічаюць з імкненнем быць абаяльнай і прывабнай.**

**Жанчына, для якой каштоўнасцю з'яўляюцца прыступкі кар'еры, ацэньваецца ў нашым грамадстве хутчэй са знакам «мінус», чым «плюс»: прыгожай палавіне па-ранейшаму адводзіцца месца «ад печы да парога» (як паблажліва адзначыў мой калега, палітычны аглядальнік). Таму традыцыйна пільная ўвага да жанчын, якія здолелі пераадолець гістарычныя і сацыяльныя стэрэатыпы.**



**— ЛЮДМІЛА МІКАЛАЕЎНА, ці не забіваюць заняткі палітыкай у жанчыне — жанчыну?**

— Калі палітыка дазваляе раскрыць твае здольнасці, калі палітыка з'яўляецца тваім уласным выбарам, — тады рэалізоўваеш сябе і як асоба, і як жанчына. Пра што большае можна марыць?!.

**— Што для жанчыны важней: таленты ці паклоннікі?**

— Паклоннікі, як і маладосць, — адыходзяць... Гэта вельмі ненадзейны варыянт — рабіць стаўку на паклоннікаў. А таленты — застаюцца.

**— Той факт, што вы — жанчына, перашкаджала ці садзейнічала кар'еры?**

— Хутчэй садзейнічала: сярод жанчын амаль няма канкурэнцыі, хаця сярод мужчын канкурэнцыя проста шалёная.

**— Чым тлумачыцца пасіўнасць жанчын?**

— Палітыка — верхняя прыступка і прафесіянальнай дзейнасці, і наогул грамадскай іерархіі. Узысці на яе ўдаецца нямногім — тым, хто вольны ад хатняй работы, у каго галава добра «варыць», у каго многа грошай, вялікія сувязі. Нямногія жанчыны адпавядаюць гэтым крытэрыям. Затое мужчыны маюць і грошы, і сувязі — праўда, у іх не заўсёды дастаткова розуму... Але гэта не лічыцца недахопам. Наадварот, з часоў Грыбаедава было «гора ад розуму» — зараз таксама чалавек разумны не абавязкова займае самую высокую прыступку.

**— Цікава, як да такой сімпатычнай, мініяцюрнай жанчыны прыйшла дзіўная (для нашага часу) ідэя — весці барацьбу за дэпутацкі мандат?**

— Сапраўды, дзіўная ідэя: многія глядзелі... яна ненармальная ці што?

**— Вы помніце дакладна, як прынялі рашэнне аб дэпутацтве — гэта даўняя запаветная мара? Мэта жыцця? Самамэта? Хтосьці параіў? А можа, ад пачуцця гумару?..**

— Не, мяне папрасілі. Я была намеснікам старшыні Аб'яднанай дэмакратычнай партыі (цяпер гэта — Аб'яднаная грамадзянская партыя).

**— Чаму партыя вылучыла менавіта жанчыну? Не сакрэт, у нашым грамадстве адносіны да палітычнай дамы, мякка кажучы, неадэкватныя...**

— Напэўна, адыграў ролю той факт, што я кандыдат навук, амаль 20 гадоў працую ў Белдзяржуніверсітэце, летась выдала 2 вучэбныя дапаможнікі сумесна з калегамі па кафедры (па параўнальнаму аналізу і па занятасці насельніцтва) — як гаворыцца, не першы год у навуцы. Тым больш, эканамістаў катастрафічна не хапае, і кожны талковы спецыяліст з веданнем макраэканомікі ў апошнія гады быў на вагу золата, таму да мяне даўно прыглядаліся...

**— Якой праблеме прысвечана ваша кандыдацкая дысертацыя? А можа, і доктарская ўжо падрыхтавана?**

— Скончыла дактарантуру, але наўрад ці буду пісаць дысертацыю — зараз не той час.

**— Магчыма, якраз «той час»: неабходны ж новыя распрацоўкі...**

— Новыя канцэпцыі трэба тэрмінова ўвасабляць у жыццё! Мы распрацоўвалі канцэпцыі столькі гадоў — і яны заставаліся на пыльных паліцах.

**— Але ж кандыдацкую дысертацыю вы напісалі?**

— Кандыдацкую дысертацыю звычайна пачынаюць пісаць, калі яшчэ не зусім склалася навуковае ўяўленне і разуменне самых балючых праблем і працэсаў эканомікі. Мая работа была напісана прыкладна так: што мне параілі, над тым я і працавала. Але потым прыйшла да сур'ёзных рэчаў.

**— Дысертацыю пісалі па сацыялізму?**

— Так. Але я апіралася на фактычныя даныя: як уплывае спецыялізацыя вытворчасці на структуру вытворчага калектыву. Паколькі ў тыя часы нашы даследаванні задаваліся пэўнымі палітычнымі рамкамі, то адзіны накірунак, па якім магла рухацца думка, — метадалогія. Калі пісала дысертацыю, імкнулася знайсці новыя цаглінкі ў метадалогіі.

**— Амаль 20 гадоў выкладалі ў БДУ, пераважна эканоміку сацыялізму, па Марксу: быццё вызначае свядомасць...**

— Гэта старая формула: голы матэрыялізм завёў грамадства ў тупік. Давайце паглядзім, чаму так цяжка нам рухацца да дэмакратыі, рыначнай эканомікі? Таму што свядомасць застаецца ранейшай. Намі маніпуліруюць, не даюць магчымасці ўбачыць новыя ўзоры паводзінаў... Гэта і сведчыць, што свядомасць вызначае быццё!

**— Значыць, Маркс усё ж меў рацыю: быццё вызначае свядомасць у той жа ступені, у якой свядомасць вызначае быццё. Іншая справа — што Маркса нам выкладалі ва ўрэзаным выглядзе.**

— Так, многія рэчы, узятыя з марксізму, разглядаліся без кантэксту, ва ўгоду палітычным меркаванням.

**— Рускі філосаф Сямён Людвігавіч Франк пісаў: «Мэта дзяржавы — не дасягненне раю на зямлі: дзяржава існуе, каб папярэдзіць ажыццяўленне пекла на зямлі». Многія называюць сённяшняе жыццё пякельным: заплаціўшы за кватэру і праезд у транспарце, людзям не застаецца на кавалак хлеба. Як па-вашаму, ці можа зараз дзяржава, у прынцыпе, не ператвараць жыццё ў пекла?**

— Чым менш дзяржава будзе ўмешвацца ў эканоміку, імкнуцца «объять необъятное», вырашыць непадуладныя ёй праблемы — тым лепш мы будзем жыць!

**— Але анархіі вытворчасці няма ні ў адной «цывілізаванай» краіне?**

— Таму што амаль усё рэгулюецца рынкам — спантанна, і дзяржава не ўмешваецца ў рыначныя законы.

**— Прабачце, Людміла Мікалаеўна, але ці не занадта смела? Не баіцеся, што вашы калегі-эканамісты будуць моцна вас біць за гэтае «спантанна»?**

— Яны мяне білі ўжо 10 гадоў назад, тым не менш, я іх пераканала!.. Адзінае, што павінна рабіць дзяржава, — забяспечваць устойлівасць валюты, ахоўваць правы ўласніка, клапаціцца пра нямоглых, а таксама ўтрымліваць невялікую армію і невялікі штат дзяржслужачых. Усё! Больш дзяржава нічога не павінна мець: як толькі яна пачынае займацца эканомікай, пашырае дзяржсектар — пачынаюцца праблемы. Адзін з эканамістаў пісаў: калі вы хочаце, каб аазіс ператварыўся ў пустыню, — зрабіце яго дзяржаўнай уласнасцю. І наадварот: калі вы хочаце з пустыні зрабіць аазіс, пусціце туды прыватніка... А паглядзіце, якія аазісы зрабілі людзі, прыватныя ўласнікі, на прыгарадных дачах сваімі рукамі!

**— Чаму ваша сястра эмігрыравала ў ЗША?**

— Адкуль вы ведаеце?!

**— Хіба гэта тайна?**

— Не тайна, але ніхто з журналістаў не пытаўся... Сястра — філосаф, яна атрымала гранд на паўгода, потым засталася працаваць над архівам вядомага філосафа Зільбермана, які эмігрыраваў у ЗША з Масквы і заўчасна памёр. Зараз сястра атрымала пастаянную работу ў Бостанскім універсітэце.

**— З кім вам больш падабаецца працаваць — з мужчынамі ці жанчынамі?**

— Не бачу ніякай розніцы. Галоўнае — каб я магла наладзіць з чалавекам дыялог.

**— Рыхтуючыся да гутаркі, даведалася, што вы займаліся жаночым рухам...**

— Так, я мела пэўную вядомасць.

**— Прабачце, а хіба ёсць у нас жаночы рух? Чамусьці складваецца ўражанне, што проста сабралася невялікая дамская кампанія, якая абвясціла сябе «жаночым рухам»...**

— Было і ёсць нямала жаночых арганізацый, не хачу зараз даваць ім адназначную ацэнку: у мяне не толькі станоўчыя адносіны да ўсяго гэтага. Скажу нават больш: шмат зрабіла, каб не дапусціць укаранення ў нашу свядомасць і ў друк радыкальных феміністкіх заходніх думак.

**— Але вы былі актывісткай, неаднаразова выязджалі па лініі жаночага руху за мяжу...**

— Так, але я мела свае ўласныя кантакты, беларускі жаночы рух мяне нікуды не накіроўваў, не запрашаў... Заўсёды мела свой погляд на жаночы рух, усведамляла яго недахопы — на Захадзе яны расцвілі буйнымі кветкамі, далі ядавітыя плады. Аднак там існуе шмат іншых сацыяльных рухаў, і ўсё больш-менш карэкціруецца. А калі дапусціць сілы радыкальнага фемінізму на нашу глебу, то гэта можа выліцца ў скандальныя рэчы. Таму два гады назад паставіла асабістую мэту — не дапусціць некаторых людзей з жаночага руху ў палітыку, каб не было спекуляцыі на жаночых праблемах.

**— Ці шмат сярод палітыкаў сапраўдных мужчын?**

— Адносіны таварышаў па партыі вельмі чуйныя, джэнтльменскія. Часам нават не ведаю, як сябе паводзіць: як дама ў дачыненні да ўсіх — не магу, я ўсё-такі партыйная дама! *(Смяецца.)*

**— Вы плачаце калі-небудзь?**

— Раней — плакала, а цяпер... Я цалкам за сябе адказваю, і ад таго, што я буду плакаць, стагнаць, нічога не зменіцца. Трэба самой трымацца, а калі плакаць — і вочы стануць чырвонымі, і нос прыпухне, і заўтра будзеш дрэнна выглядаць. І артыкул не напішаш, і вячэру не прыгатуеш — можаш наогул патроху скаціцца.

**— Ці хацелася б вярнуць свае 18 гадоў?**

— Не, нічога не хачу змяняць. Цяперашняе маё становішча падрыхтавана і абумоўлена ўсім жыццём: калі б я ўдала выйшла замуж, і муж бы мяне поўнасцю забяспечваў — я склала б рукі і сядзела. У мяне б была іншая воля, атрафіраваная, і не было б стымулаў карабкацца, угрызацца ў гэта жыццё... Лёс прымусіў трымацца, працаваць, мець свой твар і аблічча.

**— Вы славалюбівы чалавек?**

— Калі я адчуваю за спінай бягучага канкурэнта, пачынаю ўзмацняць тэмп... Гэта для мяне чыста спартыўнае пачуццё.

**— Моцная жанчына, скіраваная на кар'еру, нячаста сустракаецца ў нашым грамадстве...**

— Цікава! У мяне столькі сябровак акурат такога складу — яны гэтак жа жывуць, яны ўсё трымаюць на сабе, усё робяць самі. А калі мужы, дык...

**— ...пад «абцасам»?**

— Усе мае сяброўкі — кандыдаты навук, доктарскія дысертацыі пішуць, і не параўнаць патэнцыял, якім яны валодаюць, з патэнцыялам іх мужоў.

**— Вы — эмансіпіраваная жанчына?**

— Некаторыя вымаўляюць «эмансіпэ» — з непрыхаваным негатыўным адценнем. А калі браць першапачатковае значэнне гэтага слова (эмансіпіраваны — значыць свабодны), безумоўна. Ні ад кога не залежу, у мяне няма гэтай рабскай, феадальнай залежнасці...

**— А вам не хочацца памяняць свабоду на залежнасць — каб можна было за кагосьці схавацца, хто б дапамог вырашаць праблемы...**

— Калі б можна было за кагосьці ў цяжкую хвіліну схавацца — але пры гэтым была б упэўненасць, што цябе не загоняць у цямніцу, табе дадуць волю і свабоду дзеяння, — канешне, такі варыянт мяне б задаволіў. Аднак часцей за ўсё табе даюць магчымасць схавацца, а назад ужо не выпускаюць і пазбаўляюць права голасу.

**— Сапраўдны мужчына ў вашым уяўленні?**

— Ён падобны на майго бацьку. На жаль, я такога мужчыны не сустрэла. Бацька робіць усё дзеля сям'і. Ён з пакалення салдат і афіцэраў, якія прайшлі вайну: пяць гадоў былі без жанчын і пяць гадоў марылі пра сямейнае жыццё... Некаторыя спіліся, а некаторыя ўвасобілі гэту мару ў рэальнасць. На жаль, многія хлопцы майго пакалення былі вельмі інфантыльнымі, разбэшчанымі... Майму бацьку ўжо больш за 70, але ён энергічны, актыўны чалавек.

**— А хто ваш бацька?**

— Былы партыйны работнік. Потым працаваў дырэктарам сельскагаспадарчага навукова-даследчага інстытута — ён доктар эканамічных навук, прафесар.

**— У вас цудоўная кватэра ў прэстыжным раёне, на вул. Пуліхава, — гэта дзякуючы бацьку, сакратару абкома партыі?**

— Не, дзякуючы ўдаламу абмену кватэры.

**— Дачка рада, што яе маці абрана дэпутатам?**

— Святлане 9 гадоў, але многае яна разумее — сучасныя дзеці наогул вельмі хутка пераймаюць вопыт бацькоў. З размоў дарослых дачка пачынае арыентавацца, хто за каго, дзе трэба прамаўчаць, бо ў бабулі свае прыхільнасці, у маці — свае. Наша сям'я ў пэўным сэнсе — люстэрка грамадства... Дачка добра ведае беларускую мову — і ў дзіцячым садку, і ў школе добра выкладалі. І ўсё ж дзеці ёсць дзеці: у гэтым навучальным годзе зменшылі аб'ём беларускай мовы — і яны ўзрадаваліся, сталі губляць многае з таго, што ведалі.

**— Вы цудоўна выглядаеце — што дапамагае падтрымліваць форму: дыета, спорт?**

— Спортам займаюся пастаянна. Кожную раніцу бегаю. Хварэла, тыдзень не бегала — проста месца сабе не знаходзіла, настолькі прывыкла.

**— І колькі часу праводзіце на стадыёне?**

— Колькі часу ёсць: калі мала — хвілін 10, паболей — і паўгадзіны.

**— У любое надвор'е, нават зімой?**

— Так. Выключэнне — калі вельмі моцны мароз, гэта для горла дрэнна... Людзей, якія бегаюць раніцай, становіцца ўсё больш, і я ўжо не адчуваю сябе ідыёткай, як бывала раней, — таму што 20 гадоў назад на гэта глядзелі...

Праўда, маці не падтрымлівае мае заняткі бегам. Гаворыць, што можна памыць падлогу, прыбраць у кватэры — і будзе тая ж самая нагрузка.

**— Які для вас самы сумны занятак на свеце?**

— Мыць посуд.

**— Што для вас радасць?**

— Калі штосьці новае з'яўляецца — патрэбная думка прыходзіць, ці здолееш сфармуляваць сказ, знайсці неабходныя словы, напісаць артыкул, выступіць... Раскрыць свае здольнасці, увасобіць у штосьці канкрэтнае сваю волю. Калі гэта атрымліваецца, тады ўсё нармальна, гэта ў рабочым плане. А другая радасць — вочы маёй дачкі, калі я бачу, як яна расце... Але мне трэба і тое, і другое, чагосьці аднаго мне недастаткова.

**— Колькі слоў пра работу ў Вярхоўным Савеце.**

— Я працую намеснікам старшыні бюджэтнай камісіі. Калі параўнаць цяперашнюю работу з выбарчай кампаніяй... Гэта як ягадкі адрозніваюцца ад кветачак! Хаця выбарчая кампанія была напружанай, але не настолькі. А зараз цалкам акунаешся ў зусім новую работу, спазнаеш яе. Калі выкарыстаць афарызм Салтыкова-Шчадрына, — змена прафесіі раўназначная самазабойству. Мы, сапраўды, крыху падобныя на самазабойцаў — мы «забіваем» саміх сябе, сваю ранейшую дзейнасць, старыя прафесіянальныя звычкі, набываем новыя. Мы ствараем сябе. Так адчуваю сябе не толькі я, але і многія іншыя дэпутаты.

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ЖЫЛЛЁ?

***Даўно вы ўжо ў сваёй рубрыцы не пісалі аб цэнах на кватэры ў сталіцы рэспублікі. Хацелася б ведаць, ці змяніўся кошт жылля ў Мінску? Не маглі б вы даць сярэднія цэны продажу кватэр?***

**Ірына РУЛЬКЕВІЧ,**
*Гомельская вобласць*

Мяркуючы па інфармацыі цэнтра гандлю нерухомасцю, у гэтым годзе значна ўзняўся кошт кватэр у тых раёнах сталіцы, якія прылягаюць да цэнтра. Так, напрыклад, сярэднія цэны прапанавання на продаж у гэтых раёнах аднапакаёвых кватэр з 9500 у верасні мінулага года выраслі да 12.440 долараў, двухпакаёвай — з 14 тысяч долараў да 18.400, трохпакаёвай — з 18 тысяч долараў да 26, чатырохпакаёвай — з 36 тысяч долараў да 38. Больш сціпла на гэтым фоне выглядае рост цэн на кватэры ў самім цэнтры. Так, у верасні 1995 года аднапакаёвая кватэра каштавала 14.300 долараў, а ў студзені бягучага — 14.750, кошт двухпакаёвай з 25 тысяч долараў падняўся да 26.200, трохпакаёвай — з 36.900 долараў да 41.660, чатырохпакаёвай — з 55 тысяч да 64.400 долараў. Нарэшце, у мікрараёнах сярэднія цэны прапанавання на продаж у студзені аднапакаёвай кватэры склалі 11 тысяч долараў (у верасні мінулага года — 9 тысяч), двухпакаёвай — 16 тысяч долараў (13.900), трохпакаёвай — 21.500 долараў (17 тысяч), чатырохпакаёвай — 26.200 (23.000).

## ЦІ «ПРАВІЛЬНА» ПРЫЗВАЛІ СЫНА?

***У канцы снежня 1995 года майго сына забралі ў армію. Пасля гэтага многія знаёмыя пачалі гаварыць, быццам ёсць такі закон, па якім сыноў у адзінокіх маці ў армію не забіраюць. Я развялася са сваім мужам, калі сыну было пяць гадоў, і з таго часу гадавала яго адна. Дык вось, хацелася б ведаць: ці ёсць такі закон на самай справе і калі ёсць, то хто павінен быў давесці яго да майго ведама? І яшчэ. Кажуць, што цяпер хлопцы павінны служыць у вайсковых часцях, якія знаходзяцца непадалёку ад дому. Хто вырашае гэтыя пытанні? Ці маю я права патрабаваць, каб майго сына перавялі ў бліжэйшую ад дому вайсковую часць?***

**З павагай — маці адзінага сына**
**ТУКІНА Вольга Мікалаеўна,**
*г. Жыткавічы*

Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў арганізацыйна-мабілізацыйным упраўленні Мінабароны Беларусі, наяўнасць аднаго сына ў няпоўнай сям'і не вызваляе яго ад воінскага абавязку.

Размова можа ісці хіба што аб адтэрміноўцы, але толькі ў тым выпадку, калі маці (альбо бацька) з'яўляецца інвалідам другой групы, для якой (якога) прызыўнік — адзіны карміцель. Што датычыць другога пытання, то, на жаль, шаноўная Вольга Мікалаеўна не ўдакладніла, у якія войскі прызваны яе сын. Бо палажэнне аб тэрытарыяльным прызыве не распаўсюджваецца, напрыклад, на ўнутраныя і пагранічныя войскі. Калі ж сын усё-такі трапіў ва Узброеныя Сілы, пытанне аб месцы яго службы ў кампетэнцыі галоўнага ваеннага камісара раёна.

Дарэчы, з нядаўняга часу ён, як правіла, з'яўляецца намеснікам старшыні выканкома. Таму спецыялісты міністэрства ў спрэчных выпадках раюць звяртацца па кансультацыі да раённай выканаўчай улады.

## ГЛЯДЗІЦЕ, ХТО СЯДЗІЦЬ!

***Колькі ў месцах пазбаўлення волі ўтрымліваецца асуджаных? Ці ўчыняюць яны і за кратамі якія-небудзь злачынствы?***

**Алег АНІСІМАЎ,** *Мінск*

Па інфармацыі МУС, у месцах зняволення на канец мінулага года ўтрымлівалася 53.250 чалавек, з іх у папраўча-працоўных установах знаходзілася 40 тысяч. Зноў-такі ў мінулым годзе ў сценах папраўча-працоўных устаноў асуджанымі ўчынена 113 злачынстваў: 10 — злоснага непадпарадкавання патрабаванням адміністрацыі, 28 выпадкаў уцёкаў (з ліку асоб, якія маюць права на свабоднае перамяшчэнне без канвою), 13 выпадкаў процiпраўнага процістаяння кіраўніцтву, 5 выпадкаў наўмыснага забойства асуджаных, 7 выпадкаў вырабу і захоўвання халоднай зброі.

На сённяшні дзень у папраўча-працоўных установах утрымліваецца 2100 небяспечных рэцыдывістаў. 2320 чалавек адбываюць тэрмін за згвалтаванне, а 235 — за вымаганне. 2934 чалавекі пазбаўлены волі за наўмысныя забойствы, а 2309 — за нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў. І апошняе. Самая большая частка асуджаных — гэта людзі, якія ўтрымліваюцца ў ППУ за крадзеж маёмасці ў буйных і асабліва буйных памерах, — іх 17.900 чалавек.

## У ЧЫМ «ПРАВІНІЛАСЯ» ФОЛЬГА?

***Неяк чула, што загортваць харчовыя прадукты ў фольгу шкодна для здароўя. Алюміній, кажуць, не самы карысны прадукт, а ён уваходзіць у фольгу.***

**Ларыса АГУРЦОВА,** *Брэст*

Сапраўды, у алюмініевую фольгу нельга загортваць прадукты, якія ўтрымліваюць кіслату, паколькі ў гэтым выпадку адбываецца хімічная рэакцыя, у выніку якой алюміній вызваляецца. У апошні час гэты метал сталі падазраваць у тым, што ён быццам бы можа спрыяць развіццю захворвання Альцгеймера (старэчая прыдуркаватасць - газета аб гэтай хваробе пісала ў мінулым «Пытальніку»). У алюмініевым посудзе нельга таксама варыць прадукты, якія ўтрымліваюць кіслату. Асабліва гэта датычыцца шчаўя, шпінату і рэвеню, таму што ў іх у вялікай колькасці ўтрымліваецца шчаўевая кіслата, якая лёгка ўступае ў злучэнне з алюмініем.

## КАМЕРЦЫЙНЫХ АПТЭК ДЛЯ МАЛАМАЁМНЫХ НЕ БЫЛО І НЕ БУДЗЕ

***З мінулай восені пакутую ад свербу ў паясніцы. Участковы ўрач прызначыў мне мазі па камерцыйных цэнах, але яны дапамагаюць толькі на нейкі час, і да таго ж каштуюць вельмі дорага. Нядаўна на пытанне «Звязды» міністр аховы здароўя Інеса Драбышэўская паведаміла, што пры аптэках для маламаёмных і інвалідаў міністэрства адкрывае спецыяльныя аддзелы. Але хіба гэта выйсце?***

**Герасім Фадзеевіч**
**ЛЮБАСКІН, 83 гады,**
*г. Бабруйск*

На жаль, паважаны Герасім Фадзеевіч, вы не вельмі дакладна зразумелі сэнс выказвання міністра аховы здароўя. Сапраўды, міністэрства збіраецца падтрымліваць ужо існуючыя і ствараць новыя камерцыйныя аптэкі, але спецыяльных аддзелаў для маламаёмных пры іх не было і, відаць, не будзе. Нам зразумелы ваш боль, але што зробіш: застаецца спадзявацца толькі на дзяржаўныя аптэкі, лекі ў якіх можна набыць па льготных цэнах. У прыватнасці, для інвалідаў III групы і людзей больш чым 70-гадовага ўзросту — са скідкай на 50 працэнтаў, для інвалідаў I і II груп — са скідкай на 90 працэнтаў. Гэтыя льготы існуюць і ў некаторых камерцыйных аптэках, але толькі ў тых з іх, якія заключылі дагаворы з выканкомамі аб кампенсацыі дзяржавай ільготнага продажу лекаў.

## ЯК МЫ ХОЧАМ ЗАРАБЛЯЦЬ ГРОШЫ?

***Магчыма, існуе нейкая інфармацыя, згодна з якой можна зрабіць выснову аб тым, якім спосабам зарабляць грошы сёння аддае перавагу і моладзь, і больш сталае пакаленне. Было б цікава азнаёміцца з данымі такога апытання.***

**Анатоль ЗАХАРЧУК,** *Навагрудак*

Калі, напрыклад, абапірацца на даныя даследавання навукова-даследчага эканамічнага інстытута пры Мінэканоміцы, то незалежна ад узросту рэспандэнты адказалі, што яны аддалі б перавагу таму прадпрыемству, дзе заработная плата невялікая, але гарантаваная.

Так, ва ўзросце ад 16 да 24 гадоў 33,9 працэнта аддалі б перавагу такой працы, 25 працэнтаў іх аднагодкаў выбралі б прадпрыемства, дзе зарплата высокая, але не заўсёды гарантаваная.

Ва ўзросце ад 45 да 54 гадоў гарантаваную і невысокую зарплату хочуць атрымліваць 37,4 працэнта апытаных, а 20,7 працэнта — высокую, але не гарантаваную. Сярод рэспандэнтаў з даходам 1-2 млн. рублёў і вышэй працэнт гатовых рызыкаваць большы, чым тых, хто аддае перавагу небагатай стабільнасці.

Сваю справу хацелі б адкрыць 54,4 працэнта маладых людзей ад 16 да 24 гадоў і толькі 10,9 працэнта не хацелі б гэтым займацца.

Сярод людзей больш сталага ўзросту колькасць жадаючых адкрыць сваю справу практычна роўная колькасці тых, хто супраць гэтага.

Большасць маладых людзей — 50,3 працэнта — лічаць, што для таго, каб лепш жыць, трэба разлічваць толькі на ўласныя сілы, але 38,7 працэнта іх аднагодкаў за тое, каб дзяржава забяспечыла ім нармальнае існаванне.

Характэрны і той момант, што чым старэйшага ўзросту былі апытаныя, тым больш надзей яны ўскладалі на дапамогу дзяржавы.

## БЕЛАЯ СУКЕНКА ДЛЯ НЯВЕСТЫ

***Наш чытач з Маладзечна Л. ЯФСТАФ'ЕЎ пацікавіўся паходжаннем вясельнай традыцыі апранаць нявесту ў белае адзенне.***

Пра паходжанне гэтай традыцыі расказвае «Жаночы каляндар» на 1996 год. Упершыню белую сукенку нявеста апранула на пераломе першай і другой паловы XVI стагоддзя ў Францыі ў часы праўлення караля Генрыха II і яго жонкі Кацярыны Медычы.

У 1548 годзе ў якасці нарачонай іх нашчадка — дафіна Францыска — пры каралеўскім двары з'явілася ...шасцігадовая Марыя Сцюарт — каралева Шатландыі. Няхай чытача не здзіўляюць яе ўзрост і сур'ёзныя тытулы — гэта было ў парадку рэчаў у тыя часы. Тут Марыі наканавана было знаходзіцца больш як 12 гадоў. Надзвычай здольная дзяўчынка расцвітала на вачах усяго двара, ператвараючыся ў цудоўную дзяўчыну. Яна заваявала любоў і сімпатыі ўсіх, хто быў вакол яе.

19 красавіка 1558 года, калі Марыі споўнілася шаснаццаць гадоў, паміж прадстаўнікамі Францыі і Шатландыі быў падпісаны шлюбны дагавор. А на 24 красавіка было прызначана вянчанне ў саборы Парыжскай Божай Маці.

У падрыхтоўцы шлюбнага ўбрання актыўны ўдзел прыняла Кацярына Медычы. Да таго часу нявесты са знакамітых сем'яў апраналіся ў адзенне чырвонага колеру. Аднак менавіта гэтага колеру Генрых II чамусьці не любіў. Яму больш даспадобы былі белы або чорны колер. Каб дагадзіць мужу, Кацярына Медычы апранула нявесту ў белую сукенку з белым вэлюмам. Дату 24 красавіка 1558 года якраз можна лічыць днём нараджэння белага ўбрання нявесты.

Навінка даволі прыязна была сустрэта каралеўскім дваром і яго акружэннем, затым яе падхапілі спачатку ў Францыі, потым яна распаўсюдзілася па ўсёй Еўропе і шчасліва дажыла да нашых дзён. Цяпер жа, калі раптам якая-небудзь нявеста адмаўляецца ад белага і апранаецца ў сукенку чырвонага, блакітнага ці якога-небудзь іншага колеру, гэта ўспрымаецца ўжо як прыкрае адступленне ад традыцыі.

## ПЫТАННЕ ГРАМАДЗЯНСТВА ПА ТЭЛЕФОНЕ НЕ АБМЯРКОЎВАЕЦЦА

***У рэдакцыю газеты прыходзяць пісьмы з просьбай дапамагчы разабрацца ў многіх сітуацыях. Напрыклад, БРУКОВІЧ Дзіна Мікалаеўна з Брэста піша, што за межы рэспублікі не выязджала з дня нараджэння, а яе не прызнаюць грамадзянкай Беларусі. А Юрый Аляксандравіч БАРЭНКА з Віцебска з 1993 года жыве і працуе там, мае сям'ю і прапіску, але на новым месцы працы паўстала пытанне аб беларускім грамадзянстве, бо ён нарадзіўся на Украіне.***

На жаль, на такія пытанні немагчыма даць адказ праз газету. Тут заўсёды мноства нюансаў, таму кожнаму трэба звяртацца асабіста. «Звязда» пераслала вашы пісьмы, паважаныя чытачы, у Міністэрства ўнутраных спраў РБ. Паведамляем, што даведкі па пытаннях грамадзянства дае аддзел грамадзянства МУС. Яго тэлефон 29-74-32. Прыёмныя дні — першы і трэці чацвер кожнага месяца з 10.00 да 13.00 і з 16.00 да 18.00. Адрас МУС — Гарадскі вал, 4.

## ЦЯЖАРНЫМ ПРАЦАВАЦЬ ПРОЦІПАКАЗАНА

***Я працую ў школе старэйшай піянерважатай. Ці маю я права, пайшоўшы ў дэкрэтны водпуск, працаваць да родаў (гэта яшчэ 2 месяцы)? Ці буду я атрымліваць і зарплату, і дэкрэтныя? А яшчэ мяне цікавіць памер выплат па цяжарнасці.***

**А. ГРЫШЫНА,**
*Карэліцкі раён*

Як паведамілі ў Фондзе сацыяльнай абароны, ні адна жанчына, якой бы лёгкай ні была яе работа, не можа працаваць да родаў.

Бальнічны лісток па цяжарнасці і родах выдаецца на перыяд такога становішча жанчыны, па ім выплачваецца дапамога. У адпаведнасці з апошнім палажэннем ад 16 студзеня 1996 года пры нараджэнні дзіцяці выплачваецца дапамога ў памеры трох мінімальных зарплат (сёння гэта сума складае 300 тысяч рублёў), і на працягу дэкрэтнага водпуску штомесяц палова сумы ад выплаты пры нараджэнні дзіцяці (г. зн. 150 тысяч рублёў).

## НЕ ЗЛОЎЖЫВАЙЦЕ «БЕЛАЙ СМЕРЦЮ»

***Кухонную соль часта называюць «белай смерцю», маючы на ўвазе тое, што празмернае яе спажыванне прыводзіць да ўзнікнення многіх хвароб. Ужыванне якой колькасці солі ў дзень з'яўляецца нормай?***

**А. САДОЎСКІ,** *г. Гомель*

Сапраўды, лішак натрыю (аднаго з асноўных элементаў кухоннай солі) можа затрымлівацца ў арганізме і выклікаць накапленне вадкасці, што ў сваю чаргу можа прывесці да ўтварэння ацёкаў і павышэння крывянога ціску.

Гіпертанія найбольш распаўсюджана ў развітых краінах, дзе людзі ўжываюць большую колькасць солі. Патрэба ж чалавека ў кухоннай солі складае дзесьці 5 грамаў у дзень.

## КОШТЫ ЗМЯНІЛІСЯ НЕ НА КАРЫСЦЬ «ПАТРЫЯТЫЗМА», А НА КАРЫСЦЬ ЯКАСЦІ

***Даведаўся, што з новага года мытныя пошліны на ўвоз у краіну іншамарак былі зніжаны з 5 ЭКЮ да 0,3 ЭКЮ за кубічны сантыметр рабочага аб'ёму рухавіка. Лагічна, што гэта зніжэнне павінна было адбіцца і на цане аўтамабіля ў рэспубліцы. Ці знізіліся ў гэтым годзе цэны на аўтамабілі і колькі яны зараз каштуюць?***

**Сяргей Б.**, *г. Мінск*

Логіка нашага чытача не падвяла. Цэны на іншамаркі сапраўды пасля зніжэння пошлін адразу папаўзлі ўніз. Нават можна прагназіраваць іх далейшае паніжэнне, вядома, калі не будзе ўнесена ніякіх змяненняў у нарматыўную базу.

Сітуацыя для аўтааматараў у краіне склалася як найлепш, і некаторыя заходнееўрапейскія мадэлі каштуюць не нашмат больш, чым расійскія «Лады», хоць значна пераўзыходзяць іх па якасці.

Прывядзём цэны на некаторыя маркі аўтамабіляў на рынках Мінска.

У залежнасці ад году выпуску (з 1984 па 1994) Audi 100 каштуе ад 6 да 22 тысяч долараў;

Ford Scorpio — 5,5— 11 тысяч;

Opel Kadett 1984—89 гг. выпуску пацягне на 3,5—5,5 тысяч долараў, што не нашмат больш за кошт Lada Nova і Lada Samara тых жа гадоў выпуску (2,4—4,4 і 2,6 — 4,9 тысяч долараў адпаведна).

Mercedes 230 E, 260 E 1990—92 гадоў выпуску абыдзецца ў 15—17 тысяч долараў ЗША.



У цэнах на аўтамабілі на розных рынках Мінска існуюць пэўныя разбежкі, аднак яны не такія ўжо істотныя.

## НАКОЛЬКІ ДАРАГІМІ БЫВАЮЦЬ КАРЦІНЫ?

***Вы часам пішаце аб рэкордах, зафіксаваных у Кнізе рэкордаў Гінеса. Нешта падобнае цікавіць і мяне, а канкрэтна: колькі каштуе самая дарагая карціна ў свеце?***

**Алесь МАЛЬЦАЎ,** *Мінск*

Лічыцца, што самая дарагая карціна — «Джаконда». Яна з'яўляецца нацыянальным багаццем Францыі і,зразумела, не прадаецца. Аднак страхавая ацэнка гэтага твора складае рэкордную суму ў 100 мільёнаў долараў.

Самым дарагім мастаком у бягучым стагоддзі да апошняга часу быў Ван Гог: яго «Партрэт доктара Гашэ» быў прададзены на аўкцыёне «Крысці» за 82,5 млн. долараў, а адну з версій «Сланечнікаў» японскі калекцыянер набыў за 60 мільёнаў долараў.

У мінулым стагоддзі самым дарагім стала палатно малавядомага цяпер жывапісца Жака Мейсанье «1814 год»: у 1889 годзе яно было прададзена за 850 тысяч франкаў (17 млн. долараў па цяперашняму курсу).

**Выпуск «Пытальніка» падрыхтавалі: Сяргей ГРЫБ, Жанна КАТЛЯРОВА, Сяргей ПРОТАС, Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# ЗАЛАТЫЯ РУКІ, СВЕТЛЫЯ ГАЛОВЫ

**Мы ўжо прызвычаіліся, што рыначныя рэформы, прыватызацыя, арэндныя адносіны, акцыяніраванне, нягледзячы на ўсе перашкоды, атрымалі нейкі рух у такіх сферах, як гандаль, харчаванне, бытавое абслугоўванне, фінансы, прамысловасць. І вось з'явілася першая ластаўка ў вельмі навукаёмістай галіне — Цэнтральнае канструктарскае бюро «Пеленг» Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання стала крыху больш года назад акцыянерным таварыствам адкрытага тыпу. Як пражыты гэты год, якія праблемы вырашаны, а якія патрабуюць свайго вырашэння, чым жыве калектыў зараз, над чым працуе? Расказвае старшыня савета акцыянернага таварыства «Пеленг», кандыдат фізіка-матэматычных навук Віктар Іванавіч МАЛІНКА.**



— Наша канструктарскае бюро было арганізавана ў 1975 годзе: дваццацігадовы юбілей адзначылі напрыканцы мінулага. За гэты час бюро стала лідэрам па шэрагу напрамкаў прыборабудавання ў былым Саюзе. Не сакрэт, што асноўная доля распрацовак прыпадала на заказы ваенна-прамысловага комплексу, таму з развалам Саюза з усёй вастрынёй паўстала пытанне канверсіі. Але павінен адразу зазначыць, што мы не думаем аддаваць пазіцыі ў сферы стварэння камер для касмічных і аэрафотаздымак, прыбораў для бранятанкавай тэхнікі і г. д. Наш інтэлектуальны і тэхналагічны капітал у гэтым напрамку можа быць запатрабаваны і міжнародным супольніцтвам, краінамі далёкага і блізкага замежжа. Я не памылюся і не перабольшу, калі скажу, што ў нашых канструктараў, інжынераў, рабочых светлыя галовы, залатыя рукі.

Каб не быць галаслоўным, прывяду некалькі прыкладаў. Мы робім два віды зусім унікальнай тэхнікі. Адзін для банкаў, другі для крыміналістаў. З іх дапамогай можна праверыць грашовыя купюры, вэксалі, іншыя каштоўныя паперы, латарэйныя білеты і г. д. на прадмет падробкі, а следчыя, судовыя эксперты могуць з высокай дакладнасцю зрабіць экспертызу гільзаў, куляў, зброі пры расследаванні крымінальных злачынстваў. З дапамогай нашай тэхнікі, напрыклад, можна праверыць долары ЗША, аддрукаваныя нават сто гадоў назад.

Цікавая і гісторыя стварэння гэтых прыбораў. Работнікі Нацыянальнага банка на Лейпцыгскай выстаўцы ўбачылі падобны прыбор, але кошт яго ў 90 тысяч долараў аказаўся «непад'ёмным». І вось яны захацелі высветліць: зможа хто-небудзь у Беларусі зрабіць нешта падобнае ці не? Нашы спецыялісты выслухалі іх пажаданні і прыступілі да работы. У выніку атрымаўся прыбор, сціпла кажучы, не горшы за замежныя аналагі, а па шмат якіх характарыстыках — нават лепшы. І па цане амаль у чатыры разы таннейшы. Ім зацікавіліся заказчыкі ў Польшчы, Літве, Расіі, іншых краінах. Наша тэхніка можа працаваць у рэжыме фатаграфавання, вываду «карцінкі» на камп'ютэр, можам праверыць структуру паперы і тут жа перайсці на рэжым работы ў інфрачырвоным альбо ультрафіялетавым выпраменьванні і г. д.

Са стварэннем акцыянернага таварыства ў нас з'явіліся новыя магчымасці арганізацыі працы, яе аплаты. Нашы канструктары, распрацоўшчыкі, рабочыя могуць стаць уладальнікамі не толькі нейкай канкрэтнай уласнасці, але і ўладальнікамі інтэлектуальнай уласнасці ў выглядзе вынаходак. Для творчага чалавека гэта вельмі важна. Як важна і тое, што яго ідэі, напрацоўкі могуць з дапамогай калектыву хутка ўвасобіцца ў рэальныя прыборы, машыны, вырабы, якія карыстаюцца попытам не толькі на ўнутраным, але і замежным рынку.

Да гонару ўсіх нашых людзей, яны не разгубіліся ў віхуры пераходнага перыяду, пры адсутнасці ваенных заказаў, а змаглі зарыентавацца і прапанаваць заказчыкам новыя віды прадукцыі: лазерныя, аптычныя прыцэлы для паляўнічых, сістэмы аховы вытворчых і жылых памяшканняў, тэхніку для мытні і ДАІ, розныя прыстасаванні для хатніх майстроў і дачнікаў...

Што хвалюе? Беднасць людзей, беднасць прадпрыемстваў, беднасць ведамстваў, беднасць дзяржавы. Многія нашы распрацоўкі застаюцца незапатрабаванымі, хоць сітуацыя настойліва вымушае ўкараняць іх у жыццё. Скажам, тыя ж распрацоўкі для крыміналістаў. Крадзяжы, забойствы, тэрарызм становяцца сумнай штодзённай прыметай. Злачынцы добра ўзброены, экіпіраваны, а тыя, хто павінен весці з імі барацьбу, не маюць сучаснай тэхнікі. Таму і застаюцца шмат якія злачынствы нераскрытымі, а значыць, і беспакаранымі.

Хачу, каб мяне правільна зразумелі. Мы не просім асабіста для сябе сродкаў на распрацоўку нейкай важнай для краіны ідэі. Мы кажам так: дайце грошы патэнцыяльным заказчыкам, тым жа крыміналістам, мытнікам, медыкам, а яны няхай купляюць абсталяванне дзе хочуць, хоць бы і за мяжой. Але мы ўпэўнены — купяць у нас. Таму што мы зробім тое, што хоча заказчык, пад яго патрабаванні. І не горш, чым за граніцай, і па значна меншай цане. У нас для гэтага дастатковы інтэлектуальны і вытворчы патэнцыял. Гэта, падкрэслю, вельмі важны момант, і мы на яго ідзём свядома. Такая наша ідэалогія.

Першыя крокі акцыянернага таварыства «Пеленг» ва ўмовах рынку паказваюць, што і замежных кліентаў цікавіць наша прадукцыя. Усталёўваюцца трывалыя сувязі з фірмамі Францыі, Кітая, Арабскіх Эміратаў, іншых краін. Не апошнюю ролю ў гэтым адыгрывае тое, што ў сваёй працы мы ўсё больш і больш выкарыстоўваем сучасныя камп'ютэрныя тэхналогіі з вельмі моцным праграмным забеспячэннем. Тэрміны выканання работ пры гэтым скарачаюцца ў дзесяткі разоў.

Мы ўпэўнена глядзім у будучыню, маем неблагі прыбытак, які накіроўваем на развіццё вытворчасці, распрацоўку новых відаў прадукцыі.



***На здымках:*** **Віктар МАЛІНА; начальнік аддзела Аляксандр КУДРАШОЎ, канструктары Валерый КІШЫЛАЎ і Аляксандр БАРЦЭВІЧ.**
***фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.***

***Адрас і кантактныя тэлефоны ААТ «Пеленг»:***
**220023, вул. Макаёнка, 23.**
**Тэл.: 63-82-04, 63-96-25; факс: 63-65-42.**

***ЭКАЛОГІЯ***

# ЛЯ АДНОЙ РАКІ

**Шэсць турыстычных груп з Францыі звярнуліся ў Бярэзінскі біясферны запаведнік з заяўкамі аб наведванні ў гэтым годзе цудоўнага кутка беларускай прыроды з узведзенымі тут яшчэ 150 гадоў назад воднымі збудаваннямі. А летась запаведнік пашырыўся за кошт унікальнага балотнага масіву «Ельня». На ШумілІншчыне сустракалі новы год даўно не бачаныя тут жывёлы: 15 высакародных аленяў былі завезены на пастаяннае месца жыхарства з Белавежскай пушчы. Праўда, непадалёк, пад Бешанковічамі, статак аленяў-навасельцаў з Варонежскага запаведніка ўжо налічвае 44 галавы. А яшчэ ў згодзе з ласямі, дзікамі, казулямі зімуюць у лясной гаспадарцы занесеныя ў Чырвоную кнігу рэспублікі барсук, чорны бусел, змеяед.**

Такія маленькія сведчанні перамог эколагаў у барацьбе за захаванне навакольнага асяроддзя можна прыводзіць і далей. Але нічога не рабілася і не робіцца само сабой. І людзі, якія дасягаюць гэтых перамог, іх не лічаць, яны гатовы прывесці куды больш прыкладаў процілеглых, але настойліва працуюць далей.

— Патрэбна матэматычная мадэль рэгіёна, — расказвае рэктар Віцебскага дзяржаўнага універсітэта прафесар Віктар Вінаградаў, — і кафедры ВНУ працуюць над яе стварэннем. Беларускае Паазер'е павінна мець комплексную праграму развіцця.

Такая праграма распрацавана, прайшла шэраг інстанцый і чакае свайго зацвярджэння Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь. Але вучоныя не спыніліся на гэтым. Універсітэт выступіў з ініцыятывай супрацоўніцтва трох дзяржаў — Расіі, Беларусі, Латвіі — па стварэнню адзінага комплексу аховы прыроднага басейна Заходняй Дзвіны, арганічнай часткай якога з'яўляецца Паазер'е. Трэць ракі прыпадае на тэрыторыю Беларусі. У пойме яе захаваліся каля 2 тысяч азёр, унікальных балот, сярод якіх і знайшоўшая абарону «Ельня». Толькі апошнія экспедыцыі універсітэта дазволілі выявіць адзінкавыя экземпляры такіх раслін, як мытнік Кауфмана, рэліктавая лабелія Дортмаха, адзіны грыб-баран, 18 гняздоўяў рэдкіх птушак, сярод якіх — вялікі смоўж... На жаль, нам, большасці двухногіх насельнікаў Паазер'я, на наш сорам, нічога не гавораць гэтыя нязвыклыя назвы. А па ўчынках нашых можна меркаваць, што і не вельмі патрэбны нам тыя чорнавалёвыя гагары і палушнік азёрны, з-за якіх трэба пацясніцца калгаснаму трактару або, горш таго, пасунуцца з дачай...

Ды і на дзяржаўным узроўні яшчэ не-не ды і сустрэнешся з застарэлым поглядам, быццам пераадоленне эканамічных цяжкасцей важней за экалагічныя наступствы. Між тым, эколагі патрабуюць толькі аднаго: разумнага гаспадарання з беражлівымі адносінамі да ўсяго жывога, гэта значыць жыцця ў згодзе з прыродай, не пярэчачы здароваму сэнсу. Але ж простыя ісціны на практыцы даюцца цяжэй за ўсё. Падрыхтаваў універсітэт разам з Камітэтам па экалогіі аблвыканкома пералік заказнікаў мясцовага значэння, але ён ніяк не дачакаецца зацвярджэння: многія аблюбавалі некаторыя з месцаў, дзе прапануецца абмежаваць гаспадарчую дзейнасць. Між тым, асабліва ахоўваемыя тэрыторыі складаюць на Віцебшчыне 4,4 працэнта тэрыторыі, плануецца ж давесці іх да 11. Да існуючых батанічных заказнікаў мясцовага значэння «Чортава барада», «Тулаўскі», «Віцебскі», «Прыдзвінне», «Аслепна», гідралагічныя «Тыеста», «Бешанковіцкі» дабавяцца новыя, ствараюцца нацыянальныя паркі. Яны і будуць выконваць кампенсуючую ролю ў нейтралізацыі ўздзеяння на прыроднае асяроддзе прамысловых выкідаў у атмасферу Віцебска, Полацка, Наваполацка.

Аднак, на думку супрацоўнікаў універсітэта, эфект у намаганнях можа быць дасягнуты толькі пры адзінстве дзеянняў сумежных дзяржаў. Вучоныя першымі пайшлі насустрач адзін аднаму. Падпісана пагадненне паміж Віцебскім і Даўгаўпілскім універсітэтамі аб навуковым супрацоўніцтве, у Віцебску праведзена першая пасля размежавання навукова-практычная канферэнцыя «Дзвіна—Даўгава» з удзелам ВНУ, размешчаных па цячэнню ракі. Акрамя ўсяго іншага, шмат дае ўлік вопыту эколагаў суседніх рэспублік.

— У ВНУ створаны цэнтр, які аб'ядноўвае намаганні дзесятка прыродаахоўных устаноў, — падзяліўся з карэспандэнтам сваімі думкамі рэктар Даўгаўпілскага педагагічнага універсітэта Бруна Янсанс. — Цэнтр падрыхтаваў і выдаў двухтомны збор твораў па гісторыі, культуры і быту людзей, што жывуць ля ракі. «Ненармальныя», як называюць эколагаў у Латвіі, вось ужо чатыры гады запар спраўляюць свята Даўгавы, узнавілі рытуал провадаў плытагонаў, даследавалі каля 2 тысяч крыніц, усе даліны, яры, адкрылі на ўзбярэжжы вучэбныя сцежкі. Здавалася б, якую інфармацыю можа ўтрымліваць валун? Аднак даследаванні кожнага з іх склалі асобныя брашуры, у выніку прыйшлі да высновы, што яны з'яўляюцца нацыянальным багаццем, наладжаны іх улік, яны ўзяты пад ахову дзяржавы. А да самага вялікага валуна каля Даўгаўпілса нават водзяць экскурсіі.

Але самыя найлепшыя экалагічныя праграмы, нават калі яны будуць распрацаваны з дакладнасцю матэматычнай мадэлі, не стануць рэальнасцю, калі не будуць нормай паводзінаў людзей. Колькі гадоў спатрэбіцца на гэта? Бруна Янсанс лічыць, што зменіцца некалькі пакаленняў.

Кантрастныя прыклады з практыкі побыту вярхоўяў Заходняй Дзвіны прывёў яшчэ адзін мой субяседнік, гісторык з Цверы Вячаслаў Вараб'ёў, з якім давялося сустрэцца на экалагічнай канферэнцыі ў Віцебску. Пяць паселішчаў каменнага веку і адно старажытнарускае селішча выявілі археолагі ў Верхнім Падзвінні. Праведзеныя тут экспедыцыі далі матэрыял для напісання серыі раённых падручнікаў па геаграфіі, гісторыі і культуры. Нямецкія вучоныя дапамаглі Цвярскому запаведніку з абсталяваннем, Асацыяцыя астранаўтаў ЗША падарыла пакет здымкаў, зробленых з космасу, і прапанавала праект па сумеснаму касмічнаму краязнаўству. Аднак ніякія аўтарытэты, здаецца, не здольны паўплываць на дырэктара, брыгадзіра і тралёўшчыка лясгаса: у час кожнай экспедыцыі выяўляюцца новыя сляды высечкі лесу. Ідзе ён і на экспарт, і для ўласных патрэб вяскоўцаў.

Усё ж комплексны план аховы прыроднага асяроддзя Заходняй Дзвіны намаганнямі эколагаў трох дзяржаў, якія вырашылі ўзгадніць дзеянні, будзе, напэўна, распрацаваны. Цалкам магчыма, што пачуюць і прапановы віцяблян аб далучэнні Беларускага Паазер'я да Рамсарскай канвенцыі па ахове водна-балотных угоддзяў і Бонскай канвенцыі па ахове мігрыруючых птушак. Ды, шкада, не чытаюць канвенцыі і творы навукоўцаў вельмі многія з тых, ад каго ўсё і залежыць. Можа, даведаўшыся аб іх намаганнях, таксама стануць хоць крышачку «ненармальнымі» перад велічнасцю падараванага нам самой прыродай.

А самых практычных можа пераканаць і эканамічная выгада. Так, у раён аздараўлення гатовы ператварыцца Ушаччына з яе 254 азёрамі, лясамі і балотамі на трэці тэрыторыі і бальнасцю зямлі ўсяго ў 27 адзінак. Па разліках старшыні райвыканкома Івана Барунова, гэта прынесла б большы плён, чым сельская гаспадарка, якая на 56 працэнтаў дацірuецца. Дарэчы, за кошт Дзяржкамчарнобыля тут будуецца шыкоўны санаторый «Вечалле», здабываецца «мінералка». А памнажэнне статка аленяў у Машканскім лясніцтве дазволіла ўжо пачаць іх адстрэл, мяса іх таксама высакароднае, калі меркаваць па яго доларавай цане.

**Вольга СІДАРОВІЧ.**

Віцебск.

## БЕЛАРУСКАЯ КНІГА ЧАКАЕ ПАДТРЫМКІ АД ПАРЛАМЕНТАРЫЯЎ

**Купля новых кніг для большасці жыхароў нашай рэспублікі стала, на жаль, дарагім задавальненнем. Як, дарэчы, і іх выпуск. Таму няма нічога дзіўнага, што ў выдавецкай дзейнасці паказчыкі паступова зніжаюцца.**

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА намеснік міністра культуры і друку Станіслаў Нічыпаровіч, у мінулым годзе ў Беларусі было выпушчана 3205 кніг агульным тыражом 62,9 мільёна экземпляраў. Пры гэтым на долю дзесяці дзяржаўных выдавецтваў прыпадае толькі 20,4 працэнта па назвах і 31,1 працэнта па тыражу. Большасць жа кніг убачыла свет прыватным чынам, што таксама зразумела. Цяпер ліцэнзіі на кнігавыдавецкую дзейнасць маюць 1257 фірмаў, прадпрыемстваў і арганізацый. Хоць у мінулым годзе такое права выкарысталі ўсяго 118 фірмаў, якія выпусцілі 1184 кнігі агульным тыражом 42,7 мільёна экземпляраў.

Разам з тым Станіслаў Нічыпаровіч падкрэсліў, што нягледзячы на зніжэнне паказчыкаў у кнігавыдавецтве, выпуск сацыяльна значнай літаратуры ажыццяўляўся даволі энергічна. Аналагічная палітыка будзе праводзіцца і ў гэтым годзе.

Да таго ж, па ўзгадненню трох міністэрстваў — Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі і навукі і Міністэрства фінансаў — прынята рашэнне часткова дацыраваць за кошт сродкаў з рэспубліканскага бюджэту камплектаванне новымі кнігамі школьных і публічных бібліятэк, а таксама серыі «Школьная бібліятэка». Аднак, падкрэсліў Станіслаў Нічыпаровіч, фінансавая падтрымка ў камплектаванні бібліятэчных фондаў датычыць толькі сацыяльна значнай літаратуры, а папаўненне іх астатнімі выданнямі і перыёдыкай павінна ажыццяўляцца за кошт мясцовага бюджэту.

Вялікую надзею кнігавыдаўцы ўскладаюць на Вярхоўны Савет, куды перададзены ўжо іх прапановы па льготнаму падаткаабкладанню. У Расіі, напрыклад, ужо многае зроблена ў гэтым плане, і калі ў Беларусі не возьмуць прыклад з яе, нашы кнігі стануць неканкурэнтаздольнымі — з-за больш высокай цаны.

**Віктар КУКЛОЎ, БЕЛТА.**



# РАСІЙСКІЯ ПАЛІТЫКІ Ў СТРАСБУРГУ

## Дэпутаты новай Дзярждумы Расіі

## Р. Абдулаціпаў, Г. Зюганаў, У. Жырыноўскі пра свет, Расію і пра сябе

**Тыдзень 22—26 студзеня ў Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы прайшоў пад знакам Расіі і закончыўся доўгачаканым, але складаным прыняццем Расійскай Федэрацыі ў гэтую арганізацыю (гл. «Звязду» за 30 студзеня 1996 г.). З гэтай нагоды ў Страсбургу прысутнічалі дзесяткі расійскіх палітыкаў і журналістаў, так што руская мова чулася ў будынках Савета Еўропы нароўні з французскай ці англійскай. Ды і цікавасць з боку дэлегацый розных краін на гэты раз сканцэнтраваўся на расійскіх праблемах, на расійскіх палітыках. Апошнія акрамя паўдзесятка выступленняў у дыскусіі на сесіі Парламенцкай асамблеі зрабілі шмат дакладаў і заяў на пасяджэннях камітэтаў і груп асамблеі, вялі афіцыйныя і неафіцыйныя перамовы з дэлегацыямі многіх краін, далі безліч інтэрв'ю СМІ, правялі некалькі прэс-канферэнцый. Карэспандэнт «Звязды», які быў у гэтыя дні ў Савеце Еўропы па запрашэнню Дырэкцыі інфармацыі і аддзела па сувязях з прэсай СЕ, не мог застацца ў баку ад усеагульнай цікаўнасці і размаўляў з многімі расійскімі палітыкамі. Прычым не толькі па тэме прыняцця Расіі ў Савет Еўропы.**

У дыскусіях падчас абмеркавання расійскай заяўкі на прыём у СЕ найбольш часта ўпаміналіся свежыя яшчэ падзеі ў Расіі, звязаныя з Чачнёй і Дагестанам, а таксама перамога на снежаньскіх выбарах у Дзярждуму камуністаў і ЛДПР. Гэтым і быў абумоўлены асаблівы інтарэс да асоб расійскіх дэпутатаў Рамазана Абдулаціпава, Генадзя Зюганава і Уладзіміра Жырыноўскага.

Рамазан Абдулаціпаў прыехаў у Страсбург адразу пасля паездкі ў Дагестан, на месца крывавага канфлікту ў вёсцы Першамайскае. Водблескі той трагедыі яшчэ не сышлі з яго твару, ён быў моцна ўзрушаны і заклапочаны. Аднак яго місія ў Страсбургу была выключна карыснай і неабходнай — патлумачыць парламентарыям, што ж адбылося ў Першамайскім, як была ўспрынята гэтая бяда ў Дагестане. Р. Абдулаціпаў пацвердзіў, што народы Паўночнага Каўказа падтрымліваюць уваходжанне Расіі ў Савет Еўропы, гэта ім патрэбна ў тым ліку і для падтрымання самiх правоў. Вось што расказаў Рамазан АБДУЛАЦІПАЎ карэспандэнту «Звязды».

### «КРЫЎДЫ НА МАСКВУ НЯМА. ЁСЦЬ ПАЧУЦЦЁ ГАНЬБЫ»...

— Зразумела, што ўражанні ў мяне самыя жахлівыя, як у чалавека, што вярнуўся з зоны найцяжэйшай трагедыі. Аднак тут многія забываюць, што трагедыя гэтая была прынесена ў Дагестан дудаеўскімі баевікамі. Чамусьці ўсе замыкаюцца толькі на дзеяннях федэральных сіл... Самае прыкрае, што гэта ўпершыню так здарылася ў адносінах да Дагестана, гістарычнага суседа Чачні. Адна справа, калі чалавек паскудзіць у сябе, іншая — калі ў доме суседа, свайго брата. Гэта самая нізкая форма і маральнага, і палітычнага падзення.

*— Ці было раней спачуванне ў дагестанцаў у адносінах да чачэнцаў?*

— Спачування як яўнай падтрымкі не было, але заўсёды было спачуванне да іх як да суседзяў, людзей, што трапілі ў бяду. Больш таго, дагестанцы ж не прапусцілі ніводзін танк праз сваю тэрыторыю ў Чачню, кіруючыся сваімі традыцыямі. А дудаеўцы, калі зрабілі гэта, абразілі перш за ўсё народы Дагестана, і яны гэтую справу проста так у любым выпадку не пакінуць...

*— І як цяпер дагестанцы ставяцца да чачэнцаў?*

— Да чачэнцаў ставяцца нармальна, а да дудаеўцаў — як да людзей, што паставілі сябе па-за законам гор, маралі, гонару і годнасці.

*— Ці ёсць крыўда на Маскву, цэнтр?*

— Крыўды на Маскву няма ніякай, ёсць пачуццё ганьбы. Ганьбы за такі стан улады. Дагестанцы былі больш кансерватыўнымі і лаяльнымі ў адносінах да цэнтра, адкрыта не выступалі... А федэральныя ўлады ў гэтым выпадку проста зганьбілі сябе. Калі я быў у Першамайскім у час баёў, я казаў, што калі звалілася такая трагедыя на нашу галаву, ніхто, акрамя нас, яе не адолее, гэта трэба мужна і мудра перанесці. Але самае страшнае будзе, калі праз тыдзень Радуеў са сваёй групай будзе дзе-небудзь даваць прэс-канферэнцыю... Што і здарылася надоечы. Вось гэта самае ганебнае ва ўсёй гэтай трагедыі, і гэта характарызуе ў нас стан улады і ўсяго іншага.

*— Якія былі сапраўдныя страты ў Першамайскім?*

— Гэта цяжка сказаць дакладна, бо мы нават не маглі вызначыць дакладна лік заложнікаў... Паводле маіх даных, з боку заложнікаў загінула каля 40 чалавек... Пра дудаеўцаў я не ведаю. Я ўвогуле не разумею, як адтуль людзі выйшлі, пасля такіх атак? Я ж быў у ваколіцах гэтай вёскі і бачыў, што стаялі танкі, некалькі ланцугоў воінаў, такіх мужных і моцных людзей...

*— Можа, дзякуючы вялікаму хабару?*

— Я не думаю, што так было, гэта ўсё-такі былі элітныя войскі. Хутчэй за ўсё, дудаеўцы прарваліся...

*— Як цяпер выглядае Першамайскае?*

— Усё разбурана, а жыло там каля 900 чалавек.. Канешне, мы адновім яго. Калі б я цяпер быў у Дагестане, то мы аднавілі б яго сіламі дагестанцаў. Пасля такой ганьбы, мяркую, не варта кудысьці звяртацца па дапамогу. Дагестан сам зможа аднавіць гэтую вёску, у нас 50 раёнаў і гарадоў, і калі кожны пабудуе 4-5 дамоў...

*— Канфлікт у Дагестане значна ўскладніў прыняцце Расіі ў Савет Еўропы?*

— Гэтая акцыя спецыяльна была сплanавана Дудаевым напярэдадні першага пасяджэння Дзяржаўнай думы і прыняцця Расіі ў СЕ. Дудаеў з пункту гледжання прапагандысцкіх акцый часта апярэджваў, нават перайграваў маскоўскіх аналітыкаў... І цяпер Дудаеву яшчэ раз удалося ўзняць расійскі парламент на праблему Чачні і проціпаставіць яго выканаўчай уладзе. Дудаеву ўдалося яшчэ раз прыцягнуць да Чачні і ўвагу сусветнай грамадскасці.

*— Як па-вашаму развяжацца гэты чачэнскі вузел: шляхам «адстрэлу шалёных сабак», як заяўляюць некаторыя прадстаўнікі расійскага кіраўніцтва?*

— Адстрэл шалёных сабак — выраз надта моцны, але ён не павінен гучаць з вуснаў расійскіх палітыкаў. Тэрарыстаў трэба называць пайменна, а не пераносіць негатыў на ўвесь народ. Народ — гэта іншая катэгорыя, гістарычная, ён будзе жыць тысячагоддзямі, і ў адносінах да яго не павінна быць сказана ніводнага неасцярожнага слова. Народ не вінаваты, тым больш што чачэнскі народ з'яўляецца заложнікам самога Дудаева, гэтай трагедыі. Я ўвогуле супраць таго, каб называць гэтых тэрарыстаў чачэнскімі. Тэрарысты ёсць тэрарысты. Усё роўна нам жыць побач з Чачнёй, усё роўна чачэнцы будуць жыць у Расіі.

***Так ці інача, тэма чачэнскай вайны гучала з вуснаў усіх расійскіх палітыкаў. Гучалі розныя ацэнкі: ад такіх, як ва У. Жырыноўскага, які абяцаў за тры дні ўціхамірыць Чачню, да заявы Г. Зюганава, аб тым што толькі яго намеснік змог пабываць у многіх чачэнскіх бункерах падчас вайны, і пропускам яму служылі словы: «Я — ад кампартыі Расіі».***

### ГЕНАДЗЬ ЗЮГАНАЎ — ЗА ЧЫРВОНЫ СЦЯГ

***Генадзь Зюганаў, лідэр партыі-пераможцы на выбарах у Дзярждуму Расіі, прадстаўляў у Страсбургу палітычную сілу, якая ўжо гатова перахапіць уладу ў Расіі. У кулуарных размовах з журналістамі ён зазначыў, што прэзідэнцкія выбары ў Расіі абавязкова адбудуцца гэтым летам і быў вельмі высокай думкі аб сваіх шанцах. Г. Зюганаў стараўся прыдаць сабе імідж саліднага і прадказальнага палітыка, з якім Захад можа весці сур'ёзную гаворку. І хоць многія парламентарыі выказвалі перасцярогу перад вяртаннем камуністаў да ўлады ў Расіі, усё ж большасць убачыла ў партыі Зюганава новую генерацыю камуністаў, больш дэмакратычную і цывілізаваную... Сам жа Г. Зюганаў і некаторыя яго паплечнікі на штрыфелях пінжакоў насілі чырвоныя дэпутацкія значкі РСФСР. Гэта і выклікала маё першае пытанне да яго:***

*—Калі Расія вернецца да чырвонага сцяга?*

— Я хачу падкрэсліць, што мы самыя законапаслухмяныя людзі, таму што ў Расіі новая сімволіка не ўзаконена. Яна зацверджана ўказамі прэзідэнта, некаторымі іншымі актамі. Гэтае пытанне абмяркоўвалася мінулым саставам Думы, але канчатковага рашэння прынята не было. Мы зноў да яго вернемся.

*— Ці азначае гэта, што вы мяркуеце ўзяць прыклад з А. Лукашэнкі і вярнуць ва ўжытак чырвоныя сцягі і ранейшы герб РСФСР?*

— Справа не ў прыкладзе Лукашэнкі. Калі вы не паважаеце сцягі, з якімі змагаліся вашы продкі і якім удзячна ўся Еўропа, калі вы не прызнаяце рашэнні вашых бацькоў і продкаў па тых ці іншых пытаннях, тады вы будзеце кожны раз з чарговага панядзелка пачынаць жыццё нанава, а гэта заўсёды абарочваецца канфузамі і непрыемнасцямі. Я з павагай стаўлюся і да старой расійскай сімволікі, і да савецкай. Я за тое, каб было пачуццё пераемнасці. Але супраць таго, каб кожны раз, калі прыходзіш — адно выкідваеш, іншае вешаеш. Так да дзяржаўнай атрыбутыкі не адносяцца. У войску я прысягаў чырвонаму сцягу...

*— Але ж цяпер у Расіі іншая дзяржава?*

— Я прашу прабачэння, гэта пакуль не дзяржава. Гэта абрубак, які ўвесь час сыходзіць крывёю, які разарваў сувязі па жывому, не лічачыся ні з чым...

*— Ці не думаеце вы, што «абрубкі» зноў можна скласці?*

— Не, нанава не складзём, але мы за тое, каб аднавіць парушаныя сувязі. Хіба гэта нармальна, калі ўстанавілі мытні на мяжы з Украінай, дзе іх ніколі не было? Я з Франкфурта ў Страсбург прыязджаў шмат разоў — у мяне ні разу пашпарт не спыталі, а на мяжы з Украінай у мяне ўсе чамаданы праверылі. У мяне ж жонка родам з Украіны, сваякоў там поўна... Гэта ж ненармальна, гэта XVII стагоддзе! Мы разумеем, што гэта дрэнна, але гэта не азначае, што нехта замахваецца на незалежнасць Украіны, яе суверэнітэт. Наадварот, нават у рамках Саюза Украіна была членам ААН, вырашала свае праблемы і развівалася вельмі дынамічна. Узровень жыцця там быў высокі. А цяпер я прыязджаю туды, і мне проста балюча. Пакуль я па Крашчаціку дайшоў да Бесарабскага рынку, мяне тройчы знаёмыя спынілі: у парваных ботах, бедныя... Не прынесла ўсё гэта шчасця ні Украіне, ні Расіі.

***Зразумела, што імідж расійскай дэлегацыі дапаўнялі і іншыя палітыкі: У. Лукін, І. Хакамада, У. Падапрыгара, А. Дзасохаў. Аднак па ходу пасяджэння было відавочна, што найбольшы тут аўтарытэт быў у чалавека, які не прысутнічаў у гэтай зале, — праваабаронцы С. Кавалёва, нядаўна знятага са сваіх пасад. Яго лісты парламентарыі Савета Еўропы чакалі з нецярпеннем, да яго думкі ўважліва прыслухоўваліся. У рэшце рэшт, гэта нават вывела з сябе іншы аўтарытэт (праўда, са знакам «мінус») — Уладзіміра ЖЫРЫНОЎСКАГА, якому, здаецца, ужо многае дазваляюць у зале Асамблеі. Праўда, і на гэты раз У. Жырыноўскі прыехаў у Страсбург па візе з абмежаваннямі. Прыйшоўшы ў Палац Еўропы, ён адразу арганізаваў неафіцыйную прэс-канферэнцыю, вакол яго стоўпіліся мясцовыя і прыезджыя журналісты і хто жартам, а хто ўсур'ёз пачалі дапытваць няўрымслівага лідэра ЛДПР, які адразу ж накінуўся на Сяргея Кавалёва.***

### «СВЕТУ БЕЗ ВОЙНАЎ НЕ БЫВАЕ», — ЛІЧЫЦЬ У. ЖЫРЫНОЎСКІ

— Кавалёва нельга слухаць, бо ён адзіночка. Ён сядзіць, як дзеўка-векавуха, і гаворыць. А захапілі рускіх рабочых у Грозным — ён маўчыць. Ён заўсёды маўчыць, калі ідзе прамое парушэнне правоў чалавека. А калі яму трэба, пад заказ, ён кажа, што рускі народ не мае правасвядомасці... Я яму спачуваю, яму ў турме адбілі свядомасць... А я ў турме не сядзеў, у псіхушцы не быў.. Дык што, тыя 15—20 чалавек, што сядзелі ў турмах, і прадстаўляюць рускіх? Не. Ёсць волевыяўленне народа, выбары, калі кожны мог даказаць чаго варты. Мяне ўвогуле падтрымалі 25 мільёнаў расіян (у 1991, 1993 і 1995 гадах), — У. Жырыноўскі такім чынам падкрэслівае сваё права гаварыць ад імя рускага народа. І выкарыстоўвае яго для адкрытай канфрантацыі з Захадам:

— У нас самая свабодная краіна. Дзе ў Еўропе яшчэ ёсць такое? Вунь у Германіі туркаў жывымі паляць, Белфаст 25 гадоў у крыві, Балканы ў крыві... А праблема баскаў і каталонцаў у Іспаніі... У Бельгіі валонцы і фламанцы 120 гадоў не могуць разабрацца... Таму вучыць нас не трэба.

*— Тады які ж інтарэс Расіі ў Савеце Еўропы?*

— Ды гэта мода нейкая. Калі б я быў на месцы Ельцына, я ўвогуле не даваў бы заяўку. Будзем мы яшчэ чакаць, пакуль прымуць. Прыязджайце ў Крэмль, станьце ў чаргу і чакайце, калі вас прымуць. Савет Еўропы — гэта адстойнік для дэпутатаў... Ды мы яшчэ павінны 20 мільёнаў плаціць за тое, што нам будуць указваць: тое мы не так робім і гэтае. А калі мы ўступім, дык гэта будзе новы свежы струмень, бо тут жа ўсё заплеснела. А Расія — гэта новая дэмакратыя, новы узлёт, новая старонка для Еўропы. Без Расіі няма Еўропы, хай упрошваюць яшчэ нас уступіць... мы можам абысціся і без іх, створым свой блок славянскіх і праваслаўных краін...

*— Калі вы станеце прэзідэнтам Расіі, як вы будзеце адносіцца да праблемы расшырэння НАТО, — цікавіцца славацкі журналіст.*

— Калі краіны Сярэдняй Еўропы будуць імкнуцца ў НАТО, яны паставяць сябе пад пагрозу. Будзе процістаянне паміж Расіяй і НАТО, і будучая вайна зноў пройдзе па тэрыторыі Сярэдняй Еўропы. Вам мала таго, што нямецкія танкі ўжо прайшліся па вашай тэрыторыі, а следам за імі рускія? Калі вы выйшлі з савецкага блока, дык заставайцеся нейтральнымі... Вам што, хочацца мыць боты натаўскім афіцэрам?.. Свет стаіць на канфліктах, у свеце ніколі не будзе спакою, заўсёды будуць канфлікты і праблемы, і маленькім краінам не трэба пападаць між зубоў вялікіх дзяржаў. Свету без войнаў не бывае.

*— Каго вы запросіце ў свой усходні блок?*

— Ды ўсе славянскія і праваслаўныя дзяржавы: Грэцыю, Сербію, Македонію, Балгарыю і Славакію, Польшчу, Чэхію... Мы створым блок і пачнём запрашаць. І Кітай яшчэ можа ўвайсці, Індыя — і ў нас будзе тры мільярды насельніцтва, самая моцная зброя, навука, вытворчасць...

***Уладзімір Жырыноўскі істэрычна заяўляў падчас свайго выступлення ў зале пасяджэнняў Парламенцкай асамблеі:***

— Калі вы крытыкуеце Ельцына, то вы глыбока памыляецеся: ён занадта мяккі палітык. 16 чэрвеня прыйдзе новы прэзідэнт Расіі, і ён закончыць справы з Чачнёй за тры дні. Рай у Еўропе забяспечвае руская армія, мы ваявалі тысячу гадоў... Калі вам гэта не падабаецца, я зраблю калідор у Еўропу, і чачэнскія банды прыйдуць да вас. Вы жывяце ў цяпліцы, на вас не падаюць бомбы, вы забылі 9 мая 45-га года... І вы тут цяпер усе сядзіце — вы б сядзелі ў Бухенвальдзе, у нямецкім канцэнтрацыйным лагеры, калі б не наша армія, якая 50 гадоў таму вызваліла Еўропу... А Паўднёвая Еўропа была б пад прыгнётам туркаў... Вы прынялі ў Савет Еўропы краіну, якая кожны дзень ужо 50 гадоў бамбіць курдскія вёскі не толькі на сваёй тэрыторыі, але і на тэрыторыі чужой дзяржавы. Гэта вы, еўрапейцы, блакіравалі Ірак, Сірыю, Югаславію, і мільёны людзей цяпер паміраюць ад голаду з-за вашай палітыкі, з-за палітыкі Савета Еўропы і НАТО. Гэта вы называеце раем? Гэта пекла еўрапейскае, а не рай. Сёння Расія — самая свабодная краіна, самая свабодная прэса, эканоміка! Вы хоць адзін долар уклалі ў нашу эканоміку? Вы нічога для нас не зрабілі, вы толькі махляроў пасылаеце да нас у Расію. Спачатку вам не падабалася Расійская імперыя, і вы ўсё зрабілі, каб знішчыць царызм, потым вам не спадабаўся Савецкі Саюз, і вы ўсё зрабілі, каб яго разбурыць. Цяпер вам ужо дэмакратычная Расія не падабаецца. Зноў вы шукаеце недзе там парушынку ў нашым воку, а ў сваім бервяна не заўважаеце. Таму калі вы зноў будзеце прымяняць двайны стандарт, гаварыць, што Расія хворая, а вы — бальніца, то вы памыляецеся. Мы да вас можам прыйсці, але ў якасці ўрачоў, каб лячыць хворую Еўропу. І Расія хворая, і Еўропа хворая. Калі вы сёння адмовіце ў прыёме Расіі, я вам буду вельмі ўдзячны, вы зробіце вялікі падарунак нашай партыі на бліжэйшых выбарах. Я пастаянна кажу: «Захад супраць Расіі» — і атрымліваю мільёны галасоў. Таму гэта будзе вялікая падтрымка для мяне на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах, бо я ўжо з'яўляюся кандыдатам і пачаў перадвыбарную кампанію. І наадварот, калі вы прымеце Расію ў Савет Еўропы, гэта будзе падарунак для вас, бо вы атрымаеце яшчэ адну вялікую еўрапейскую краіну.

Па ўсім выглядала, што гэтае выступленне было дагаворным ва ўсёй расійскай дэлегацыі, і яно моцна паспрыяла станоўчаму рашэнню наконт прыёму Расіі ў Савет Еўропы.

Яшчэ доўга У. Жырыноўскі «раздаваў усім па заслугах», рухаў кантынентамі. А сваё «гістарычнае» выступленне на пасяджэнні асамблеі, поўнае абвінавачанняў у адрас краін Еўропы, ён завяршыў такімі словамі: «Расія сваё слова яшчэ не сказала».

Што ж, у адным, відаць, мае рацыю У. Жырыноўскі: Расія сапраўды ўносіць новы струмень у ціхае еўрапейскае жыццё. Будзем спадзявацца, што гэта пойдзе толькі на карысць Еўропе.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*Страсбург—Мінск.*

**Міхаіл БАКУМЕНКА**

# СКАРБЫ беларускіх магнатаў

З таго часу як Атрэп'еў з'явіўся ў Крамлі, аб сваіх тайных справах ён гаварыў толькі з даверанымі людзьмі. У час сакрэтнага спаткання з патэрам Савіцкім Ілжэдзмітрый дамовіўся аб заснаванні ў Маскве езуіцкага калегіума.

Праваслаўнае духавенства да пары да часу даравала самазванцу яго падазроныя сувязі з каталікамі і пратэстантамі. Але страцілі да яго канчатковы давер калі ён узяў тры тысячы рублёў у Іосіфа-Валакаламскага манастыра, пяць тысяч — у Кірыла-Беласерскага, а з казны буйнейшага Троіца-Сергіева — 30 тысяч рублёў. Апетыт самазванца рос, ён ужо абмяркоўваў праекты канфіскацыі даходаў у праваслаўнай царквы... Заручыны цара з Марынай Мнішак падлілі масла ў агонь. Фанатыкі ганілі царскую нявесту як ератычку і язычніцу.

Царскае вяселле прыйшлося з 4 мая 1606 года перанесці на некалькі дзён, пакуль не дамовіліся аб прымальнай працэдуры вянчання па праваслаўнаму абраду. Ватыкан быў рашуча супраць гэтага, ведаючы аб тайным прыняцці каталіцкай веры Лжэдзмітрыем. Вянчанне і вяселле адбыліся 8 мая 1606 года ў палацы, у Крамлі. Да вялікага абурэння маскоўскай знаці, цар запрасіў за вясельны стол польскіх салдат і панскую чэлядзь. У разгар балявання Атрэп'еў аб'явіў, што дае кожнаму з іх па 100 рублёў...

Разрабаванне маскоўскай казны Лжэдзмітрыем працягвалася. Так, келар Троіца-Сергіевага манастыра Аўрамій Паліцын пісаў: «...Поляки же вся сокровища царьская древъеяя истощи». Яму падтакваў польскі каталіцкі епіскап шляхціц Павел Пясецкі: «...богатою нещадностью на банкетах драгоценные вещи из древние казны князей раздавал,... чем казны московских князей выграбили».

Ілжэдзмітрый разумеў, што яго ўлада толькі тады будзе трывалай, калі ён заручыцца падтрымкай ўсяго дваранства. Вось чаму львіная доля наяўных грошай пайшла на аплату рускім дваранам і знаці, на падрыхтоўку вайны з крымцамі...

У тыя дні народ расійскі нічога не мог зразумець — як злодзей Грышка Атрэп'еў мог сваім крадзяжом і чарнакніжніцтвам зачараваць усіх маскоўскіх правіцеляў... Народ быў у неўразуменні — спачатку гаварылі, што новы цар ёсць сапраўдны Дзмітрый; затым запэўнівалі ў іншым: што Дзмітрый пагражаў гібеллю праваслаўнай веры, хацеў дзяліцца з Польшчай рускімі землямі; пазней вяшчальнікі аб'явілі, што самазванец загінуў, але як загінуў? — гэта засталося ў тайне; аб'явілі, што выбраны новы цар, але як і кім? — невядома...

Дзіўнасць, цемра падзей, якія адбываліся ў Маскве, параджалі ў людзей уразуменні, сумненні, недаверлівасць. Давер да Масквы быў парушаны; дзяржава замуцілася; вера, раз пахіснутая, павяла да забабонаў; страціўшы палітычную веру ў Маскву, пачалі верыць усім і ўсюды...

Калі выбралі царом Васіля Шуйскага, то ўжо ў 1606 годзе супраць яго ўзняліся Северская зямля і заокскія гарады з Пуціўлем, Тулай і Разанню на чале. Мяцежнікі, пацярпеўшы паражэнне пад Масквой ад царскіх войскаў, знайшлі прытулак у Туле і адтуль звярнуліся да пана Мнішака з просьбай выслаць ім якога ні ёсць чалавека з імем царэвіча Дзмітрыя. Ілжэдзмітрый II нарэшце знайшоўся і, узмоцнены польска-літоўскімі атрадамі, летам 1608 года спыніўся ў падмаскоўным сяле Тушыне, падводзячы пад сваю руку самую аснову Маскоўскай дзяржавы, міжрэчча Акі-Волгі.

Цар Васіль Шуйскі апынуўся ў асадзе ў Маскве; зноў уваскрэслі старажытныя смуты баярскія, і народ, якога падбухторвалі на плошчы наёмнікі некаторых каварных вяльмож, натоўпам імкнуўся да крамлёўскага палаца. Шуйскі паў, скінуты не бадзягамі, а вяльможамі...

Разрабаванне дзяржаўных скарбаў Маскоўскай Русі працягвалася і пасля забойства Лжэдзмітрыя I. Пасля перавароту чыноўнікі Лжэдзмітрыя заяўлялі палякам: «У казне было 500 тысяч рублёў, усё гэта чорт яго ведае куды ён раскідаў за адзін год».

Пры кіраўніцтве Васіля Шуйскага грашовая і рэчавая казна таксама працягвала хутка змяншацца. Васіль Шуйскі з-за нястачы грошай перарабляў у залатую і сярэбраную манету належачыя казне залатыя і сярэбраныя вырабы. Гэтыя грошы ішлі на аплату шведскіх і нямецкіх наёмнікаў, прыцягнутых польскім каралём Сігізмундам і накіраваных у Маскву. Войскі Рэчы Паспалітай узялі Смаленск; польскі атрад спаліў Маскву і ўмацаваўся за ўцалелымі сценамі Крамля і Кітай-горада. Палякі і іх наёмнікі разрабавалі Аружэйную палату, аб скарбах якой пісалі ў XVI — пачатку XVII стагоддзя Дон Хуан Персідскі ў 1599 годзе, крыху раней — у 1588 - 1589 гадах — Флетчэр: «Мяркуюць, што ні адзін з хрысціянскіх дзяржаўцаў не мае такога добрага запасу воінскіх снарадаў, як рускі цар, чаму можа служыць пацвярджэннем Аружэйная палата ў Маскве, дзе стаяць у вялікай колькасці ўсякага роду пушкі, усе літыя з медзі і вельмі прыгожыя».

(Працяг. Пачатак у №№ 11—12, 18—19, 25—26)

Маскоўскую Русь ірвалі на часткі. Шведы занялі Ноўгарад і выставілі аднаго са сваіх каралевічаў кандыдатам на маскоўскі прастол; на змену забітаму Лжэдзмітрыю II у Пскове ўсеўся трэці, нейкі Сідорка. Масква засталася без урада. Баярская дума, якая стала на чале Масквы пасля Шуйскага, ліквідавалася сама па сабе, калі палякі захапілі Крэмль, дзе заселі і некаторыя з баяр на чале з князем Мсціслаўскім.

Апаражніўшы маскоўскія скарбніцы, заваёўнікі Масквы разам са скарбамі забіралі з сабой і выдатных майстроў. Пра іх пісаў удзельнік паходу на Маскоўскую Русь у 1610—1612 гадах Маскевіч: «Все русские ремесленники превосходны, очень искусны и так смышленны, что все, чего сроду не видывали, не только не делывали, с первого взгляда поймут и сработают столь хорошо, как будто с малолетства привыкли, в особенности турецкие вещи: чепраки, седла, сабли с золотой насечкой...»

Расійскія гісторыкі, якія падводзілі вынікі разрабавання скарбніц Масквы і Крамля, сцвярджалі, што ўсё што не было вывезена пры Ілжэдзмітрыі I і II, было выведзена польскімі інтэрвентамі, якія занялі Маскву ў ноч з 20 на 21 верасня 1610 года па дамове с «седьмочисленными» баярамі. Вось тады крамлёўскія скарбніцы былі зусім спустошаны.

У ананімным памфлеце, які заклікаў расіян да паўстання супраць інтэрвентаў, што занялі Маскву, і супраць баяр, якія падпарадкоўваліся Сігізмунду, вядомым пад назвай «Новой повести», запісана: «...таковая великая и преславная земля...стала в разорении такое великое царство в запустении и таковая великая царьская ризница в расточении!»

Пра горкі лёс царскага палаца і казнасховішча, якое было пры ім, гаворыцца ў «Плаче о пленении и о конечном разорении Московского государства...»

Грамата, накіраваная Сігізмунду III Земскім саборам 10 сакавіка 1613 года, абвінавачвала інтэрвентаў і іх памагатых у поўным знішчэнні крамлёўскай казны з усімі яе векавымі накапленнямі: «...а царскую казну, многое собранье и с давних лет прежних великих государей наших, царей российских и их царские утвари, царские шапки и коруны и их царское всякое достояние и чудотворные образы к вам отослаша, а достальную царскую казну, равно как богатства, взятые в московских церквах, лавках и домах, пограбя, по себе разделили».

Тое ж самае і амаль тымі ж словамі было паўторана в «укорительной грамоте» рускіх баяр польскім магнатам і шляхце ў снежні наступнага, 1614 года ў адказ на такую ж грамату польскай рады да баяр.

Аб амаль поўным знішчэнні царскай казны пісалі гісторыкі пачатку XIX стагоддзя М. Карамзін і А. Ф. Маліноўскі.

Аб вывазе лепшых скарбаў крамлёўскай казны каралю Сігізмунду, акрамя «Новой повести», гаворыцца і ў наказах рускім паслам 1613, 1615 і 1618 гадоў, указваецца і ў справаздачах-зводках расходаў царскай казны за 1611—1612 гады. У асноўным гэтыя справаздачы гавораць аб выдачы грошай і каштоўных рэчаў «на польские и литовские люди — на рыцарство» праз іх дэпутатаў і на «немецкие люди в заслуженное» (нямецкія наёмнікі!).

Сярод рэчавых выдач у першай зводнай справаздачы часцей за ўсё называюцца тканіны і футра, адзенне («платна»), у тым ліку і жаночае, сярэбраны і залаты посуд, самацветы, жэмчуг, асабістыя ўпрыгажэнні і розныя дробныя каштоўнасці з золата і серабра; не так часта — абразы, каштоўная зброя і каштоўная конская збруя...

Упамінаецца таксама сярэбраны лом, аправы і асобныя часткі прадметаў: серабро, «што знята с царскага месца», серабро з царскага сагайдака, «крыж залаты з царскага посаха», «крыж хрустальны са сцяга» і да т. п. У гэтай жа справаздачы сустракаюцца памяншальна-ўніжальныя абазначэнні — «кувшинец, наузишко, тафьишка, кружевьишко узкое, покровчишко» і т. п., якія ўказваюць, што ў гэтыя выдачы ўключаліся і менш каштоўныя прадметы...

Дакумент «Росписи, что ценил Николай царские венцы», які дайшоў да сённяшняга дня, дзе ўпамінаецца аб ацэнцы двух царскіх вянцоў, прызначаных для ўплаты польскім войскам у Маскве ў пачатку 1612 года. «Мікалай», — відаць, нейкі аўтарытэтны ювелір, а з'яўленне такога дакумента гаворыць аб катастрафічным спусташэнні крамлёўскай казны да пачатку 1612 года.



Калаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

Ацэнка ювелірам Мікалаем рабілася ў прысутнасці афіцыйнага прадстаўніка шляхецкай Польшчы, пляменніка Гетмана Адама Жалкеўскага, «который приезжал от королевского величества к Москве послом». Царскія вянцы, аднарожцы і ўпрыгожанае самацветамі сядло былі выдадзены пасля новых перагавораў, пры ад'ездзе Маскевіча з Масквы з атрадам Гансеўскага вясной 1612 года.

Падводзячы вынікі прыведзенага агляду, можна зрабіць выснову — у большасці сваёй скарбы крамлёўскай казны былі патрачаны на аплату польска-літоўскаму рыцарству, а таксама трапілі ў рукі натхняльнікаў і арганізатараў паходу на Маскву. Разрабаваўшы грашовую, а затым і рэчавую казну да сярэдзіны 1611 года, пачалі здымаць каштоўныя ўпрыгажэнні і аправы з розных рэчаў. Адначасова з гэтым пачалі раскрадацца царскія рэгаліі «вялікай царскай казны», менш каштоўныя па свайму палітычнаму зместу, таму што найбольш каштоўныя скарбы баяры ўсё ж хавалі ад палякаў.

З гэтай нагоды польскі пасол Маскевіч пісаў: «Казну бояре тщательно сохраняли в тайне от поляков, там хранились всякие вещи, употребляемые для коронации: царские одежды, утварь золотая и серебряная, драгоценные каменья, сверх того дорогие столы, осыпанные каменьями, стулья, золотые обои, шитые ковры, жемчуг и многие тому подобные вещи. Все это я видел собственными глазами».

Восенню 1612 года давераныя асобы, якія стаялі ля «царскай казны», — казначэй Фёдар Андронаў, дзякі Цімафей Савінаў, Сцяпан Салавецкі, Іван Безабразаў, Яфім Целяпнёў і іншыя былі арыштаваны і пад «катаваннямі» ўказалі месцы захоўвання ўсіх каштоўнасцей дзяржаўнай важнасці: «драгоценного скипетра царя и великого князя Ивана Васильевича и двух драгоценных ожерелий... княгини Анастасии, матери благочестивейшего царя и великого князя Фёдора Иоанновича Всея Руси». Указалі яны і многія іншыя вельмі каштоўныя прадметы... Знойдзеныя пры дапамозе катаванняў грошы і сасуды паклалі ў царскую рызніцу... Адтуль яны і былі раскрадзены...

На працягу доўгіх гадоў пасля выхаду польска-літоўскіх войскаў з Масквы каштоўная маёмасць, захопленая палякамі ў Маскоўскім Крамлі, у сядзібах багатых расіян, манастырах, цэрквах, прадавалася або перараблялася, праходзячы праз рукі розных заходнееўрапейскіх ювеліраў, ацэншчыкаў і іншых пасрэднікаў. Такі быў лёс выдадзеных з царскай казны двух вянцоў і іншых каштоўнасцей.

У 1614 годзе, знаходзячыся ў Львове, Маскевіч і іншыя «саўладальнікі» скарбаў спрабавалі прадаць іх каралю, але ён адмовіўся. Прадавалі імператару хрысціянскаму, герцагам брандэрбургскім, імперыі нямецкай, Гданьску, усюды дзе думалі знайсці пакупнікоў, — і ўсё дарэмна. Нарэшце скарбамі зацікавіліся магнаты: давалі 100 000, а 80 000 прасілі ўступіць. «Мы згадзіліся б і на гэту цану, — піша Маскевіч, — калі б маглі атрымаць наяўныя грошы», але, апасаючыся падману, удзельнікі «рашыліся падзяліць іх паміж сабой: разламалі дзве кароны, сядло гусарскае, акантаваныя золатам з каштоўнымі камянямі, і тры аднарогі, посах застаўся цэлым: яго аддалі разам з яхантам з кароны, вялічынёю ў два пальцы, Гансеўскаму і Дункоўскаму за сцяпную службу...»

Відавочна, у выніку разрабавання царскай казны ў тыя ж гады пасля ўзяцця Масквы ў аружэйную палату шведскіх каралёў у Стакгольм трапіў шлем Івана IV, упрыгожаны залатой насечкай.

Пасля вызвалення Масквы ў казну былі вернуты каштоўнасці, адабраныя ў тых палякаў, немцаў, шведаў і літоўцаў, якія знаходзіліся да канца асады ў Крамлі. У крамлёўскую скарбніцу вярнулася і тое, што ўдалося своечасова схаваць у надзейным сховішчы. Адначасова былі прыняты меры да вяртання выдадзенага з канцы па запісах і без запісаў да «маскоўскага разарэння» і ў час асады. Асобны прыгавор «свяшчэннага сабора» абавязаў рускіх, якія разам з палякамі былі ў асадзе ў Крамлі, здаць назад у казну або аплаціць грашыма, «што брали с Купецкага двара ў доўг баяры, і дваране, і дзякі, і прыказныя, і госці, і гандлёвыя і ўсякія людзі».

Сабраць удалося нямнога, толькі нязначныя рэшткі, што ўцалелі з тых вялізных скарбаў, якімі валодалі апошнія прадстаўнікі роду Каліты...

Разрабаванымі скарбамі пакарысталіся многія, у тым ліку на іх пагрэлі рукі многія магнаты і некаторыя шляхцічы Рэчы Паспалітай, якія ўдзельнічалі ў паходах на Маскву разам з Ілжэдзмітрыямі I і II. Узяцце Масквы і Крамля войскамі Рэчы Паспалітай і шведскімі наёмнікамі, спусташэнне кладовак Казённага двара ў Маскве, раскраданне казны абагацілі скарбніцы польскіх і французскіх магнатаў. Праз стагоддзі цяжка ацаніць, хто ў каго больш нарабаваў скарбаў — маскоўскія ваяводы Івана Грознага ў Полацку, Вільні, іншых гарадах і замках Беларусі, або вайскоўцы Рэчы Паспалітай, сярод якіх былі і воіны Вялікага княства, і сын Сапегі Ян...

Меў рацыю, відаць, рускі гісторык М. М. Карамзін, які пісаў: «Гісторык павінен радавацца і гараваць са сваім народам. Ён не павінен, кіруючыся неаб'ектыўнасцю, скажаць факты, перабольшваць шчасце або прыніжаць ў сваім выкладанні бедствы; ён павінен быць перш за ўсё праўдзівы; ён можа, нават павінен усё негатыўнае, усё ганебнае ў гісторыі свайго народа перадаваць з сумам...»

Вайна Рэчы Паспалітай з Маскоўскай Руссю, паходы Лжэдзмітрыяў I і II на Маскву, акрамя разарэння, узмацнення пабораў на вайну, смерці блізкіх і родных не прынеслі абяцаных выгад беларускаму народу. На вайне пажывіліся і нажыліся толькі магнаты і асобныя паны, іншыя высокапастаўленыя асобы, якія ўдзельнічалі ў паходзе. Пайшлі ў пясок грошы Льва Іванавіча Сапегі, затрачаныя на арганізацыю паходу на Маскву. Не прынесла шчасця «царстваванне» на Маскве Марыне Мнішак. «Калі кім-небудзь на свеце шчасце так жорстка пагульвала, дык гэта — мною», — гаварыла няшчасная царыца.

Пасля гібелі Лжэдзмітрыя I, мэта жыцця Марыны была ў пагоні за прывідам вянца Манамаха. У 1610 годзе быў забіты і другі муж Марыны, Ілжэдзмітрый II. Прызнаць сваім мужам, а такім чынам рускім царом Ілжэдзмітрыя III яна не рашылася, ён «царстваваў» усяго толькі ў Пскове. Аднак Марына не здавалася, ішла наперакор лёсу. На яе руках заставаўся немаўля Івашка — як яна спадзявалася, «законны нашчадак» рускага прастола.

У трэці раз Марына Мнішак, чапляючыся за карону рускіх цароў, вырашыла ўзвесці на прастол Івашку. Яе падтрымаў данскі атаман Заруцкі, які змагаўся пад сцягамі Лжэдзмітрыяў I і II і III. Разам з Ляпуновым і Трубецкім Заруцкі стаяў на чале першага апалчэння, затым, арганізаваўшы забойства Ляпунова, перайшоў на бок палякаў. Заруцкі і Марына, якіх гнаў лёс, зрабілі апошнюю стаўку на немаўля Івашку.

(Працяг будзе).

# ПАСТАНОВЫ
# ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ ВЫБРАННІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АГРАРНЫХ ПЫТАННЯХ І САЦЫЯЛЬНАМУ РАЗВІЦЦЮ СЯЛА

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях і сацыяльнаму развіццю сяла ў наступным складзе:

**Старшыня камісіі**

**Усюкевіч** Генадзь Аляксандравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Старадарожскай выбарчай акругі № 215 Мінскай вобласці

**Члены камісіі**

**Азарчанкаў** Аляксандр Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Талачынскай выбарчай акругі № 52 Віцебскай вобласці.

**Бусько** Віталій Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Ляхавіцкай выбарчай акругі № 27 Брэсцкай вобласці.

**Валахановіч** Аляксандр Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Дзяржынскай выбарчай акругі № 187 Мінскай вобласці.

**Гіруць** Мечыслаў Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Смаргонскай сельскай выбарчай акругі № 143 Гродзенскай вобласці.

**Кажан** Вячаслаў Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Глыбоцкай выбарчай акругі № 43 Віцебскай вобласці.

**Казлоўскі** Вікенцій Антонавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Смалявіцкай выбарчай акругі № 210 Мінскай вобласці.

**Канашук** Іван Пятровіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Камянецкай выбарчай акругі № 22 Брэсцкай вобласці.

**Міхадзюк** Віктар Аркадзьевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Асіповіцкай сельскай выбарчай акругі № 173 Магілёўскай вобласці.

**Разганаў** Аляксандр Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Слаўгарадскай выбарчай акругі № 174 Магілёўскай вобласці.

**Разынка** Пётр Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Пастаўскай выбарчай акругі № 49 Віцебскай вобласці.

**Рускевіч** Фёдар Несцеравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Лагойскай выбарчай акругі № 191 Мінскай вобласці.

**Юхімук** Васіль Феадосіевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Маларыцкай выбарчай акругі № 28 Брэсцкай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

23 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 31-XIII

## АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ І САКРАТАРА ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АГРАРНЫХ ПЫТАННЯХ І САЦЫЯЛЬНАМУ РАЗВІЦЦЮ СЯЛА

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях і сацыяльнаму развіццю сяла **Казлоўскага** Вікенція Антонавіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Смалявіцкай выбарчай акругі № 210 Мінскай вобласці.

2. Зацвердзіць сакратаром Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях і сацыяльнаму развіццю сяла **Рускевіча** Фёдара Несцеравіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Лагойскай выбарчай акругі № 191 Мінскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

24 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 47-XIII

## АБ ВЫБРАННІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА МІЖНАРОДНЫХ СПРАВАХ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах у наступным складзе:

**Старшыня камісіі**

**Краўчанка** Пётр Кузьміч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Маладзечанскай-Паўднёва-Заходняй выбарчай акругі №197 Мінскай вобласці.

**Члены камісіі**

**Абрамава** Вольга Міхайлаўна — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Акадэмічнай выбарчай акругі №242 горада Мінска.

**Анікееў** Міхаіл Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Дрыбінскай выбарчай акругі №165 Магілёўскай вобласці.

**Бялоў** Мікалай Адамавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Віцебскай-Усходняй выбарчай акругі №64 Віцебскай вобласці.

**Валжанкоў** Рыгор Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Клічаўскай выбарчай акругі №168 Магілёўскай вобласці.

**Грыб** Мечаслаў Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Дзятлаўскай выбарчай акругі №129 Гродзенскай вобласці.

**Жушма** Пётр Яўгенавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Іванаўскай выбарчай акругі №19 Брэсцкай вобласці.

**Зданчук** Мікалай Рыгоравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Бераставіцкай-Індурскай выбарчай акругі №117 Гродзенскай вобласці.

**Знавец** Павел Кірылавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Давыд-Гарадоцкай выбарчай акругі №37 Брэсцкай вобласці.

**Камай** Аляксей Сцяпанавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Быхаўскай выбарчай акругі №162 Магілёўскай вобласці.

**Каратчэня** Іван Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Любанскай выбарчай акругі №192 Мінскай вобласці.

**Козыр** Аляксандр Віктаравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Магілёўскай-Юбілейнай выбарчай акругі №148 Магілёўскай вобласці.

**Кулакоўскі** Юрый Аляксандравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Кіраўскай выбарчай акругі №166 Магілёўскай вобласці.

**Лябедзька** Анатоль Уладзіміравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Ашмянскай выбарчай акругі №116 Гродзенскай вобласці.

**Міргалоўскі** Генадзь Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Вілейскай сельскай выбарчай акругі №186 Мінскай вобласці.

**Рачкоў** Леанід Уласавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Баранавіцкай-Усходняй выбарчай акругі №9 Брэсцкай вобласці.

**Цярэшка** Іван Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Шаркоўшчынскай выбарчай акругі №55 Віцебскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

23 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 32-XIII

## АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ НАМЕСНІКАЎ СТАРШЫНІ, САКРАТАРА І СТАРШЫНІ ПАДКАМІСІІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА МІЖНАРОДНЫХ СПРАВАХ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць намеснікамі старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах **Лябедзьку** Анатоля Уладзіміравіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Ашмянскай выбарчай акругі №116 Гродзенскай вобласці і **Рачкова** Леаніда Уласавіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Баранавіцкай-Усходняй выбарчай акругі №9 Брэсцкай вобласці.

2. Зацвердзіць сакратаром Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах **Абрамаву** Вольгу Міхайлаўну — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Акадэмічнай выбарчай акругі №242 горада Мінска.

3. Зацвердзіць старшынёй падкамісіі па справах СНД Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах **Козыра** Аляксандра Віктаравіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Магілёўскай-Юбілейнай выбарчай акругі №148 Магілёўскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

24 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 48-XIII

## АБ ВЫБРАННІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АДУКАЦЫІ, НАВУЦЫ І КУЛЬТУРЫ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры ў наступным складзе:

**Старшыня камісіі**

**Плецюхоў** Уладзімір Анясціевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Брэсцкай-Цэнтральнай выбарчай акругі №2 Брэсцкай вобласці.

**Члены камісіі**

**Аляксеенка** Генадзь Паўлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Чавускай выбарчай акругі №175 Магілёўскай вобласці.

**Ігнацішчаў** Руслан Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Магілёўскай-Першамайскай выбарчай акругі №149 Магілёўскай вобласці.

**Самусева** Валянціна Міхайлаўна — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Рэчыцкай-Цэнтральнай выбарчай акругі №114 Гомельскай вобласці.

**Свірыд** Іван Уладзіміравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Астравецкай выбарчай акругі №115 Гродзенскай вобласці.

**Цярэшчанка** Віктар Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Усходняй выбарчай акругі №246 горада Мінска.

**Шаршуноў** Вячаслаў Аляксеевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Горацкай выбарчай акругі №164 Магілёўскай вобласці.

**Шаўцоў** Мікалай Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Ельскай-Нараўлянскай выбарчай акругі №93 Гомельскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

23 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 33-XIII

## АБ ВЫБРАННІ ДЭПУТАТА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ КУЧЫНСКАГА В.Ф. ЧЛЕНАМ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АДУКАЦЫІ, НАВУЦЫ І КУЛЬТУРЫ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць членам Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры **Кучынскага** Віктара Францавіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Кобрынскай гарадской выбарчай акругі № 23 Брэсцкай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

24 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 57-XIII

## АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ І СТАРШЫНЬ ПАДКАМІСІЙ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АДУКАЦЫІ, НАВУЦЫ І КУЛЬТУРЫ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры **Свірыда** Івана Уладзіміравіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Астравецкай выбарчай акругі № 115 Гродзенскай вобласці.

2. Зацвердзіць старшынёй падкамісіі па навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры **Ігнацішчава** Руслана Міхайлавіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Магілёўскай-Першамайскай выбарчай акругі № 149 Магілёўскай вобласці.

3. Зацвердзіць старшынёй падкамісіі па культуры Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры **Шаўцова** Мікалая Міхайлавіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Ельскай-Нараўлянскай выбарчай акругі № 93 Гомельскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

24 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 49-XIII

## АБ ВЫБРАННІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА САЦЫЯЛЬНАЙ ПАЛІТЫЦЫ І ПРАЦЫ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы ў наступным складзе:

**Старшыня камісіі**

**Мельнікаў** Кузьма Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Бярэзінскай выбарчай акругі № 183 Мінскай вобласці.

**Члены камісіі**

**Бухвостаў** Аляксандр Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Гомельскай-Сельмашаўскай выбарчай акругі № 78 Гомельскай вобласці.

**Вінакурава** Марыя Міхайлаўна — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Бабруйскай-Паўночнай выбарчай акругі № 158 Магілёўскай вобласці.

**Гукаў** Іван Маркелавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Магілёўскай-Кіраўскай выбарчай акругі № 151 Магілёўскай вобласці.

**Дубовік** Мікалай Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Уздзенскай выбарчай акругі № 217 Мінскай вобласці.

**Лапкоўскі** Алег Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Браслаўскай выбарчай акругі № 40 Віцебскай вобласці.

**Лук'яновіч** Васіль Пятровіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Жыткавіцкай выбарчай акругі № 94 Гомельскай вобласці.

**Луновіч** Аркадзь Яфімавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Маладзечанскай сельскай выбарчай акругі № 200 Мінскай вобласці.

**Пагарэльскі** Леанід Вячаслававіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Шумілінскай выбарчай акругі № 56 Віцебскай вобласці.

**Скрыган** Алена Мікалаеўна — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Капыльскай выбарчай акругі № 188 Мінскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ**

23 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 34-XIII

## АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ, САКРАТАРА І СТАРШЫНЬ ПАДКАМІСІЙ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА САЦЫЯЛЬНАЙ ПАЛІТЫЦЫ І ПРАЦЫ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы **Скрыган** Алену Мікалаеўну — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Капыльскай выбарчай акругі № 188 Мінскай вобласці.

2. Зацвердзіць сакратаром Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы **Гукава** Івана Маркелавіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Магілёўскай-Кіраўскай выбарчай акругі № 151 Магілёўскай вобласці.

3. Зацвердзіць старшынёй падкамісіі па справах моладзі **Дубовіка** Мікалая Мікалаевіча — дэпутата ад Уздзенскай выбарчай акругі № 217 Мінскай вобласці.

4. Зацвердзіць старшынёй падкамісіі па справах ветэранаў і інвалідаў **Лапкоўскага** Алега Міхайлавіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Браслаўскай выбарчай акругі № 40 Віцебскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

24 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 50-XIII

## АБ ВЫБРАННІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ДЗЯРЖАЎНАМУ БУДАЎНІЦТВУ І МЯСЦОВАМУ САМАКІРАВАННЮ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Выбраць Пастаянную камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню ў наступным складзе:

**Старшыня камісіі**

**Савічаў** Уладзімір Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Лоеўскай выбарчай акругі № 102 Гомельскай вобласці.

**Члены камісіі**

**Блюднік** Антон Дзянісавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Лідскай сельскай выбарчай акругі № 135 Гродзенскай вобласці.

**Варановіч** Міхаіл Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Калінкавіцкай гарадской выбарчай акругі № 99 Гомельскай вобласці.

**Вронскі** Георгій Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Лагішынскай выбарчай акругі № 32 Брэсцкай вобласці.

**Домаш** Сямён Мікалаевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Астрынскай выбарчай акругі № 145 Гродзенскай вобласці.

**Камяк** Мікалай Міхайлавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Добрушскай выбарчай акругі № 92 Гомельскай вобласці.

**Лазавік** Мікалай Іванавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Рагачоўскай сельскай выбарчай акругі № 111 Гомельскай вобласці.

**Манукова** Тамара Анатольеўна — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Навагрудскай гарадской выбарчай акругі № 137 Гродзенскай вобласці.

**Навасяд** Уладзімір Уладзіміравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Магілёўскай-Куйбышаўскай выбарчай акругі № 150 Магілёўскай вобласці.

**Пачэпка** Канстанцін Анатольевіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Ушацкай выбарчай акругі № 53 Віцебскай вобласці.

**Ягораў** Уладзімір Дзям'янавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Чэрыкаўскай выбарчай акругі № 176 Магілёўскай вобласці.

**Якабсон** Аляксандр Серафімавіч — дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Светлагорскай-Ленінскай выбарчай акругі № 107 Гомельскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

23 студзеня 1996 г., г. Мінск. № 35-XIII

## АБ ЗАЦВЯРДЖЭННІ НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ, САКРАТАРА І СТАРШЫНІ ПАДКАМІСІІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ДЗЯРЖАЎНАМУ БУДАЎНІЦТВУ І МЯСЦОВАМУ САМАКІРАВАННЮ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню **Навасяда** Уладзіміра Уладзіміравіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Магілёўскай-Куйбышаўскай выбарчай акругі №150 Магілёўскай вобласці.

2. Зацвердзіць сакратаром Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню **Манукову** Тамару Анатольеўну — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Навагрудскай гарадской выбарчай акругі №137 Гродзенскай вобласці.

3. Зацвердзіць старшынёй падкамісіі па мясцоваму самакіраванню Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню **Лазавіка** Мікалая Іванавіча — дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Рагачоўскай сельскай выбарчай акругі №111 Гомельскай вобласці.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

24 студзеня 1996г., г.Мінск. № 51-XIII

# РЭФАРМІРУЮЧЫ ЭКАНОМІКУ, БЕЛАРУСЬ УЛІЧВАЕ РЭКАМЕНДАЦЫІ МВФ



***2 лютага ў Беларусь прыбыў кіраўнік місіі Міжнароднага валютнага фонду пан Ішан Капур. Аб мэтах візіту ў рэспубліку прадстаўніка гэтай аўтарытэтнай міжнароднай валютна-фінансавай арганізацыі расказвае карэспандэнту БЕЛТА намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Леанід СІНІЦЫН.***

**— Леанід Георгіевіч, як вядома, Міжнародны валютны фонд садзейнічае збалансаванаму росту міжнароднага гандлю, падтрымлівае ўстойлівасць валют, актыўна кансультуе дзяржавы па эканамічных і фінансавых праблемах... А што канкрэтна дае членства ў гэтай арганізацыі нашай рэспубліцы?**

— Беларусь была прынята ў МВФ 10 ліпеня 1992 года. На першым этапе супрацоўніцтва з фондам абмежавалася тэхнічным садзейнічаннем і кансультацыямі па праблемах падаткова-бюджэтнай і крэдытнай палітыкі, валютных аперацый, плацежнага балансу, статыстыкі цэн, арганізацыі казначэйства, а таксама правядзеннем семінараў для спецыялістаў.

Першая фінансавая дапамога з боку МВФ была прадастаўлена Беларусі ў ліпені 1993 года ў выглядзе першай траншы крэдыту па лініі фонду сістэмных трансфармацый. Другая транша крэдыту паступіла ў пачатку 1995 года.

Уклад МВФ у эканоміку Беларусі за апошнія два гады склаў звыш 270 млн. долараў ЗША. ў выглядзе двух доўгатэрміновых крэдытаў (крэдыт СТФ — фонд структурных трансфармацый - і першая транша крэдыту стэнд-бай). Сусветны банк падтрымаў рэспубліку некалькімі пазыкамі, прадаставіўшы іх нам на агульную суму 170 млн. долараў ЗША. Вядома, у маштабах эканомікі Беларусі ўклад гэты не такі ўжо вялікі, але менавіта ён з'яўляецца каталізатарам усяго інвестыцыйнага і гандлёвага супрацоўніцтва рэспублікі з Захадам.

Дзелавы і фінансавы свет развітых краін вельмі асцярожны ў выбары партнёраў і практычна не робіць ніякіх крокаў да таго часу, пакуль МВФ і Сусветны банк не ўключаць «зялёнае святло», якое азначае, што краіна прайшла праз пэўныя эканамічныя цяжкасці, увайшла ў рэжым рыначных адносінаў, дзе палітычная і фінансавая рызыка для заходняга інвестара цалкам прымальная.

Рэсурсы, якія прадастаўляюцца рэспубліцы міжнароднымі фінансавымі арганізацыямі, ідуць на ўмацаванне нашых фінансавых пазіцый, стабілізацыю валюты, зніжэнне інфляцыі і наданне новага імпульсу структурным рэформам.

**— У верасні мінулага года Савет дырэктараў МВФ прыняў рашэнне аб выдзяленні Беларусі крэдыту стэнд-бай у суме каля 280 мільёнаў долараў ЗША з мэтай падтрымкі палітыкі кіраўніцтва рэспублікі ў галіне макраэканамічных і структурных пераўтварэнняў. Гэта палітыка, як вядома, рэалізуецца праз узгодненую з МВФ праграму мераў па выхаду эканомікі краіны з крызісу. Наколькі дакладна выконваюцца рэкамендацыі фонду нашым бокам?**

— Пасля прыняцця рашэння аб выдзяленні крэдыту ў рэспубліку паступіла першая транша крэдыту ў памеры 68,5 мільёна долараў ЗША. Наступныя выплаты паступяць роўнымі долямі пры ўмове паспяховага выканання ўсіх прадугледжаных праграмай мерапрыемстваў. Прааналізаваць, як рэалізуюцца гэтыя ўмовы і мае намер місія МВФ на чале з панам Капурам.

Удакладню, што праграмай прадугледжваецца шырокі круг мерапрыемстваў, выкананне якіх ужо дало станоўчыя вынікі: у другім паўгоддзі мінулага года нам удалося дабіцца значнага скарачэння ўзроўню інфляцыі. А ў галіне падаткова-бюджэтнай палітыкі захаваны колькасныя паказчыкі па абмежаванню бюджэтнага дэфіцыту. Пры прагназіруемым яго ўзроўні ў 2,3 працэнта дэфіцыт склаў 2,6 працэнта. З мэтай скарачэння расходаў бюджэту праводзілася паэтапнае павышэнне долі пакрыцця затрат на ўтрыманне жылля і камунальныя паслугі. Адначасова ўведзены механізм па сацыяльнай абароне малазабяспечаных грамадзян. За перыяд з 1 жніўня 1995 па 5 студзеня 1996 года велічыня адраснай фінансавай дапамогі з бюджэтных сродкаў склала 11,8 мільярда рублёў, дапамога аказана 108 тысячам сем'яў.

У галіне крэдытна-грашовай палітыкі прыняты меры па зніжэнню і падтрыманню на станоўчым узроўні працэнтных ставак, што дало магчымасць павысіць даступнасць банкаўскага крэдыту і садзейнічае працэсу фінансавага аздараўлення прадпрыемстваў. Павелічэнне рэзервовых патрабаванняў па валютных і рублёвых дэпазітах, а таксама банкаўскай маржы, прымяненне аўкцыёнаў пры размеркаванні цэнтралізаваных крэдытных рэсурсаў, павелічэнне памеру статутнага фонду камерцыйных банкаў і шэраг іншых мераў садзейнічалі стабілізацыі эканамічнага становішча. На 1 студзеня 1996 года практычна вытрыманы паказчыкі па мяжы грашовай базы, па чыстых унутраных актывах Нацыянальнага банка і банкаўскай сістэмы, па мяжы чыстых валютных рэзерваў. Доля рэфінансавання камерцыйных банкаў, праведзенага Нацыянальным банкам праз крэдытныя аўкцыёны, склала ў 4 квартале 1995 года амаль 89 працэнтаў супраць 80, прадугледжаных праграмай.

Станоўчы ўплыў на працэсы прыватызацыі аказаў і Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 526 ад 30 снежня мінулага года, якім зацверджана Праграма раздзяржаўлення і прыватызацыі дзяржаб'ектаў, што знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці. У 1996 годзе Міндзяржмаёмасцю па ўзгадненню з галіновымі міністэрствамі і мясцовымі органамі ўлады складзены пералік аб'ектаў прыватызацыі і падрыхтаваны неабходныя нарматыўныя дакументы для паскарэння працэсаў прыватызацыі. На працягу 1995 года ў рэспубліцы праводзіліся налічэнне і выдача прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць». На 1 студзеня новага года чэкі атрымалі 64,6 працэнта грамадзян, якія маюць на іх права. Цяпер у рэспубліцы працуюць 39 спецыялізаваных інвестыцыйных фондаў. Па стану на 1 студзеня 1608 прадпрыемстваў рэспубліканскай і камунальнай уласнасці рэфарміраваны, у тым ліку акцыяніраваны. На працягу мінулага года звыш 200 прадпрыемстваў, якія перапрацоўваюць сельскагаспадарчую прадукцыю і абслугоўваюць сельскую гаспадарку, змянілі форму ўласнасці.

**— Значыць, рэфарміруючы сваю эканоміку ў складаных умовах крызісу, Беларусь імкнецца прытрымлівацца рэкамендацый МВФ?**

— Я сказаў бы так: паважаючы дасягнутыя дагаворанасці па супрацоўніцтву з МВФ у рамках праграмы стэнд-бай і шануючы давер гэтай арганізацыі, урад падыходзіць да яе рэалізацыі з улікам рэальнай сітуацыі. Разумеючы пры гэтым, што важнай умовай плённага супрацоўніцтва з'яўляецца выкананне сваіх даўгавых абавязацельстваў. Так, на сённяшні дзень прынята рашэнне пагасіць запазычанасць прадпрыемстваў па германскай крэдытнай лініі, прадугледзеўшы меры па спагнанню ўзнікшай запазычанасці з прадпрыемстваў-пазычальнікаў. На жаль, не ўсё атрымліваецца так, як гэта было прадугледжана. Нам, напрыклад, не ўдалося яшчэ ўрэгуляваць запазычанасць рэспублікі па імпарту газу з Расіі. Аднак урадам праведзена велізарная папярэдняя работа і падрыхтаваны праект пагаднення па ўрэгуляванню гэтай запазычанасці.

Яшчэ адным сур'ёзным пытаннем, якое не знайшло вырашэння, з'яўляецца рэгуляванне валютнага рынку. Адмена абавязковага продажу валютнай выручкі ў сярэдзіне лета мінулага года, на наш погляд, была дачаснай, таму што ў дзяржавы не хапае сваіх рэзерваў для падтрымання стабільнасці нацыянальнай валюты. Прыняцце ўказа Прэзідэнта па гэтым пытанні павінна садзейнічаць стабільнасці беларускага рубля, падтрымцы экспарцёраў і абароне інтарэсаў беларускіх таваравытворцаў. Такія падыходы з'яўляюцца часовымі. І я думаю, што яны будуць скарэкціраваны ў бок лібералізацыі знешняга гандлю ў адпаведнасці з рэкамендацыямі МВФ і нормамі Сусветнай гандлёвай арганізацыі. Адбудзецца гэта па меры стабілізацыі эканомікі і выраўноўвання нашага плацежнага балансу, які сёння, на жаль, мае яўнае адмоўнае сальда.

На сустрэчах з прадстаўнікамі МВФ будуць прааналізаваны вынікі мінулага года і абмеркаваны асноўныя эканамічныя і фінансавыя паказчыкі на бягучы, а таксама вызначаны напрамкі далейшага супрацоўніцтва паміж МВФ і Беларуссю.

Урад рэспублікі лічыць, што дыялог з Міжнародным валютным фондам пазітыўны і мае трывалую аснову. Гэта аснова грунтуецца на ўзаемным імкненні дасягнуць макраэканамічнай і фінансавай стабілізацыі ў краіне, рэфарміраваць эканоміку і стварыць неабходныя ўмовы для яе эфектыўнага развіцця.

Мы разглядаем фінансавую дапамогу, прадастаўленую МВФ, як высокі давер да праводзімага палітычнага курсу. Крэдыт стэндбай дапаможа змякчыць не толькі перажываемыя цяжкасці пераходнага да рыначнай эканомікі перыяду, але і ўмацаваць пазіцыі краіны на міжнароднай арэне, прыцягнуць партнёраў для інвесціравання ў беларускую эканоміку.

**Віктар САХАНКОЎ, БЕЛТА.**

*КАНФЕРЭНЦ-ЗАЛА*

## Іван ЦІЦЯНКОЎ: «Максімальна вызваліць бюджэт ад затрат на ўтрыманне...»

**І Кіраўніцтву справамі Прэзідэнта не хочацца сядзець за зачыненымі дзвярыма. У прыватнасці, засведчыла пра гэта ўчарашняя сустрэча кіраўніка гэтай магутнай і разгалінаванай службы Івана Ціцянкова, яго падначаленых з супрацоўнікамі сродкаў масавай інфармацыі. Перш чым адказаць на пытанні журналістаў, Іван Ціцянкоў праінфармаваў пра абсягі дзейнасці Кіраўніцтва справамі, тыя структурныя падраздзяленні, што аб'яднаны разам для забеспячэння нармальнай дзейнасці Адміністрацыі Прэзідэнта.**

Чырвонай ніткай праз выступленні і Івана Ціцянкова, і кіраўнікоў уваходзячых у Кіраўніцтва службаў праходзіла наступная думка, выкладзеная кіраўніком спраў напрыканцы дыялогу з журналістамі: «Максімальна вызваліць бюджэт ад затрат на ўтрыманне...»

І. Ціцянкоў нагадаў структурны падзел Кіраўніцтва: апарат Кіраўніцтва справамі, Галоўнае ўпраўленне адміністрацыйных будынкаў, Галоўнае ўпраўленне па абслугоўванню дыпламатычнага корпуса і замежных дэлегацый, Галоўнае ўпраўленне лячэбна-прафілактычных і санітарна-курортных устаноў, Галоўнае ўпраўленне матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, Рэспубліканскі культурна-асветніцкі цэнтр, «Беларускі Дом друку»... Усяго ў Кіраўніцтве 45 гаспадарчых суб'ектаў з колькасцю працуючых звыш 13 тысяч чалавек.

Зыходзячы з гэтага (а «расклаўшы» кожнае з ўпраўленняў, можна разгледзець і запаведнікі, і аўтапрадпрыемствы, і сельскагаспадарчую вытворчасць, і шмат што яшчэ), упэўніваешся, што Кіраўніцтва здольнае да маштабнай гаспадарчай дзейнасці. Як прыклад — дзейнасць Галоўнага ўпраўлення адміністрацыйных будынкаў. Летась, у прыватнасці, дзякуючы выкарыстанню перададзеных ад іншых суб'ектаў будынкаў гэтае структурнае падраздзяленне прынесла 8 мільярдаў рублёў чыстага прыбытку. На сёлетні год у планах гаспадароў адміністрацыйных будынкаў — прыбытак у 70 мільярдаў рублёў.

Што тычыцца перадачы Кіраўніцтву справамі многіх і многіх будынкаў, то робіцца гэта дзеля навядзення парадку з размеркаваннем памяшканняў. Зараз працуюць 16 камісій, якія займаюцца прыёмкай будынкаў. Камісіі выяўляюць безліч агрэхаў. Як прыклад, прыведзены кіраўніком Галоўнага ўпраўлення адміністрацыйных будынкаў, — і той факт, што Камітэту па справах моладзі ЦК сённяшняга камсамола здае плошчу ледзь як не самай прыбытковай камерцыйнай структуры.

Сведчанне руплівасці Кіраўніцтва справамі — і вяртанне Беларусі маладзёжнага цэнтра «Юнацтва» пад Мінскам (ужо ў часы суверэннай і незалежнай дзяржавы належаў ён маскоўскай арганізацыі «Спадарожніка»). Шмат пытанняў у грамадскасці ўзнікае ў дачыненні да беларускіх санаторыяў, іншых курортных установ за межамі дзяржавы. На прэс-канферэнцыі было адзначана, што ўсе яны на сённяшні дзень з'яўляюцца ўласнасцю Беларусі. І што асабліва важна, дзяржава пачала зарабляць дзякуючы размяшчэнню ў іх і замежных грамадзян немалыя грошы. Што ж датычыць жадаючых адпачываць з Беларусі, то пуцёўкі для нас шмат таннейшыя — ад 3,3 да 5 мільёнаў рублёў (у залежнасці ад нумара, у якім вы пажадаеце адпачываць).

Адна з няпростых задач, якая наперадзе ў гэтай службы, заканчэнне «даўгабуда» апошніх гадоў — Палаца Рэспублікі.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*ТЭНДЭНЦЫІ*

## ЧАЧНЯ ЎЖО ЗАПЛАЦІЛА ЗА СВАЮ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

**Здаецца, ніколі за апошнія пяць гадоў канфлікту народ Чачні не быў так блізка да заваёвы незалежнасці, як цяпер. Масавая антываенная кампанія, накіраваная на вывад расійскіх войскаў з гэтай паўночна-каўказскай рэспублікі, разгорнута ў самой Расіі.**

Здавалася б, па ўсіх законах логікі, ваеннай стратэгіі, палітычнай і эканамічнай мэтазгоднасці, — яна даўно павінна была б стаць на калені перад магутнай ваеннай машынай, якая процістаіць ёй. Уявіце: па тэрыторыі Чачня прыкладна роўная палове не самай вялікай у Беларусі Магілёўскай вобласці, па насельніцтву — наўрад ці дасягае паловы Мінска.

І калі ў снежні 1994-га расійскі міністр абароны Павел Грачоў мімаходзь заўважыў, што для таго, каб разграміць Джахара Дудаева, яму спатрэбіцца адзін парашутна-дэсантны полк — у гэта верылася як у відавочнае.

Потым, як вядома, быў драматычны штурм Грознага, у выніку якога горад сёння нагадвае Сталінград узору 1943 года. Пазней былі шматлікія аперацыі па «зачыстцы тэрыторыі» ў вялікіх і малых гарадах і пасёлках Чачні. Былі Гудэрмес і Аргун. Былі трагедыі стаўрапольскага Будзёнаўска і дагестанскага Першамайскага.

І ўвесь гэты час штодня расійскія жанчыны па ўсёй краіне, ад Смаленска да Камчаткі, хавалі сваіх сыноў... Адначасова з гэтым значная частка народу перастала верыць тым палітыкам і генералам, якія робяць стаўку на ваенную перавагу, на грубую ўзброеную сілу, на знішчэнне тых, хто не хоча скарыцца.

Калі б размова ішла пра некалькі «дудаеўскіх бандаў», як пра гэта доўгі час сцвярджае афіцыйная расійская прапаганда, — Чачня даўно была б вернута ў «канстытуцыйнае поле» Расіі, а Дудаеў, Радуеў, Масхадаў, схопленыя агентамі ФСБ, сядзелі б на лаве падсудных.

Гэтага не адбываецца па цяпер ужо, здаецца, усім зразумелай прычыне: ваююць не банды, а народ. У Чачні праліта столькі крыві, што гэта кроў закранула там, бадай, кожную сям'ю. І за зброю вымушаны быў узяцца нават той, хто ніколі не сімпатызаваў Дудаеву і не быў вялікім аматарам ваенна-палявых гульняў. Сёння для чачэнцаў Басаеў і Радуеў — нацыянальныя героі, на прыкладзе якіх яны выхоўваюць сваіх дзяцей. Можна гэтым абурацца, апеляваць да міжнароднага права, якое асуджае тэрарызм і захоп заложнікаў, але з гэтым нельга не лічыцца.

Грамадская думка ў Расіі, хутчэй за ўсё, ужо гатова падтрымаць тую частку дэмакратычнай інтэлігенцыі, якая заклікае да неадкладнага вываду з Чачні расійскіх войскаў. Бо альтэрнатыва вываду — гады, а магчыма і дзесяцігоддзі крывавай бойні, якая ні з эканамічнага, ні з маральнага пункту гледжання не апраўдана.

Зрэшты, ёсць яшчэ палітычныя матывы, і менавіта імі кіруецца сёння Крэмль, ведучы вайну на Паўночным Каўказе. Галоўнае з пытанняў: ці не разваліцца ўся федэрацыя, калі чачэнскім прэцэдэнтам паказаць прыклад астатнім аўтаноміям?

Небяспека, зразумела, ёсць, але наўрад ці захоча яшчэ які-небудзь з народаў Расіі, гледзячы на лёс Чачні, паўтарыць яе шлях.

Дужа вялікая цана ў гэтай незалежнасці, калі за яе трэба плаціць столькімі ахвярамі і разбуранымі гарадамі. Чачэнскі народ палічыў такую цану прымальнай — і не лічыцца з гэтым выбарам немагчыма.

За развіццём падзей у Чачні з прыметнай занепакоенасцю назіраюць у многіх іншых краінах СНД, дзе бясплённае змаганне з сепаратызмам можа скончыцца аналагічным чынам. Паражэнне Расіі ў Чачні значна аслабіла б спадзяванні Грузіі на тое, што ёй у блізкай будучыні ўдасца вярнуць пад сваё крыло Абхазію. На баку Абхазіі ў час канфлікту 1992 года прайшлі выпрабаванне тады яшчэ нікому не вядомыя чачэнскія палявыя камандзіры Басаеў і Радуеў. Чачэнцы ў выпадку сваёй перамогі зноў пры неабходнасці прыйшлі б на дапамогу абхазцам.

Незалежная Чачня натхніла б і іншыя «самаабвешчаныя» непрызнаныя дзяржавы на прасторы былога СССР — Прыднястроўе, Нагорны Карабах і Горны Бадахшан.

Акрамя таго, чачэнская вайна, якую бясплённа і жорстка вядзе Расія, аб'ектыўна аддаляе ад яе іншыя дзяржавы СНД, аслабляе магчымасць аднаўлення адзінай дзяржавы. Нават тая частка народаў былога СССР, якая настальгічна ўздыхае па колішняй вялікай краіне, назіраючы за чачэнскай бойняй, пачынае разумець каштоўнасць незалежнасці.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*СЯДЗІ І СЛУХАЙ*

## У ГОНАР ДЖАЗАВЫХ КАРАЛЁЎ

**На наступным тыдні вас чакае джаз. З 8 па 10 лютага ў памяшканні Рускага драматычнага тэатра адбудзецца фестываль джазавай музыкі, які праводзіць Дзяржаўны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь. На гэты раз ён прысвечаны 100-годдзю джаза. Фестывалі зараз — задавальненне дарагое, таму на сцэне будуць пераважна беларускія артысты.**

Рыхтуюцца тры праграмы. Першая называецца «Разам з Эдзі Рознерам», яна прысвечана кіраўніку першага на Беларусі дзяржаўнага джазавага аркестра, які быў створаны ў 39-м годзе. Такім чынам, джаз афіцыйна існуе на Беларусі каля 60 гадоў. Традыцыі Рознера працягваў таксама выдатны музыкант Юры Бяльзацкі, які стварыў калектыў на радыё, пасля яго — Барыс Райскі, які многае зрабіў для развіцця джаза на Беларусі. У канцэрце прыме ўдзел народны артыст Расіі Юрый Саульскі. Весці праграмы будзе галоўны знаўца джаза ў былым Саюзе Уладзімір Феертаг.

Асноўны выканаўца ўсяго, што будзе адбывацца ў гэтыя дні на сцэне тэатра, — канцэртны аркестр і яго салісты.

— Нам прыемна, — кажа дырыжор канцэртнага аркестра Міхаіл Фінберг, — што гэты фестываль адбываецца пасля таго, як у жніўні ў горадзе Сочы мы адпрацавалі разам з легендай амерыканскага джаза аркестрам «Каунт-Бэсі».

Другі канцэрт поўнасцю аддадзены вакальнаму джазу. Зноў прыязджае спявачка Неда з Вільнюса, якая спадабалася мінчанам. Прыме ўдзел ансамбль «Камерата» і маладая выканаўца з Пінска Яўгенія Лятун, якой толькі 16. Міхаіл Фінберг яе заўважыў на адным са шматлікіх конкурсаў і лічыць, што дзяўчынку чакае вялікая будучыня, калі яна будзе вучыцца далей. Тым больш што яна любіць гэтую музыку.

У апошні вечар будуць іграць тры калектывы. Ансамбль Ігара Сацевіча падрыхтаваў новую праграму. Група Барыса Бернштэйна на гэты раз выступіць разам са струннай групай. А закончыць фестываль біг-бэнд.

Вядома, з размахам такія мерапрыемствы праводзіць цяжка, але гэтае падтрымала дзяржава, выдзеліўшы хоць і невялікія, але вельмі патрэбныя сродкі. Яшчэ кіраўнік аркестра лічыць: тое, што джаз-фестываль з філармоніі перабраўся ў тэатр, пойдзе яму толькі на карысць: тут лепш аформлена сцэна і можна іграць без апаратуры, «ужывую».

Паслухаем.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

*ШАНУЕМ СВАІХ ГЕРОЯЎ*

## «Уласнымі намаганнямі і адвагай спрыяў свабодзе...»

**ЗАЎТРА спаўняецца 250 гадоў з дня нараджэння нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы, ЗША, ганаровага грамадзяніна Францыі Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі.**



Ён нарадзіўся ў 1746 годзе на беларускай зямлі ў фальварку Марачоўшчына Слонімскага павета Наваградскага ваяводства (цяпер Івацэвіцкі раён).

Усё жыццё Касцюшкі — яскравы прыклад самаадданага служэння ідэалам свабоды і дэмакратыі. Восем гадоў (1776—1784) ён змагаўся ў Амерыцы за незалежнасць ЗША, там стаў генералам, нацыянальным героем гэтай краіны. У 1792 годзе Касцюшка стаў адным з 18 іншаземцаў, якім Заканадаўчы сход надаў годнасць ганаровага грамадзяніна Францыі за тое, што яны «сваімі намаганнямі і адвагай спрыялі справе свабоды і падрыхтавалі вызваленне народаў». Імя нашчадкаў старажытнага беларускага шляхецкага роду з-пад мястэчка Косава стаяла ў адным шэрагу з такімі найвыдатнейшымі прадстаўнікамі народаў свету, як Вашынгтон, Шылер, Гамільтан...

Вяршыняй жыццёвага шляху Касцюшкі стала кіраўніцтва вызвольным паўстаннем 1794 года на тэрыторыі Польшчы, Беларусі і Літвы, барацьба за вызваленне народаў Вялікага княства і Польшчы з-пад прыгнёту.

Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні ў Беларусі 250-х угодкаў Касцюшкі абвясціў 1996 год годам Касцюшкі. У праграме святкавання юбілею — наведванне родных мясцін Касцюшкі, дзе адбудзецца ўскладанне кветак да месца, дзе стаяў некалі дом Тадэвуша (4 лютага); адкрыццё выстаўкі «Наш Касцюшка» ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі (6 лютага); адкрыццё выстаўкі кніг, прысвечанай юбілею Касцюшкі ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь (9 лютага).

Трэба дадаць, што ў красавіку плануецца правесці навуковую канферэнцыю, у маі — адкрыць выстаўку твораў беларускіх мастакоў, у ліпені — адкрыць помнік Касцюшку ў Марачоўшчыне.



*Дж. Вашынгтон віншуе Т. Касцюшку з прысваеннем яму звання генерала.*

*ЁСЦЬ ПАДСТАВА!*

## ПРЭМІЯ ДЛЯ АСАБЛІВА ТАЛЕНАВІТЫХ У АЙЧЫНЕ

**Кінарэжысёр Віктар Тураў вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне кінамастацтва.**

Кандыдатаў на атрыманне прэміі многа ў розных відах мастацтва. Кандыдатура Турава адметная, таму што аднойчы ён быў уладальнікам дзяржпрэміі, толькі былога СССР, а ў сваёй краіне такіх ганаровых узнагарод не меў. За апошнія гады Тураў стварыў фільмы «Высокая кроў», «Чорны бусел», «Шляхціц Завальня», якія і вылучылі яго сярод іншых кінамастакоў. А калі возьмуць пад увагу і папярэднюю творчасць, дзе рэжысёр разважае пра захаванне чалавечай душы, то можа атрымацца неблагі падарунак да 60-годдзя Віктара Турава з боку дзяржавы. Вылучэнне В. Ц. Турава падтрымаў і калектыў «Звязды».

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

**Аб. 160.** Спадзяюся сустрэць сапраўднага мужчыну, які марыць пра сямейнае шчасце. Вы не расчаруецеся. Пра сябе: 35/175, адукацыя вышэйшая, жыву ў раённым цэнтры, люблю дамашнюю ўтульнасць, маю двух сыноў 11 і 6 гадоў. *Адрас у рэдакцыі.*

**Аб. 161.** Чакаю сустрэчы з добрай, сціплай дзяўчынай або жанчынай, якая зможа зразумець, падтрымаць, быць добрым дарадчыкам, сябрам не толькі ў сям'і, а таксама і на працы. Няхай адгукнецца тая, якая аддае сябе мастацтву, музыцы, творчасці.

Чакаю пісьма ад сяброўкі-культработніка ва ўзросце да 29 гадоў. Падрабязнасці пры перапісцы. *Адрас у рэдакцыі.*

**Аб. 162.** Жадаю пазнаёміцца з самастойнай жанчынай з сур'ёзнымі намерамі для сумеснага жыцця, згоднай на пераезд да мяне ў сельскую мясцовасць. Пажадана, каб яна нарадзілася пад сузор'ем Шаляў ці Блізнят.

Пра сябе: Уладзімір, 42/160/60, звычайнай знешнасці, без шкодных звычак. Маю свой дом, гаспадарку, ды гаспадыні няма. Падрабязнасці пра сябе пры перапісцы. *Адрас у рэдакцыі.*

**Аб. 163.** Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з прыстойным мужчынам, пажадана з дзіцем да 8 гадоў, інтэлектуальна развітым, несудзімым, добрым, да 45 гадоў, ростам вышэй 176, гараджанінам.

Мне 33 гады, рост 176, фігура і знешнасць нармальныя, разведзеная, выхоўваю сына 6 гадоў. Жыву ў кватэры з падсяленнем, служачая, небагатая, добрая, верная, шкодных звычак не маю. *Пішыце: 222120, Мінская вобл., г. Барысаў-8, а/я 184, Алена.*

**Паведамляем вам, што аб'ява аб знаёмстве ці пошуку сяброў з поўным зваротным адрасам каштуе 10.000 рублёў, а калі вам не выпадае назваць сябе ў друку, рэдакцыі трэба будзе заняцца перасылкай пошты для вас. У такім разе просім невялікую кампенсацыю за дадатковыя клопаты — 2000 рублёў (усяго 12.000). Калі вы хочаце атрымаць нечы адрас для перапіскі, мы паведамім яго бясплатна. Пакладзіце толькі разам з заяўкай падпісаны на сваё імя маркіраваны канверт. Грошы неабходна пералічыць на рахунак «Звязды» (р/р 3012210270016 у АКБ «Белбізнесбанк», МФО 739), а квітанцыю пакласці ў канверт разам з пісьмом.**




Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

# ОЙ, МЯЦЕЛІЦА

**АПЛАДЫСМЕНТЫ не заціхалі. Гледачы ў захапленні ад песні і танца прасілі выканаць іх яшчэ і яшчэ раз. Артысты задаволена ўсміхаліся — і ўсё пачыналася зноў. Звонка неслася са сцэны: «Ой, мяцеліца, ой, мяцеліца...», і зала ажывала, пагойдвалася ў такт музыкі, здаецца, яна разумела тэкст беларускай песні. Потым уключалася танцавальная група — і на сцэне адбывалася дзівоснае відовішча — віхура, дзе ўладарылі мелодыя, спеў, танец. Уражанне было непаўторнае.**

Так адбывалася паўсюль на гастролях Дзяржаўнага народнага хору Беларусі. Так было і на канцэртах у лістападзе-снежні 1987 года ў Кітаі. Вакальна-харэаграфічная кампазіцыя «Ой, мяцеліца» паланіла кітайцаў. Сардэчна прымалі яны выступленне беларускіх артыстаў, высока адзначалі іх майстэрства, здольнасць у песні, танцы перадаць характар свайго народа, яго душу, неўтаймоўную энергію. Запала ў сэрцы гледачоў песня «Ой, мяцеліца». Яе тэкст пераклалі на кітайскую мову і надрукавалі. Артысты з прыемнасцю ўспамінаюць і гастролі, і песні, якія нясуць людзям радасць, задавальненне...

Песня «Ой, мяцеліца» шырока бытуе ў народзе. Яна ўвайшла ў «Анталогію беларускай народнай песні», складзенай Генадзем Цітовічам, у разнастайныя спеўнікі. Тэкст песні перакладзены на іншыя мовы. Гучыць яна па радыё і ў рускамоўным варыянце. Здаецца, што гэтую песню спявалі нашы дзяды-прадзеды, настолькі ўдала перададзены дух народа, столькі энергіі, бадзёрасці ў мелодыі песні, што верыцца: яна жыве спрадвеку ў гэтай старонцы. А на справе — ёй усяго крыху больш за чатыры дзесяткі гадоў.

Нарадзілася песня ў 50-я гады. Яе аўтар — Авяр'ян Дзеружынскі. Напісаў яе ў Мінску. На той час паэт жыў у раёне Камароўскага рынку, кватараваў з сям'ёю ў драўляным доміку на вуліцы Выдавецкай (цяпер яе няма: растварылася сярод новых забудоў, што акаляюць рынак). Неяк зімою, вяртаючыся дамоў, прабіраючыся праз сумёты, якія намяла завея, А. Дзеружынскі пад павевы завірухі пачаў напяваць мелодыю, самі па сабе наплывалі-складваліся радкі: «Ой, мяцеліца ой, мяцеліца, ўсе дарожкі замяла...». Пакуль ён дайшоў дахаты, прыдумаў тэкст, склаў мелодыю да яго. Праз нейкі час ён напеў сваю песню Генадзю Цітовічу, з якім падтрымліваў сяброўскія сувязі. Сябар, знаўца беларускай песні, ухваліў і тэкст, і песню. Ён запрасіў самадзейнага кампазітара Міхаіла Шуміліна занатаваць мелодыю, згарманізаваць яе.

Так узнікла песня «Ой, мяцеліца». Яна адразу была прынята народам, заняла трывалае месца ў рэпертуары многіх харавых калектываў. У Дзяржаўным народным хоры Беларусі паводле песні створана вакальна-харэаграфічная кампазіцыя (пастаноўка Васіля Варановіча), якая заўсёды вельмі цёпла прымаецца гледачамі.

Песня зачароўвае і сваёй мелодыяй — дынамічнай, імклівай, бадзёрай, і тэкстам, на першы погляд, здаецца, простым, звычайным. Але ў гэтай прастаце, штодзённасці тоіцца глыбінны сэнс нашага існавання — прага да жыцця і развіцця. Прыгадаем з песні шчырае выказванне:

*Я сняжыначкі,*
*Я сняжыначкі*
*Сваім сэрцам растаплю.*
*Ведай, міленькі,*
*Ведай, міленькі,*
*Цябе моцна я люблю!*

Вельмі проста і ў той жа час велічна сказана пра незвычайную сілу кахання. У любові, у неаслабным пачуццёвым парыве закаханыя гатовы зрабіць цуд. Дзеля блізкай асобы. Адзінай. І ў гэтыя імгненні выпраменьваецца такой магутнасці святло, што асвятляе прастору, дзе робіцца цёпла, радасна і ўтульна ўсім, хто знаходзіцца побач. Так і павінна быць у любові, каханні: агонь, запалены сэрцамі дваіх, асвятляе ўсё наваколле.

У параўнанні радкі з любімай рускай песні (ды яшчэ ў непаўторным выкананні Лідзіі Русланавай), дзе таксама пра зіму, каханне:

*Суди люди, суди Бог,*
*Как же я любила!*
*По морозу босиком*
*К милому ходила...*

Тут — неадольная прага быць побач з каханым. І дзеля гэтага незвычайная самаахвярнасць,.. аднак яна тычыцца толькі дваіх...

Беларуская зімовая песня «Ой, мяцеліца» нясе прасвятленне, дабрыню, чыстую радасць. Таму яе ўспрымаюць шчыра ў розных куточках планеты.

**Міхась ШАВЫРНІК.**




## Ой, мяцеліца

***Тэкст Авяр'яна Дзеружынскага***
***Музыка Міхаіла Шуміліна***

Ой, мяцеліца,
Ой, мяцеліца,
Ўсе дарожкі замяла.
Як мне дзеўчыне,
Як мне дзеўчыне, } 2 р.
Ехаць з любым да сяла?

Я сняжыначкі,
Я сняжыначкі,
Сваім сэрцам растаплю.
Ведай, міленькі,
Ведай, міленькі, } 2 р.
Цябе моцна я люблю!

Ой, мяцеліца,
Ой, мяцеліца,
Пагуляла і пайшла...
А вяселейка,
А вяселейка } 2 р.
Едзе з песняй да сяла.

## Сардэчныя болі, захворванні стрававальнага тракта і ўплыў дыеты

**Больш як 800 тысяч чалавек памірае штогод у адных толькі ЗША ад хваробы сэрца. 85—90 працэнтаў з гэтай колькасці паміраюць ад захворванняў сардэчных сасудаў. Зразумела, чаму прагрэс у нашых ведах аб прычынах гэтай хваробы і яе лячэнні так важны.**

Асноўная прычына хваробы сэрца — разнавіднасць артэрыясклерозу, калі звужэнне сасудаў з'яўляецца вынікам адкладання халестэролу на ўнутранай абалонцы сасудаў. Што такое халестэрол? Гэта тлушчавае рэчыва (у вялікай колькасці яно прысутнічае ў яечных жаўтках, мясе, масле, малаку, сырах). Чалавечаму арганізму, вядома, неабходны халестэрол для пабудовы ўласных клетак і выпрацоўкі ўласных гармонаў, але сам жа арганізм і выпрацоўвае яго, галоўным чынам у печані. Увесь лішні халестэрол не можа быць засвоены арганізмам, кропелькі незасвоеных тлушчавых рэчываў асядаюць на сценках сасудаў, паступова звужаючы прасвет і робячы іх цвёрдымі. Артэрыясклероз сардэчных сасудаў немінуча вядзе да недастатковага кровазвароту, а недастатковы кровазварот не можа забяспечваць сардэчную мышцу кіслародам. У выніку гэтага недахопу ці кіслароднага галадання з'яўляюцца сардэчныя болі. У большасці выпадкаў — гэта прыкмета грудной жабы, хваробы нашага часу, асабліва мужчын.

Вось парады, якія дапамогуць вам пазбегнуць гэтага небяспечнага захворвання ці затрымаць яго развіццё.

1. У вашай дыеце павінны адсутнічаць усе тлушчы жывёльнага і расліннага паходжання.

2. Неабходна выключыць з ежы прадукты жывёльнага паходжання, асабліва багатыя на халестэрол (мазгі, яечны жаўток, масла, смятана, сыры, вяршкі, печань, ныркі, ікра, вустрыцы).

3. Рэкамендуецца неператамляцца, трэба пазбягаць хваляванняў, стрымліваць нервовыя ўспышкі. Есці рэкамендуецца невялікімі порцыямі, каб перагружаныя страўнік і кішэчнік не ціснулі на сэрца, не кажучы ўжо аб тым, што стравванне павялічвае работу сэрца на 30—40 працэнтаў.

Пастарайцеся ўлічыць таксама і наступныя парады.

1. Нельга есці пратэіны (мяса, рыбу, яйкі) разам з крухмаламі (хлеб, бульба, рыс, боб, гарох).

2. Калі ёсць магчымасць, пазбягайце вадкіх прадуктаў харчавання: баршчы, супы. Ёсць шмат разнавіднасцей вадкага харчавання, вельмі добрага і пажаданага для дыеты, але ўвесь трагізм у тым, што 99 працэнтаў людзей глытаюць вадкую ежу не пеэражоўваючы. Гэта ў рэшце рэшт прыводзіць да хвароб стрававальнага тракта, бо ежа трапляе ў страўнік без стрававальнай сліны.

3. Трэба вельмі доўга жаваць ежу перад праглынаннем, памятаючы, што ў страўніку зубоў няма.

Многія з тых, хто пакутуе ад хвароб стрававальнага тракта (дыспепсіі і інш.), ніяк не могуць усвядоміць, што ім не дапамогуць ніякія спецыялісты і ніякія лекі, а толькі самадысцыпліна. Навучыцеся жаваць павольна — і вашы непаладкі са стрававальным трактам будуць пакончаны (калі яны былі ад недастатковага пеэражоўвання ежы).

Усяму свету вядомы выпадак з амерыканцам Флетчэрам. У свае 60 гадоў у гэтага чалавека быў настолькі хворы стрававальны тракт, што дактары адмаўляліся яго лячыць. Тады ён вырашыў лячыць сябе сам вельмі старанным і працяглым пеэражоўваннем ежы. Ён поўнасцю вылечыў сябе. Пасля гэтага ва ўсіх кнігах аб здароўі ўменне старанна пеэражоўваць ежу носіць назву флетчэрызму.

**(*Г. Мінеджан.* «Зборнік па народнай медыцыне і нетрадыцыйных спосабах лячэння».)**




Малюнак Леаніда **РАЗЛАДАВА.**

## 10 ТАЙНАЎ БУДУЧАГА НЕМАЎЛЯЦІ

**ПЛОД У ЖЫВАЦЕ МАЦІ не плавае бессэнсоўна ў водах, як якая-небудзь раслінка. Самыя сучасныя даследаванні паказалі, што, пачынаючы з чацвёртага месяца цяжарнасці, чалавечы плод валодае свядомасцю. Ён «ведае», што робіцца вакол, — адчувае, чуе і па-свойму ўсё разумее. Чатырохмесячны плод рэагуе на ўнутраныя змяненні ў лоне маці і на знешнія раздражняльнікі, якія даходзяць да яго. Калі яму штосьці не падабаецца, ён варочаецца ці б'ецца нагамі.**

Амерыканскія спецыялісты пасля шматгадовых даследаванняў падрыхтавалі «табліцу свядомасці» чалавечага плода пасля чацвёртага месяца цяжарнасці. Вось дзесяць пунктаў з гэтай табліцы.

1. Плод валодае пачуццём густу і, як усе дзеці, любіць салодкае. Увядзенне, напрыклад, глюкозы ў плодныя воды паскарае яго глытальныя рухі, а ўпырскванне ёду, наадварот, запавольвае іх, прычым плод крывіцца ад агіды.

2. Плод рэагуе на раздражняльнікі звонку. Напрыклад, дотык да губ выклікае ў яго смактальныя рухі. Пяцімесячны плод рухае галоўкай, калі яе пагладзіць рукой, а паліванне жывата маці халоднай вадой выклікае ў яго гнеў, і ён б'е ножкамі.

3. Плод дубліруе дзеянні і нават настрой маці. Ён дрэмле, калі маці засынае, прачынаецца разам з ёю. Калі маці спакойная, у добрым стане духу, адпачыўшая, то і плод паводзіць сябе спакойна.

4. Вядома, што курэнне шкоднае для будучага дзіцяці, і яно аб гэтым ведае! І настолькі не пераносіць курэння, што нават тады, калі маці падумае, ці не зацягнуцца цыгарэтай, яго сэрца пачынае часта біцца. Гэта адбываецца таму, што ў выніку курэння плод атрымлівае менш кіслароду, што выклікае ў яго балючыя сутаргі. А адкуль ён можа ведаць аб жаданні маці закурыць? Гэта проста: жаданне атрымаць дозу нікаціну парушае гармальную сістэму маці.

5. Яшчэ не народжаныя дзеці запамінаюць словы і цэлыя выразы! Напрыклад, маці двухгадовай дачкі была вельмі здзіўлена, калі дзяўчынка раптам пачала паўтараць: «удых-выдых, удых-выдых». А гэта былі каманды з курсаў для будучых маці. Або іншы выпадак. Маленькая двухгадовая француженка добра разумела па-англійску, паколькі яе маці ў час цяжарнасці працавала ў амерыканскай фірме ў Парыжы.

6. Плод чуе музыку. Ён не церпіць рока, але ў яго «ўзнімаецца настрой» пры гуках музыкі Бетховена, і ён «млее» ад Вівальдзі. Спакойная музыка ўсыпляе яго.

7. Сваркі бацькоў шкодзяць плоду больш, чым нікацін або алкаголь. Яны могуць выклікаць нават выкідыш.

8. Плод рэагуе на святло. Яркае святло, накіраванае на жывот маці, выклікае ў яго стан уцёкаў. Ён пераварочваецца ў жываце, змыкае павекі.

9. Яшчэ не народжаныя дзеці слухаюць бацькоў, рэагуюць на інтанацыю іх голасу. Калі да іх звяртаецца бацька ці маці, яны супакойваюцца, рытм іх сэрца прыходзіць у норму. Урачы раяць, каб маці як мага часцей звярталася да будучага дзіцяці. Пасля нараджэння такія дзеці бываюць больш спакойнымі, не так часта плачуць.

10. На фізічныя траўмы маці плод рэагуе ўжо з другога месяца жыцця. Калі злёгку стукнуць па жываце маці, то ён як бы хаваецца, шукае выратавання.

**Аркадзь ПАЖАРНЫ.**

***(Па матэрыялах амерыканскай прэсы ) «Семья»***

## ПРОПАЛІС — ПРАДУКЦЫЯ ПЧАЛАВОДСТВА

**ПРОПАЛІС (ад лацінскага слова *зарабляць, заклейваць*), ці пчаліны клей, — клейкае, смалістае, з прыемным пахам, зеленавата-карычневага колеру рэчыва, якое збіраецца і выпрацоўваецца пчоламі. Пчолы выкарыстоўваюць яго для замазвання шчылін у вуллі, паліроўкі ячэек і г. д. Восенню, рыхтуючыся да зімоўкі, яны адкладваюць яго ў вялікай колькасці.**

Асноўную частку пропалісу пчолы збіраюць з клейкіх пупышак дрэў. Састаў пчалінага клею неаднолькавы, у сярэднім ён утрымлівае: смол і бальзамаў — каля 35 працэнтаў; эфірных маслаў — 10; воску — каля 30; кветкавага пылку — 5 працэнтаў; акрамя таго, у яго састаў уваходзяць араматычныя рэчывы.

Пропаліс валодае высокім антымікробным дзеяннем, перашкаджае развіццю гніласных працэсаў, спрыяе гібелі мікробаў.

Дзякуючы гэтым уласцівасцям пропаліс здаўна прымяняецца ў медыцыне пры лячэнні захворванняў скуры, туберкулёзу ў выглядзе пропаліснай мазі ці спіртавога раствору.

### Прыгатаванне мазі

Масла даводзіцца да кіпення ў эмаліраванай пасудзіне, знімаецца з агню і дабаўляецца дробна нарэзаны пропаліс. Сумесь бесперапынна размешваецца на працягу 30 хвілін пры тэмпературы 80 градусаў, у гарачым выглядзе фільтруецца праз адзін слой марлі і разліваецца па слоіках. Мазь захоўваецца доўгія гады.

### Прымяненне экстракту пропалісу

Экстракт: 20 г здробленага пропалісу на 100 мл 70-градуснага спірту даюць настаяцца на працягу 3 сутак пры пакаёвай тэмпературы, перыядычна патрэсваючы бутэльку з сумессю. Атрыманы настой прымяняецца пры туберкулёзе, пры танзілітах, запаленні сярэдняга вуха (закапваюць тры разы на дзень па 3 кроплі).

### Лячэнне натуральным пропалісам

1. Пры ***грыпе і ангіне*** (як пры захворванні, так і для прафілактыкі) кусочак пропалісу велічынёй з гарошыну трэба трымаць у роце, зрэдку перакідваючы языком з аднаго боку на другі, на ноч закласці за шчаку. Пропаліс павінен быць добрай якасці, ён павінен выклікаць у роце смыленне і невялікае аняменне языка. Для лячэння ангіны можна таксама павольна жаваць невялічкія кусочкі пропалісу — за дзень да 5 г. Пры добрым пропалісе ангіна праходзіць за два дні без усякіх ускладненняў, што так уласцівы гэтай хваробе.

2. Пры ***зубным болі***: трымаць кусок пропалісу велічынёй з гарошыну ля кораня хворага зуба.

3. Для ***інгаляцыі*** кладуць 60 г пропалісу і 40 г воску ў эмаліраваную міску ёмістасцю 200—300 мл і ставяць яе на каструлю з вадой. Даводзяць ваду да кіпення. Як толькі паднімецца пара з міскі, праводзяць інгаляцыю па 10—15 хвілін два разы на дзень — раніцай і вечарам.

Добры вынік гэты метад дае пры лячэнні бранхіту, туберкулёзу, ангіны, насмарку, грыпу, фарынгіту.

## ЛЯЧЭННЕ ДЗІКАРОСЛЫМІ ТРАВАМІ

**ВЯДОМА ШМАТ РАСЛІН, якія валодаюць высокімі харчовымі і лекавымі ўласцівасцямі, але ў культуру не ўведзены. Прывядзём звесткі толькі аб некаторых дзікарослых ядомых раслінах.**

**АЕР**. Утрымлівае аскарбінавую кіслату, крухмал, эфірнае масла (камфару), дубільныя рэчывы. Узмацняе сакрэцыю салянай кіслаты ў страўніку, зніжае артэрыяльны ціск (калі ён павышаны), аказвае заспакаяльнае ўздзеянне, служыць добрым адхарквальным сродкам. Аер карысны пры гастрыце з паніжанай кіслотнасцю, пры хваробах лёгкіх і нават пры зніжэнні палавой актыўнасці.

**КАЛІНА**. У пладах утрымліваюцца цукры, вітамін С, пекціны, арганічныя кіслоты, у тым ліку валяр'янавая і ізаваляр'янавая, якія аказваюць заспакаяльнае ўздзеянне на цэнтральную нервовую сістэму. Плады каліны аказваюць мачагоннае і патагоннае ўздзеянне, дапамагаюць пры хваробах страўніка.

**КРАПІВА**. Расліна ўтрымлівае вітаміны С, К, $B_2$, карацін, хларафіл, солі жалеза, калію, кальцыю, серу, цукры, бялкі.

Крапіва павышае згусальнасць крыві, павялічвае колькасць гемаглабіну, трамбацытаў і эрытрацытаў, зніжае канцэнтрацыю цукру ў крыві, аказвае мачагоннае, раназажыўляльнае і агульнаўмацавальнае ўздзеянне. Яна карысная пры крывацёках, анеміі, атэрасклерозе, хваробах нырак, мачавога пузыра, пры гемароі, туберкулёзе, пры парушэнні абмену рэчываў.

Крапіва — каштоўны харчовы прадукт. З маладых парасткаў і лісця вараць бацвінне, з лісця гатуюць салаты. Акрамя таго, лісце і парасткі крапівы можна саліць і выкарыстоўваць, як гэта робяць, напрыклад, на Каўказе, у выглядзе прыправы да мясных блюд.

**ЛОПУХ**. У каранях ёсць полісахарыды, інсулін, бялкі, эфірнае масла, дубільныя рэчывы, вітамін С. Лопух аказвае мачагоннае і патагоннае ўздзеянне. Экстракт з кораня нармалізуе састаў крыві, зніжае ў ёй канцэнтрацыю цукру, алкалоіды лопуху прыпыняюць рост злаякасных пухлін.

У ежу ідуць карані расліны, якія валодаюць лячэбнымі ўласцівасцямі пры падагры, рэўматызме, халецыстыце, хваробах страўніка. Карані лопуха тушаць з маслам, пякуць, смажаць, выкарыстоўваюць для прыгатавання першых блюд. З маладога карэння гатуюць салаты.

**МЕДУНІЦА**. У траве медуніцы выяўлены марганец, солі калію, жалеза, кальцыю, вітамін С, карацін.

Медуніца валодае процізапаленчымі, мачагоннымі, раназажыўляльнымі ўласцівасцямі, актывізуе дзеянне вітаміну $B_1$, рэгулюе дзейнасць залоз унутранай сакрэцыі. Выкарыстоўваецца медуніца пры захворваннях лёгкіх, нырак, крыві. З медуніцы гатуюць першыя блюды і салаты.

**СТРЭЛКІ (пастушья сумка).** У расліне прысутнічаюць вітаміны С, К, халін, калійарганічныя кіслоты. Стрэлкі дапамагаюць пры крывацёках, хваробах печані, нырак, пры парушэнні абмену рэчываў, пры паталагічным клімаксе. У ежу можна ўжываць лісце стрэлак. Знаўцы сцвярджаюць, што асабліва прыемным смакам валодаюць маладыя парасткі расліны. Лісце можна нарыхтоўваць і ў запас — яго соляць і сушаць.

**САСНА.** Шыпулькі ўтрымліваюць вітаміны С, К, $B_1$, $B_2$, Р, карацін, дубільныя рэчывы, арганічныя кіслоты, крухмал. Пупышкі сасны аказваюць мачагоннае і адхарквальнае ўздзеянне.

**АЖЫНА (ежевика).** У пладах выяўлены глюкоза, фруктоза, вітамін С, карацін, арганічныя кіслоты, такаферолы.

Ягады ажыны прымяняюцца пры запаленні суставаў, хваробах нырак і мачавога пузыра, пры дыябеце, калітах. Ажына аказвае агульнаўмацавальнае ўздзеянне на арганізм. З пладоў гатуюць варэнне, сіроп, кісель, морс, начынку для пірагоў. Лісце можна заварваць замест чаю, гэты напітак карысны пры хваробах страўніка і печані.

***(Са «Зборніка па народнай медыцыне і нетрадыцыйных метадах лячэння», выпушчанага пад кіраўніцтвам Г. Мінеджана).***

## УСХОДНІ ГАРАСКОП на наступны тыдзень

**З Дэлі перадае кар. ІТАР—ТАСС Леанід КОТАЎ**

**Казярогу** зоркі абяцаюць поспехі на рабоце. У вас паявяцца фінансы для пачатку новага праекта або стварэння невялікага ўласнага прадпрыемства. Бізнес пойдзе ўгору дзякуючы новым знаёмствам і кантактам. Але дзелавым жанчынам прыйдзецца крыху пацярпець: не будзе хапаць часу на асабістае жыццё.

**Вадалея** чакае стабільнасць на рабоце. Не выключана, што вам прыйдзецца штосьці прадаваць або купляць. Чакаецца таксама заслужаны адпачынак у прыемнай кампаніі. Знойдзецца час і на працяглыя зносіны з дамашнімі. Закаханыя атрымаюць магчымасць прызнацца ў сваіх пачуццях і ўзамен атрымаць прызнанне.

Да **Рыб** павінны прыйсці грошы ад паспяховай справы, што завяршылася раней. Паступяць і новыя дзелавыя прапановы, у якіх трэба без спешкі разабрацца. Адзінокім не тое што прадастаўляецца інтэрнат, але падвернецца куточак, дзе яны расстануцца з адзіноцтвам. Астролаг звяртаецца персанальна да дзяўчат-Рыб ва ўзросце да 28. Калі не асмеліцеся выйсці замуж цяпер, будзеце вымушаны чакаць да 40.

**Авену**, наадварот, прыйдзецца часова адсунуць асабістае на другі план. Вам раім больш гарбець на рабоце, каб завяршыць пачатае і перайсці да чарговага новага. Блізкага чалавека ваша няўвага можа нават пакрыўдзіць, але пастарайцеся растлумачыць, што на рабоце запарка, і ён зразумее. Усё ж падрыхтуйцеся да невялікіх непрыемнасцей у сям'і.

На **Цяльца** зваляцца дадатковыя клопаты на рабоце. Вам трэба будзе заняцца фінансавымі пытаннямі, рэарганізацыямі і новаўвядзеннямі. Тыя, хто жадае паспрабаваць сябе ў кіно або на ТБ, атрымаюць прапановы. Дзейнічайце, але ўлічыце — астролагі штосьці маўчаць аб тым, якой акажацца ваша кар'ера.

**Блізнятам** зоркі прадказваюць поспех на рабоце і ва ўсіх справах. Той, хто марыць аб рамантычных пачуццях, будзе іх мець, спартсмены праславяць сябе новымі рэкордамі, вучні здзівяць ведамі настаўнікаў. Не жадаючы ўрывацца ў сферу інтымнага, астролаг усё ж папярэджвае жанчын, якія не імкнуцца пакуль да мацярынства: на гэтым тыдні будзьце больш асцярожнымі.

**Рака** напаткае фінансавы поспех. Вялікімі дывідэндамі «пагражае» вам продаж на гэтым тыдні нерухомасці, расставанне з любімым старым аўтамабілем і аперацыі на біржы. Вы зразумееце, што сямейнае жыццё — гэта шчасце. Нечакана можа ўзнікнуць каханне, якое, зрэшты, гэтак жа раптоўна закончыцца.

У **Льва** наперадзе паспяховы тыдзень. Дзелавыя пачынанні абяцаюць хуткую аддачу. Тыя, хто ў пошуках работы, атрымаюць яе. Вучоных чакае фінансаванне іх пошукаў, некаторых навучэнцаў паклічуць на стажыроўку ў зарубежныя універсітэты і каледжы. Але вось хатнія гаспадыні будуць непрыемна ўражаны дзіўнымі паводзінамі мужоў. Што б гэта значыла?

**Дзеве** лепш за ўсё адправіцца ў падарожжа. А то на рабоце так і глядзі, каб не дапусціць недаравальную памылку і не выклікаць гнеў начальства. Прадстаўніцам цудоўнай палавіны чалавецтва, якія нарадзіліся пад гэтым знакам, зоркі абяцаюць усялякія поспехі, асабліва тым, хто прысвяціў сябе медыцыне.

**Шалям** трэба будзе даведацца штосьці важнае па тэлефоне або з атрыманага пісьма. Сувязістаў, банкаўскіх служачых і гасцінічных работнікаў чакаюць поспехі ў кар'еры. Менш пашанцуе Шалям у сямейных адносінах. Дома вас чакаюць невялікія непрыемнасці, якія, зрэшты, хутка пройдуць.

**Скарпіён** можа заняцца выгаднымі аперацыямі з купляй-продажам. Судовыя справы будуць закончаны на вашу карысць. Народжаным пад гэтым знакам нават гарантаваны поспех у азартных гульнях. Разлучаныя закаханыя паміруцца, а сямейныя пары нацешацца дамашняй утульнасцю.

**Стральцу** трэба ўважліва прыглядзецца да акружаючых яго асоб процілеглага полу. Зносіны з імі на рабоце і дома абяцаюць мноства прыемнага. Тут і перамяшчэнне па службе, і дапамога ў вырашэнні розных праблем. Аднак не будзьце вельмі эмацыянальнымі, не фарсіруйце падзей. Яны ажыццёвяцца без вашага ўмяшання, але на карысць вам.

# «Служу не палітыцы, а праўдзе», —

***сказаў КАРПОВІЧ Алег Іванавіч, мастацкі рэдактар газеты «Свободные новости-плюс», вядомы мастак-графік***

НАРАДЗІЎСЯ на Дзятлаўшчыне, 18 гадоў вучыўся — у школе, затым у Мінскім мастацкім вучылішчы, Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце на аддзяленні графікі. Паўтара года — служба радавым у Савецкай Арміі, і да гэтай пары не зразумеў, у якіх войсках і на якой пасадзе, — няма ж у арміі мастацкіх рот (афіцыйна).

Амаль год — беспрацоўны. Ніводны кінатэатр ці аўтабаза не жадалі мець афармiцеля з вышэйшай адукацыяй, удзельніка міжнародных выставак, але без мінскай прапіскі. Карыстаючыся выпадкам, дзякую газеце «Звязда» за падтрымку ў тыя часы: кожны ганарарны «траяк», атрыманы за малюнкі ў «Звяздзе», не быў лішнім для сям'і.

Беспрацоўе пры сацыялізме — абсурд? Не, калі штампік у пашпарце важней за адукацыю і творчыя здольнасці. Шкада, што з тых часоў мала што змянілася. Працаваў у часопісах «На экранах Беларусі» і «Пралеска». Другі год — мастацкі рэдактар газеты «Свободные новости-плюс». (Дарэчы, гэтаму шаноўнаму выданню днямі споўнілася пяць гадоў, з чым мы шчыра віншуем сваіх калег.)

Хоць і паспеў ужо аформіць больш за сотню кніжак, мяне, відаць, больш ведаюць як аўтара серыі сатырычных малюнкаў, што друкуюцца часцей за ўсё ў газеце «СН+».

Чамусьці вельмі многія лічаць, што я займаюся палітычнай карыкатурай, відаць, таму, што з сатырычнай графікай мы практычна незнаёмы і блытаем сатыру з палітычнай карыкатурай, знаёмай нам па савецкіх газетах. Палітычная карыкатура таму і палітычная, што служыць канкрэтнай палітычнай ідэалогіі. А па мне, калі служыць — дык служыць Праўдзе.

Галоўнае — мець сваю цвярозую пазіцыю і нармальны пункт гледжання. Калі я, як чалавек, супраць вайны ва ўсіх яе праявах (на словах усе мы такія), то ніхто і ніколі не дачакаецца ў маіх малюнках апраўдання нават маленькага мардабойчыка. Мне аднолькава агідныя і збіванне дэпутатаў у будынку Вярхоўнага Савета, і пасквільныя пляўкі ў бок Прэзідэнта.

Дарэчы, аб тым, як я малюю. Заўсёды толькі з натуры. Як і тысячы беларусаў, уключаю тэлевізар, але бяру ў руку аловак і малюю. І прабачце, натуршчыкі ад экрана, калі нехта з вас выглядае самазадаволеным катом ці пустаслоўным папугаем, будзьце ўпэўнены — на малюнках вы сябе такімі і ўбачыце. Дарэчы, паглядзець на сябе збоку заўсёды карысна, гэта намнога лепш, чым пры ўладзе чуць лісліваю хлусню, а пасля адстаўкі ад тых жа лісліўцаў шклянкі вады не дапрасіцца. Апошні прыклад, да чаго можа давесці хлусня і ліслівасць, — Кізляр. Але пакуль з вуснаў генералаў не пасыпаліся яўныя глупствы і тэлебачанне не паказала гэта, пакуль не пралілося столькі чалавечай крыві, аж пакуль не надышоў час прэзідэнцкіх выбараў, — нікому непатрэбная вайна апраўдвалася. А беларускія газеты ў гэты час баяліся друкаваць малюнкі на антываенную тэму, чакалі, які фарш атрымаецца ў выніку чачэнскай мясарубкі, — цікава, перад кім лісліві і каго баяліся?

А можа, таму і блытаем сатырычную графіку з палітычнай карыкатурай, што баімся сказаць праўду, як і пачуць ці ўбачыць праўду. Таму, відаць, і стаяць палітычныя карыкатуры, высечаныя з каменю і адлітыя з бронзы амаль на кожнай цэнтральнай плошчы беларускіх гарадоў (добра, калі 10 працэнтаў з іх рабіліся мастакамі), а самі канспектуем глупствы, раскідваемыя з высокіх трыбун. А можа, Праўда — і ёсць самая вялікая і патрэбная палітыка?

**СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ • СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ • СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ • СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ • СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ**

## ЧАЙНВОРД «А»

1. Смеласць, рашучасць. 2. Рака, апетая ў паэме Я. Купалы. 3. Беларускі паэт, аўтар паэмы «Сцяна», прысвечанай абароне Брэсцкай крэпасці. 4. Вялікая змяя сямейства ўдаваў. 5. Беларускі майстар гравіроўкі па дрэве канца XVII—пачатку XVIII ст. 6. Кураслеп. 7. Вядомы беларускі і ўкраінскі балетмайстар. 8. Мерапрыемства па ахове правоў і інтарэсаў асоб, якія не ў стане самастойна весці свае справы. 9. Беларускі казачнік-апавядальнік. 10. Шлях, па якім рухаецца нябеснае цела. 11. Перакрыццё ў форме дугі паміж дзвюма апорамі. 12. Старая мера аб'ёму сыпкіх рэчываў у Расіі, на Беларусі. 13. Сталіца Турцыі. 14. Відавочная навуковая ісціна. 15. Дзіцячы курорт у Краснадарскім краі. 16. Беларускі спявак, народны артыст БССР. 17. Таполя дрыжачая. 18. Мускусны пацук. 19. Польская пісьменніца, аўтар рамана «Над Нёманам». 20. Медыцынска-лекавая ўстанова. 21. У рымскай міфалогіі: багіня світання і дзённага святла. 22. Штат у ЗША. 23. Птушка атрада вераб'іных. 24. Неабрэзаны край дошкі. 25. Рускі пісьменнік — аўтар рамана-казкі «Тры таўстуны».

**Склаў Уладзімір НЕСЦЯРОВІЧ.**
*г. Мінск.*

## КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 5. Начная птушка. 6. Мінская падпольшчыца, Герой Савецкага Саюза. 9. Гібкія расцяжкі для мацавання вісячых канструкцый. 10. Пачатковы перыяд эксплуатацыі машын. 11. Буйны населены пункт. 12. Салёнае самасадачнае возера ў Прыкаспіі. 14. Міжнародны дагавор. 16. Балет М. Крошнера. 18. Зімовая спартыўная пляцоўка. 20. Мінерал класа карбанатаў бела-шэрага колеру. 21. Буйнейшая ў Еўропе група народаў, аб'яднаная агульнасцю паходжання і роднасцю моў. 24. Від феадальнай рэнты. 26. Папераменнае спяванне двух хораў. 28. Дзяржава ў Лацінскай Амерыцы. 29. Старадаўні летні сорт грушы. 32. Горны баран. 33. Паэма Я. Коласа. 34. Мужчынскі капялюш. 35. Беларускі цымбаліст, дырыжор, кампазітар, народны артыст СССР. 36. Ганаровае званне пераможцы ў творчым спаборніцтве.

**Па вертыкалях:** 1. Галоўны персанаж балета П. Чайкоўскага «Лебядзінае возера». 2. Соль шчаўевай кіслаты. 3. Сузор'е паўночнага паўшар'я неба. 4. Пакрыццё керамічнага вырабу белай або каляровай глінай. 5. Стылістычная фігура ў вершаскладанні. 7. Духавы музычны інструмент. 8. Важная харчовая і кармавая культура. 12. Камандная спартыўная гульня з мячом. 13. Птушка сямейства ібісавых. 15. Раман І. Шамякіна. 17. Від падатку на Беларусі ў 15—18 стст. 18. Прылада для лоўлі рыбы ў неглыбокіх зарослых месцах. 19. Дэталь у музычных інструментах для замацавання і нацягвання струн. 22. Рэчыва ў выглядзе зярняці. 23. Акружэнне, навакольнае асяроддзе, становішча. 25. Метал, легіруючая дабаўка да сталі. 27. Сталіца астраўной дзяржавы на Міжземным моры. 28. Вялікі круг нябеснай сферы. 30. Сукупнасць відаў жывёл пэўнай тэрыторыі. 31. Міжнародны маладзёжны цэнтр у Крыме.

**Склаў Аляксандр ЛОБАН.**
*Капыльскі раён, в. Грозава.*

### Адказы і рашэнні

**КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД** *(27 студзеня).* **Па гарызанталях:** 7. Гармата. 9. Абарона. 10. Азначэнне. 11. Адлас. 13. Чарот. 15. Конік. 16. Калгас. 18. Статак. 19. Поліўка. 20. Палонка. 22. Краска. 24. Даніна. 26. Цурка. 28. Капец. 30. Цешча. 31. Утрыманне. 32. Хвораст. 33. Валошка. **Па вертыкалях**: 1. Кавадла. 2. Палас. 3. Карнік. 4. Вапняк. 5. Далеч. 6. Знямога. 8. Начынне. 12. Адгалоссе. 14. Апазненне. 17. Сяўба. 18. Склад. 21. Стрэмка. 23. Рвацтва. 25. Начоўкі. 26. Цырата. 27. Аснова. 29. Цукар. 30. Цесля.

**КРЫПТАГРАМА** *(27 студзеня).* Ключавыя словы ў ёй: Бальзак, дыямент, Порціш, рэбус. Выказванне Бальзака такое: «Тытунь прыносіць шкоду целу, разбурае розум, атупляе цэлыя нацыі».

***Першай адказ на крыжаванку (20 студзеня) даслала Раіса Троіцкая з Вілейскага раёна.***

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.



Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



**Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.**
**Тыраж 113326. Індэкс 63850.**
**Зак. № 568.**
**Выходзіць 250 разоў на год.**
**Нумар падпісаны ў 20.15.**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**